Міхась Булавацкі




Магілёў 2023

УДК 821.161.3
ББК 84.4(4Беі)
Б 90

**Булавацкі, Міхась.**
Выжыць у СССР : расповеды з рэальнага жыцця / Міхась Булавацкі. – Магілёў : 2023. – 248 с. : іл.

СССР – гэта ўжо гісторыя. Не такая далёкая як, напрыклад, Вялікае Княства Літоўскае ці Беларуская Народная Рэспубліка, але ўсё ж гісторыя, якая з кожным годам аддаляецца. Ужо вырасла пакаленне беларусаў, якія не нарадзіліся ў СССР і мала ўсведамляюць, якой гэтая краіна была, не кожны нават раскрые тую абрэвіятуру. Але там жылі людзі, з кожным з якіх звязана свая гісторыя, маленькая, нязначная, непрыкметная ці, наадварот, вялікая, значная, вартая ўвагі як частка гісторыі народа ці нават не аднаго народа. Аўтар кнігі распавядае пра падзеі, якія адбываліся з ім самім ці людзьмі блізкімі, якія жылі побач ці жылі раней. Праз гісторыі “маленькіх” людзей, заснаваных на падзеях рэальнага жыцця, можна адчуць подых гісторыі народа, нацыі ў пэўны гістарычны перыяд, чым гэтая кніга і можа прывабіць.

**УДК 821.161.3**
**ББК 84.4(4Беі)**

# Легенда пра каваля Булаву

Некалі наша краіна называлася Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, бо было ўтворана літвінамі, русінамі і жамойтамі. Было яно паяднаным з Каралеўствам Польскім дзеля агульнай справы – так і назвалі гэтае аб’яднанне дзвюх дзяржаў: Рэч Паспаліта (Агульная Справа). А заключалася тая агульная справа найперш у абароне ад ворагаў – ад крыжакоў з захаду і ад маскалёў з усходу. Крыжакоў разбілі пад Грунвальдам у 1410 годзе, ды так разбілі, што пяць наступных стагоддзяў ніякая свалата не лезла з таго боку на нашы землі. Але маскалі, нібы тыя восы-шэршні, зудзелі ды кружлялі вакол. І хоць былі бітымі не адзін раз, як на Крапівеньскім полі пад Воршай у 1514 годзе ці ля ракі Вула пад Чашнікамі ў 1564 годзе, але збіралі сілы і йшлі “адпомсціць”. І помсцілі, джалілі жорстка і лютажэрна. Здаралася, што больш за палову насельніцтва губляла наша краіна ў тых войнах, якія ў сучаснай расейскай гісторыі называюць чамусьці “польскімі”.

Здаўна славілася наша краіна сваім рамесніцтвам. Найбольшай павагай карысталіся кавалі, бо плён іх працы патрэбен быў і земляробу, і цесляру, і дрывасеку. Усё маглі зрабіць кавалі з паслухмянага ім металу, але, на жаль, талент свой часцей скарыстоўвалі на выраб зброі, бо зброі для абароны ад ворага патрабавалася шмат. Каб вырабляць яе найякасней і найхутчэй, у кавальскай справе з’явіліся адмыслоўцы, што выраблялі толькі зброю аднаго віду і не браліся за іншае. Нехта налаўчыўся выкоўваць добрыя дзіды – і да яго йшлі заказваць толькі дзіды. Другі выробляў мячы і шаблі, трэці – кальчугі, чацвёрты – шаломы...

Пад Асіповічамі, у месцы, пазначаным сёння чатырохкутнікам вёсак Грава – Малаграўка – Амінавічы – Пагарэлае (найбольш верагодна – у Амінавічах), напрыканцы XVIII стагоддзя жыў каваль, які выробляў добрыя булавы. А булавы – гэта не толькі зброя, гэта найперш сродак шляхецкага гонару (як бы цяпер сказалі: пратакольная рэч). Шляхціч, які паважаў сябе, на ўрачыстасцях павінен быў паказвацца на добрым кані, пакрытым адмысловай гунькай з

гербам, калі той герб меўся, і з булавой на поясе. Нават калі пана суправаджаў збройнік, які нёс зброю, булава ўсё адно павінна быць пры назе пана. Патрабавалася, і каб зручна яна трымалася як на поясе, так і ў руцэ, і каб была не цяжкай, але моцнай. Стукнеш па камені – і разваліцца камень як варожая галава, а на булаве ні драпінкі. Найцяжэй было выкаваць трывалыя і надзейныя шыпы, бо не было тады ні электрапрэсаў, ні зварачных апаратаў, а выкоўвалася ўсё з аднаго кавалка металу. Вось гэты каваль і меў спрыт на добрыя булавы.

Слава пра яго майстэрства разносілася далёка, і ехалі да яго шляхцюкі з розных местаў і плацілі добра. Яго так і клікалі – Булава, а імя амаль ніхто й не ведаў. Яго, звычайнага рамесніка, ужо запрашалі на абед да таго ці іншага шляхціча. І аднойчы нехта звярнуў на гэта ўвагу: як так?! – сядзіць за сталом побач са шляхтай, а шляхецкага звання не мае. І прозвішча не шляхетнае – Булава. Хай будзе Булавацкі. А яму – што Булава, што Булавацкі – без розніцы. Хоць гаршком назаві, – ён сваю вартасць ведае. І пра афармленне шляхецкага прывілею не вельмі турбаваўся. Але дарэмна не патурбаваўся...

Саслабла Рэч Паспаліта ад розных войнаў ды міжусобных разборак. Раздзёрлі яе груганы – Прусія, Аўстра-Венгрыя і Расія. Землі ўсходняй Беларусі дасталіся Расіі. І пачала імператрыца маскоўская ўзнагароджваць сваіх прыбліжаных заваяванымі землямі разам з людзьмі, што спакон веку вольна жылі на гэтых землях. Так славуты каваль Булава (ці ўжо Булавацкі) стаў кавалём прыгонным. І не мог цяпер ён рабіць, што хоча і каму хоча, а павінен стаў выконваць волю барына.

Не магла вольная душа прымірыцца з новым парадкам. Не мог паважаны людзьмі каваль зносіць панскую пагарду. Стаў неяк на калені перад жонкай, павініўся, пакінуў ёй з дзецьмі ўсё зробленае і – хай даруюць яму Бог і людзі – сышоў у свет. Пайшоў шукаць вольнага жыцця на землі, якія шчэ не займелі расейскага пана-гаспадара. Дый не далёка шукаць давялося. Вёрст за пяцьдзясят асеў у вёсцы Глуша. Дапамаглі людзі знакамітаму майстру пабудаваць кузню і хату і пачаў ён рабіць звычайную кавальскую

справу на патрэбу і на радасць тамтэйшым жыхарам. Слава пра добрае разносіцца хутка, але слава бывае небяспечнай. Дайшлі чуткі пра каваля і да паліцыі. Прышлі паліцыянты яго арыштоўваць, каб вярнуць беглага халопа свайму “законнаму” гаспадару. Але не захацелі людзі аддаць такога каваля, сабралі грошы і выкупілі каваля. Жонку ж і дзяцей выкупляць не захацелі, засталіся тыя ў панскім прыгоне. А каваль Булавацкі разжыўся ў Глушы, пабудаваў новую хату, ажаніўся наноў і пайшлі ад яго новыя Булавацкія, якія часцей працягвалі кавальскую справу. Яшчэ напрыканцы XX стагоддзя ў той ці іншай вёсцы можна было знайсці каваля Булавацкага (Васіль Булавацкі з Глушы ды Васіль Булавацкі з вёскі Горнае ці не апошнія з іх?).

Гісторыя ўтойвае, што было з дзвюма галінамі роду Булавацкіх на працягу XIX стагоддзя. Не засталося адтуль ніякіх звестак. Але на пачатку XX стагоддзя яны дзіўным чынам сустрэліся.

Лёс аднаго чалавека ці адной сям’і заўсёды так ці інакш звязаны з лёсам вялікай колькасці людзей – народу, нацыі, насельніцтва краіны. На пачатку XX стагоддзя Расійскае самадзяржаўе ўжо станавілася тормазам у развіцці імперыі. Рэвалюцыі і бунты парушалі спакой і патрабавалі нейкіх зменаў. Цар Мікалай II пагадзіўся на рэформы, прапанаваныя міністрам Сталыпіным. Памешчыкаў, што валодалі аграмаднымі зямельнымі плошчамі, якія ніяк не выкарыстоўваліся, цяпер абавязвалі гэтыя землі прадаваць ці здаваць у арэнду, каб у зямлі з’явіліся клапатлівыя гаспадары і каб ад зямлі можна было мець нейкі прыбытак. Дый купляць землі ўжо было каму, бо пасля адмены прыгоннага права прайшло больш за сорак гадоў і хто-ніхто з былых прыгонных ці іх нашчадкаў назапасіў крыху грошай.

Генерал Жылінскі, адзін з багацейшых магнатаў нашых краёў, пачаў прадаваць найгоршую частку сваіх земляў, балоты ўсходняга Палесся паміж Асіповічамі і Глускам, часткова асушваючы іх (Юзаф Жылінскі быў на той час вядомым у Еўропе меліяратарам). Сярод купцоў, якія прыдбалі сабе зямлю ў гэтым месцы, быў і Іван Булавацкі з роду глушанскіх Булавацкіх, які жыў на той час у вёсцы Рудня. А кіламетры за тры ад сядзібы Івана Навум Булавацкі з

роду амінаўскіх Булавацкіх узяў зямлю ў арэнду ў пана Земскага. На тое, каб купіць, грошай не сабралася. Побач з Навумам арандаваў зямлю яго брат Рыгор.

Два-тры кіламетры – не адлегласць. Пазнаёміліся дзве сям'і Булавацкіх, пашукалі агульных сваякоў, не знайшлі, падзівіліся супадзенню прозвішчаў, не так ужо й распаўсюджаных, ды супакоіліся ў сяброўстве. А праз колькі год Іванаў Пятро пакахаў Навумаву Анцю, хутка й вяселле згулялі. Так аб'ядналіся дзве галінкі роду Булавацкіх. Няма ўжо ні Пятра, ні Анці, але жывуць іх праўнукі. Ім трэба ведаць, адкуль іх род.

Распавёў пра ўсё гэта першынец Івана, Васіль Булавацкі, каваль з вёскі Глуша, незадоўга да сваёй смерці ў 1988 годзе. Запісаў і ўпарадкаваў гэтую гісторыю Міхась Булавацкі, сын Пятра, Васілёвага брата.

Пра іх, пра Пятра і Васіля далейшы расповед.

# ВЫЖЫЦЬ…

## ЧАСТКА І. Я ВЯРНУСЯ…

### 1. Дахадзяга

Чалавек поўз. Поўз, таму што ўжо не мог ісці. Поўз, не ведаючы мэты і сэнсу свайго руху, поўз рухомы апошнімі сіламі цела ці, хутчэй, нейкімі жывёльнымі інстынктамі выжывання. Ён ужо не арыентаваўся ў часе, не мог згадаць, колькі часу прайшло пасля таго, як іх барак вывелі ў тайгу для чарговых лесанарыхтовак і канваір, расставіўшы ўсіх па сваіх месцах працы, павярнуўся да яго і працягнуў паперку:

– А ты вольны. Ідзі, дахадзяга, падыхай у лесе, а не ў лагеры. А то яшчэ мучыцца закопваць твой труп.

“Вольны…” Навокал дзікі лес на доўгія снежныя кіламетры і ты ў ім без акрайца хлеба, сам-насам з сваім нягеглым лёсам. Хочаш – ідзі, хочаш – паўзі, хочаш – кладзіся ды замярзай ці чакай, пакуль не наткнецца на цябе воўчая зграя. “Але ж і не насыцяцца маімі косткамі,” – крыва ўсміхнуўся Пятро.

Чалавек марудна поўз… І марудна паўзла яго памяць.

Прайшло каля двух гадоў, як па яго ды трох іншых вяскоўцаў прыехала чорная машына. Два гады, а здаецца, што дваццаць. Столькі ўсяго featured рознага наздаралася за гэты час. Забіралі здаровага трыццаціпяцігадовага мужыка, а цяпер – дахадзяга, труп якога нават закапаць лічаць нявартым клопатам. “Освобождён по состоянию здоровья”. Слова “здароўе” ў гэтай паперцы выглядала нейкай недарэчнасцю. Яго, здароўя, ужо хутчэй не хопіць, каб выпаўзці да людзей. Але цаля за цаляй пасоўваўся ён на захад, туды, дзе была яго зямля, купленая трыццаць год таму бацькам у пана Жылінскага, дзе жывуць (а ці жывуць?) яго жонка і трое дзяцей. Думкамі ён быў ужо там і цела, заварожанае тымі думкамі, паволі грэблася ў родны бок. Але жыццёвыя сілы сыходзілі, а да

роднай зямелькі тры тысячы кіламетраў. Іх не прапаўзеш. І нават не пройдзеш.

Дзе цяпер Васіль, брат? Можа, таксама з Калымы паўзе? Але ж не. Гэта тут каля Омска можна паўзці, вясновы мароз невялікі. А там ляжаш і скалееш адразу. Адно што мучыцца не трэба доўга, як тут. Ці ўсё ж і там кавальскае ўмельства выратуе? Добрыя кавалі, мусіць, патрэбныя і на Калыме.

– Дурань ты, Пятро! – казаў Васіль. – Што ж ты выменьваеш пайку на тытунь. Так доўга не працягнеш, саслабееш і звалішся.

– Ай, – махаў рукой Пятро, – нам усё адно тут каюк. Каму раней, каму пазней. Ты шчэ спадзяешся вярнуцца?

– Спадзяюся. Дзесяць гадоў некалі заканчваюцца.

– Ты, можа, і вернешся. У кузні не змерзнеш. І праца па сілах, свая праца. А на тую працу, куды нас ганяюць, маіх сіл ненадоўга хопіць. Вось падумай: каб ім патрэбныя былі людзі для працы, то яны хоць бы кармілі нас як трэба. І мы б нешта вартае рабілі. А нас кормяць так, каб падохлі. Які здаравяк быў Алесь Герман! Помніш, як ён на касьбу прыносіў з паўкіло сала, паўбохана хлеба, літровую бутэльку малака, агуркі, цыбуля ды іншая гародніна не ў разлік. На перакусе ўсё гэта ўмінаў і казаў, што толькі крыху страўнік залагодзіў. Затое ж і працаваў за двох ці трох. А тут… За паўгода змарнеў… І мне туды дарога…

У Томасінлагу, куды яны патрапілі воляй “особого совещания” намесніка начальніка Новасібірскага ўпраўлення наркамата ўнутраных спраў і намесніка пракурора Новасібірскай вобласці, начальнік лагера капітан Аўтаномаў пачаў высвятляць, кім працавалі да арышту. Слова “каваль” капітана ўзрадавала: каваль быў вельмі патрэбны. Так Васіль пачаў гаспадарыць у лагернай кузні. Яму і пайку большую выдзелілі, якой ён раз-пораз дзяліўся з Пятром. Васіль прапанаваў начальніку даць яму ў падмогу Алеся Германа, які і быў яго малатабойцам у калгаснай кузні, але начальнік адмовіў: двое з адной вёскі могуць змовіцца на пабег ці на што іншае. Малатабойцам прызначыў каржакаватага башкіра, дужага мужыка, які аднак кавальскай справы не ведаў.

Неяк начальнік лагера выклікаў:

– Трэба зрабіць брычку, прыгожую, утульную. Зможаш?

– Чаму ж не. Змагу, калі будзе добрае дрэва.

Дрэва яму прывезлі рознага, на выбар. І брычку Васіль вымайстраваў на замілаванне. Маленькі двухмесны вазок з фігурнымі парэнчамі на пругкіх рэсорах, на абабітых металам шырокіх колах, з адкідным навесам, пад якім можна ездзіць і пры дажджы, начальніку спадабаўся. Васіль атрымаў прэміяльную пайку з пляшкай гарэлкі. А начальнік раз-пораз запрагаў буланага канька і фарсіста пускаў яго рыссю, аб'язджаючы ўчасткі лесанарыхтовак.

Аднойчы ў лагер зазірнуў з праверкай нейкі больш высокі начальнік у рангу маёра. Убачыў брычку і загарэўся.

– Адкуль яна ў цябе?

– Адзін зэк зрабіў.

– Пакліч яго.

Васіля прывялі.

– Ты зрабіў брычку?

– Я.

– А яшчэ можаш зрабіць?

– Магу. Чаму ж не. Дрэва добрае трэба. І метал.

Прывезлі і дрэва, і металу. І брычка атрымалася лепшая за першую.

Не ведаў Васіль даўнейшай расійскай традыцыі: калі зрабіў нешта прыгожае, то не кажы, што можаш зрабіць лепш. І не рабі так. Інакш вочы выкалюць ці руку адсякуць, каб не зрабіў. Не ведаў Васіль, што мець які б то ні было талент у Расіі рызыкоўна. Прыгажосць тут суседнічае з зайздрасцю, а зайздрасць заўсёды небяспечная.

Аўтаномаў на новую брычку пазайзросціў. І вырашыў прысабечыць. Ён забраў яе, а Васілю загадаў прыкаціць першую, каб абнавіў яе – колы памяняў, пачысціў, пафарбаваў. І аддаў маёру. Вось тут Васіль адчуў, што ступіў у гаўно, але нічога не паробіш – загад начальніка. Калі маёр прыехаў па брычку, яму паказалі падноўленую. Ён агледзеў яе і пачухаў патыліцу. Паклікаў капітана:

– А пакажы-ка сваю.

– Мая вось гэтая, – не разгубіўся Аўтаномаў. – А тая, новая, ваша. Яе зараз прыкоцяць.

– А чаму ж гэты хрэн мне старую паказаў?

– Ну што з дурнога возьмеш! Можа, мяне хацеў задобрыць, каб я яму лішнюю пайку даў.

Раз’ятрыўся маёр. Паехаў назад на новай брычцы з мяккімі рэсорамі пад брызентавым навесам. А Васіля  і яшчэ некаторых зэкаў за розныя правіннасці пацягнулі на Калыму.

Пятру нядоўга давялося сумаваць па брату ў Томасінлагу. Яго з групай іншых дахадзяг перадалі ў Омсклаг. Калі іх выгрузілі і неяк зшыхтавалі на лагерным двары, начальнік Омсклагу, агледзеўшы няроўны шыхт, брудна вылаяўся, махнуў рукой і пайшоў у свой кабінет, буркнуўшы “Не афармляць!” Далей імі займаліся нізавыя вертухаі. Ад групы пераведзеных у хуткім часе амаль нікога не засталося. Пятро быў ці не апошні з іх…

Трэснула галінка на дрэве. Пятро страпянуўся, што ляжыць, не рухаецца. Холад паступова залазіў пад вопратку, скоўваў усё цела. Хацелася скруціцца абаранкам і заснуць. Лёгкая смерць! Не, можна яшчэ якую гадзіну пажыць. Ён з цяжкасцю падняўся на ногі. Глянуў уверх. Збоку на хвоі сядзела рысь і глядзела на яго. “Брысь, рысь! – ці то сказаў, ці то падумаў Пятро і скрывіў вусны ва ўсмешцы ад гэткай рыфмы. – З мяне наедак кепскі, шукай каго іншага.” Падняў сукаватую галіну і з апорай на яе пачаў пераству́ляць ногі, якія не вельмі слухаліся…

На радзіме цяпер вайна. Пра такія навіны і лагернікі даведваюцца. А яму і даведвацца не трэба: у Мазыры арыштаваных не паспелі асудзіць за два месяцы, з пачаткам вайны павезлі са следчым у Новасібірск. Вось які шанец следчаму: дзякуючы няшчасцю чатырох небаракаў ад вайны ўцёк, жывым застанецца!..

Як там Аньця? Як дзеці? Міколка, мабыць, дапамагае мацеры. Адзінаццаты год пайшоў. Мужык. Добра, што першым нарадзіўся сын. Памочнік цяпер вельмі патрэбны. Марыйка, сёмы гадок. І яна ўжо сёе-тое можа рабіць. Хоць бы карову папасвіць. А

мо і падаіць? А як самая меншая, Раечка? Як яна любіла гушкацца ў яго на руках. “Татка, пагуськай!”

Калі Пятра забіралі, яна, мабыць, мацней за іншых адчула жах падзеі, павісла на шыі з плачам: “Не пусьцю!” Старэйшыя дзеці, знямелыя, нерухомыя, глядзелі ў сполаху спадылба, а гэтая абвіла шыю з сілай, якой раней ён не адчуваў у яе, і крычала, захліпаючыся: “Татка, не едзь!!” Тыя, што прыехалі арыштоўваць, мабыць, былі ўражаныя гэтым дзіцячым енкам, і не адразу ўзяліся адрываць дзяўчынку, потым пачалі тузаць яе, але яна трымалася моцна за шыю, і ён сказаў:

– Пачакайце, я сам.

Пацалаваў дачку, пагладзіў па спіне і сказаў, імкнучыся, каб голас гучаў роўна, спакойна:

– Пусці. Я вярнуся…

“Я вярнуся”. Тады здавалася, што гэта нейкае непаразуменне, бо няма за ім ніякай правіннасці. Разбяруцца і адпусцяць. Ну, магчыма, паўшчуваюць за якое “няправільнае” слова.

Малады следчы з кашэчым прозвішчам Мурзікаў некалькі разоў пытаўся, ці прызнаѐ ён сябе вінаватым у правядзенні антысавецкай агітацыі, і ўрэшце запісаў адказ “Не, не прызнаю”. Але на допыты старанны сяржант выклікаў усё новых калясянцаў (так называлі жыхароў вёскі Восы-Калёсы), і з іх паказанняў назбіралася нешта, каб зрабіць пастанову: “Булавацкі Пётр Іванавіч дастаткова выкрываецца ў тым, што распаўсюджваў паклёп на адрас правадыра народаў, сістэматычна выказваў незадавальненне да Савецкай улады і калгасаў”.

Што праўда, незадавальненне было.

Калі ў 1936 годзе ў сельсавеце сабралі ўсіх хутаранцаў і загадалі ім перасяляцца на выдзеленае пад вёску месца, каб стварыць калгас, Пятро быў адным з першых, хто паверыў у разумнасць ідэі калгасаў.

– Ну вось, глядзіце, – казаў ён мужыкам, – калі камусьці з нас трэба збудаваць хату ці расчысціць плошчу ад лесу, мы ж не поркаемся па адным, а збіраем талаку і робім разам. Адзін нават

дужае дрэва паваліць не зможа. А вялікія справы робяцца талакой. Давайце аб'яднаемся і ўсё будзем рабіць разам. Нашмат болей зрабіць зможам.

– Але ж мы яднаемся не з кожным, – пярэчылі яму. – Выбіраем, ад каго будзе болей карысці ў працы. А тут збіраюць усіх разам – і працавітых, і гультаёў.

– Ды дзе ж вы бачылі гультаёў на зямлі? – абураўся Пятро. – Гультая зямелька не пракорміць, падохне з голаду. Ці пойдзе красці. Гультаёў у нас няма.

– Гультаёў няма. Але ж і гаспадары розныя.

Мужыкі ўсміхаліся, хісталі галовамі, але выбару ў іх не было. Да таго, хто думаў занадта доўга, аднойчы на хутар прыязджала машына з мужыкамі суседніх вёсак, яны сцягвалі дах і казалі:

– Калі хочаш, дапаможам перавезці бярвенні зараз, а не хочаш, – будзеш перавозіць сам.

Так вёска ўрэшце засялялася.

Самым упартым супраціўленцам аказаўся Тодар Елін. Яго хату раскідалі, перавезлі і нават паставілі на новым месцы. Туды пераехала жонка з дзецьмі. А сам Тодар выкапаў зямлянку на сваёй (на сваёй!) зямлі, набытай за грошы, заробленыя шчырымі мазалямі і крывёй цягам усяго доўгага і цяжкага жыцця, і жыў там. Перасяліўся ў хату толькі на пачатку вайны, бо збаяўся, каб немцы не палічылі яго за партызана і не стрэльнулі. Праўда, ненадоўга ўратаваўся.

Калі першыя турботы з перасяленнем скончыліся, прышла пара збіраць ураджай, апошні ўраджай на сваіх землях.

А потым прыехаў упаўнаважаны з Глуска ствараць калгас…

Раптам нейкі далёкі гук прымусіў яго спыніцца. Ён услухаўся. Так, несуменна. Гэта быў гук машыны. Значыць, там дарога. А калі дарога, то й людзі. І ён пайшоў у той бок, адкуль пачуў гук матора. Ногі не слухаліся. Ён падняў яшчэ адну палку і ступаў, абапіраючыся на дзве. Машын больш не было чутна і ён засумняваўся, ці туды ідзе. Пастаяў, услухоўваючыся, і, нічога не пачуўшы, пайшоў зноў. Ногі нылі, страўнік нагадваў аб сабе галоднымі спазма-

мі, у галаве мутнела, сэрца тахкала не рытмічна. Ён спыніўся і стаяў, няроўна дыхаючы, абхапіўшы нейкае дрэва. Зноў пачуў гул машыны. Яна прайшла блізка. Ён нават убачыў яе між дрэвамі. Гэта дадало сіл. Ён рушыў, перасоўваючы ногі з палкамі ў руках.

Дарогу ад лесу аддзяляла неглыбокая канаўка. Іншым часам ён яе лёгка пераскочыў бы. Але зараз гэта была істотная перашкода. Ён лёг на снег і споўз у канаву, потым пры дапамозе палак узняўся на другі яе бок. Ногі былі ў канаўцы, а галава пры дарозе. Так і ляжаў амаль беспрытомны. З апошніх сіл трымаўся, каб не заснуць і не скалець канчаткова. У галаве шумела і гулу машыны ён не пачуў, але машыну ўбачыў. Ён падняў руку. Але машына абагнула яго і паехала далей. У роспачы ён глядзеў, як яе чорная пляма знікае за паваротам.

Падняў галаву, паглядзеў у адзін, другі бок. Убачыў, што ў недалёкім месцы да дарогі падступалі кусты. Падумаў, што аб’ехаць яго там будзе немагчыма, і папоўз туды. Нейкія пяцьдзясят метраў ён пераадольваў ці не больш за гадзіну, час ад часу спыняючыся, каб перадыхнуць. Нарэшце дапоўз, лёг упоперак дарогі – будзе ехаць машына: або задушыць, або спыніцца. І абрынуўся ў небыццё.

Апрытомнеў, адчуўшы, як нехта цягне яго за ногі. Перад ім стаяла і гурчэла машына, а кіроўца адцягваў яго на ўзбочыну. Пасінелымі ад холаду вуснамі, марудна, па складах вымаўляючы слова, Пятро ўзмаліўся:

– Да-па-ма-жы!

– Не магу, нам забаронена падбіраць беглых зэкаў.

– Я не беглы. Пааперка ў кішэ...

Кіроўца дастаў з кішэні паперу, прачытаў, хмыкнуў з недаверам і ўсё ж дапамог Пятру ўзабрацца ў кабіну, дзе той амаль адразу абрынуўся ў забыццё…

### 2. Трудармеец

Галоўны ўрач цэнтральнай лякарні ў Булаеве, гарадку Паўночнага Казахстана, падпісваў паперы ў сваім кабінеце – завяраў

прызначаныя ўрачамі працэдуры і выпісаныя лекі, каго выпісваў, каму працягваў лячэнне.

У дзверы асцярожна пастукалі.

– Заходзьце! – мовіў галоўны ўрач.

У дзверы сціпла прасунуўся худы невысокі мужчына.

– А, Пётр Іванавіч! – гаспадар кабінета працягнуў руку. – Сядайце, пагаворым.

Пятро сеў.

– Як вы сябе адчуваеце?

– Як было два месяцы назад, то лепей.

– Ну так. Абмарожанні былі не настолькі значныя, каб нешта адразаць. Большыя праблемы з унутранымі органамі. Лёгкія вашы зусім сапсаваныя, сэрца ненадзейнае. Язва страўніка залечана, але ж яна можа адкрыцца. Трэба берагчыся. Мы зрабілі, што змаглі. Далейшае залежыць ад вас самога. Доўгага жыцця не абяцаю, але некалькі год яшчэ маеце. Жонку, дзяцей пабачыце, калі яны выжывуць пад акупацыяй. А зараз будзем выпісваць вас.

– І куды мне ісці?

– Спачатку ў міліцыю. У вас жа няма дакументаў, акрамя даведкі з лагера. Вас паставяць на ўлік, выдадуць пашпарт ці дакумент, які яго замяняе. І ўсё астатняе патлумачаць там.

– Але ж… Мне няма дзе жыць… Калі можна, я б застаўся пакуль у лякарні… Дроў накалоць, нанасіць, прапаліць грубкі, вады прынесці, падмесці… Любую працу…

Галоўны задумаўся. Потым махнуў рукой:

– Добра. Заставайцеся пакуль тут. Але ў міліцыю завітайце абавязкова заўтра. Там ужо цікавіліся вамі.

– А, вораг народа! Прышоў! Народ ваюе, а ты тут аціраешся, – маёр з азызлым тварам падняў галаву і паглядзеў калючым позіркам.

– Я тут не па сваёй волі.

– Па маёй, значыць? Я цябе сюды зваў? Трэ было служыць радзіме, а не вылузвацца, што мала плоцяць. Усім цяжка, не аднаму

табе. Увесь народ працуе, сціснуўшы зубы. Народ-герой! І не стогне…

Пятро маўчаў. Па твары маёра не было бачна, каб ён працаваў, сціснуўшы зубы. Пятру хацелася выказаць яму гэта, але за два гады лагера звыкся стрымліваць пачуцці. На баку маёра сіла ўлады. Ён можа джаліць, як аса, а ты маўчы і цярпі.

Павучальны маналог маёра скончыўся. Ён памаўчаў.

– Ну і што з табой цяпер рабіць?

– Мне трэба пашпарт. Ці іншы дакумент.

– На падставе чаго? Што ў цябе з лагера?

Пятро дастаў паперу, працягнуў. Маёр уважліва прачытаў яе і хмыкнуў:

– Ну дык ты ж не адбыў свой тэрмін. Вызвалены па стане здароўя. А здароўе табе ўжо паправілі. І што, вярнуць цябе ў лагер, каб урэшце загладзіў віну?

Пятро пахаладзеў. Ведаў, што падобныя жарты ўласцівыя гэтай асінай пародзе людзей, але разумеў, што гэта мог быць і не жарт. Імкнуўся трымацца спакойным, але здрадлівая дрыготка ў голасе выдавала хваляванне:

– Здароўе папраўілі, наколькі змаглі.

І працягнуў даведку ад галоўнага урача. Маёр пачытаў.

– Ну што ж, адпраўляць цябе на фронт няма сэнсу. Можаш не даехаць. А ў трудармііі яшчэ павоюеш. Дасі краіне вугалю.

Пакруціў дыск тэлефона:

– Слухай, я табе зараз аднаго зэка прышлю ў тваю армію. Дахадзяга, але папрацуе. Будзе адшкрабаць грахі па-чорнаму.

І рагатнуў, задаволены сваім жарцікам.

Так Пятро стаў вуглездабытчыкам. Праца на шахце была размераная: суткі пад зямлёй, суткі адпачынку наверсе, зноў суткі пад зямлёй… Два разы на месяц шахцёры праходзілі медагляд. Пятру пашанцавала, што яго брыгада пайшла на медагляд праз дзень яго працы. Медыкі хутка пераканаліся ў няздольнасці лёгкіх і сэрца Пятра да такой працы і спісалі яго.

Новую працоўную павіннасць ён адбываў ужо ў калгасе з немудрагелістай назвай “Барацьба з засухай”.

## 3. “Чырвоны колас”

Вёска Восы, створаная савецкай уладай у канцы 30-х гадоў з пераселеных навакольных хутароў, жыла сваім жыццём. Назву не выдумлялі. Здаўна гэты пагорак сярод балот усходняга Палесся, густа заселены лятучымі джгаламі, так і зваўся: Восы. Чалавек, які збіраўся накасіць там сена, браў з сабой між іншага і белую накрыўку. Бо, калі зачэпіш касой гняздо і ўзрушыцца асінае кодла, тады адзін ратунак – кідайся на зямлю і накрывайся белым, чакаючы, пакуль супастаты не супакояцца.

Гэткім жа чынам стварaўся пасёлак за два кіламетры ад Восаў. Некалькі сем’яў аб’ядналіся ставіць хаты недалёка ад сваіх рэзаў, мяркуючы, што мода на калгасы некалі скончыцца і яны вернуцца гаспадарыць на сваіх землях. Назвы пасёлку не прыдумлялі, бо навошта даваць імя таму, што некалі знікне, адамрэ (а ў тое, што знікне, верылі істава), і калі нехта пытаўся, дзе жывеш, адказвалі: а там, каля Восы. Каля Восы, каля Восы – так і сталі зваць пасёлак: Калявосы.

Восенню прыехаў упаўнаважаны з Глуска. Увесь Савецкі Саюз пераходзіць на калектыўнае гаспадаранне, – паведаміў ён сяльчанам, што сабраліся на сход, – трэба і вам аб’ядноўвацца. Так будзе лепш. Адзін і хату добрую не збудуе, а камунізм пабудаваць можна толькі грамадой. Мужыкі слухалі, спрабуючы зразумець, які ён, той камунізм, і маўчалі. Ужо ведалі: спрачацца з дзяржавай – сабе даражэй. Слухалі, пераглядваліся, пахітвалі галовамі. Гэта значыць, мая карова і суседава цяпер стануць усіхнымі. Але ж мая дае малака на пяць літраў болей, бо я яе лепш даглядаю. А хто яе будзе даглядаць у агульным кароўніку? Ну, скажам, будуць “усіхных” кароў даглядаць аднолькава. Але ж калі карова не свая, хто ж будзе пнуцца, каб дагледзець яе добра? Значыць, будуць даглядаць абы як. А таму і малака атрымаем ад яе менш. Атрымліваецца, што агульнага малака надоім меней, чым надойвалі ў сваіх гаспадарках. Дзе ж тое “лепш”?

Нехта спрабаваў штосьці запытацца, але ўпаўнаважаны быў гаваркі, усё тлумачыў, тлумачыў, не робячы прыпынкаў на пытанні, а калі пытанні аднекуль гучалі, ён рабіў выгляд, што не чуў. А мо, і сапраўды глухаваты быў? Калі сказаў, што калгас будзе называцца "Чырвоны колас", людзі зарагаталі. Хіба ж колас бывае чырвоным? Колас або зялёны, калі няспелы, або жоўты. Чырвоны – гэта нейкі хворы колас. Але і гэтага чалавек, адмахваючыся ад камароў, не пачуў. Дастаў з планшэта паперу і пачаў пісаць "Статут калектыўнай гаспадаркі "Чырвоны колас", створанай жыхарамі вёскі..."

– Як завецца вёска? – запытаўся.

– Восы, – прагучала з аднаго канца.

– Калявосы, – з другога.

– Як-як? – зноў не дачуў упаўнаважаны.

– Восы... Калявосы...

"... створанай жыхарамі вёскі Восы-Калёсы," – дапісаў ён, тым самым узаконіўшы новую назву дзвюх вёсак. Потым пісаў нешта яшчэ. І прапанаваў падпісаць паперу – па адным прадстаўніку ад кожнай сям'і. А хто не ўмее пісаць, няхай ставіць крыжык.

Старшынём абралі Арцёма Жлобіча, адны – прызнаючы за ім вялікае ўмельства гаспадарыць, іншыя – мяркуючы, што яго, як непісьменнага, можна будзе абдурваць. А большасць – таму што з-за недаверу да новай формы жыццеўпарадкавання ніхто на гэтую пасаду не імкнуўся.

**4. Пагаманілі**

Мужыкі ехалі з Асіповіцкага базара задаволеныя. Пятро сабраў прадукцыю фермы, дзе ён быў загадчыкам, – масла, сыры, смятану. Васіль – кавальскія вырабы: сякеры, косы, малаткі, абцугі. Андрэй паклаў два мяхі калгаснай бульбы і спадарожна захапіў штосьці свайго – капусты, морквы, буракоў, бо і на сваю гаспадарку грошы ж трэба. Барыс, як самы адукаваны – аж сямігодку скончыў, – ехаў за лічыльніка. Усё папрадавалі даволі хутка і

выгодна. Конь, нібыта адчуваючы добры настрой ездакоў, порстка цягнуў палягчэлыя сані, тым болей што кіраваўся дадому.

Пятро раздумваў, што́ можна набыць на грошы, якімі крыху пабагацеў калгас. Найперш, натуральна ж, трэба новы сепаратар, бо стары ўжо не так добра аддзяляе вяршкі ад адгону. Дый аднаго мала. Не спраўляюцца даяркі, дапазна круцяць. “Але, каб з хлопцамі не валаводзіліся, дык спраўляліся б,” – падумаў Пятро. Успомніў, як аднойчы зайшоў у сепаратарную, пачуўшы дзявочы віск, і ўбачыў, як дзеўка дурашліва адбіваецца ад хлопца, а сепаратар круціцца. Схапіў жартаўніка за грудкі і штурхануў да дзвярэй. Завеса, не ладна прымацаваная да шулы, не вытрымала ўдара, адвалілася. Прымусіў хлопца чапляць дзверы на месца. Мурзікаў потым упісаў у яго правіннасці перад дзяржавай і тыя паламаныя дзверы.

Падумаў пра старшыню: Арцём – добры мужык, але яго непісьменнасць не на карысць калгасу. Мала што ён там падпісвае сваімі двума крыжыкамі. Аднойчы падпісаў, што калгас перадае на карысць сельсавета скрыню бульбы за жэрдкі для стайні і кароўніка, а за бульбай прыехалі на дзвюх скрынях. Выявілася, што падпісаў на пяцьсот кілаграмаў, а не на скрыню.

Ужо абмяркоўвалі тое на праўленні. Арцём і сказаў: трэба старшынём выбраць адукаванага. А хто самы адукаваны? У лепшым выпадку адзін-два класы “лікбезу”.

Малады настаўнік, якога прыслалі вучыць хутаранцаў чытаць і пісаць, папрацаваў два гады і з’ехаў. Нечаму ж навучыў тых, хто не ленаваўся цягацца на заняткі ў дом Пятра. Добры дом паставіў некалі Іван, бацька, прасторны, на сем вокнаў. І ў доме ўсяго хапала: шырокія ложкі, мяккі дыван на сцяне, круглы стол, шэсць венскіх крэслаў на гнутых ножках, аксамітавыя гардзіны на вокнах. Васіль, мяркуючы ажаніцца, сабе збудаваў дом асобна, а бацькаў дом дастаўся Пятру.

Самым старанным і самым разумным па меркаванні настаўніка быў Пятро Рыбак, Андрэеў сын. Настаўнік нават раіў Пятру працягваць адукацыю далей, але хто ж будзе на зямлі працаваць. Не да тлушчу, з’есці б гушчы.

Пятро з Пятром былі амаль аднагодкі і сябравалі. Яны ўжо размаўлялі пра тое, каб маладзейшы Рыбак стаў старшынём. Той пагаджаўся, але ўзгадаў, што самы адукаваны ў вёсцы – Барыс. Сем класаў – не жартачкі!

Барыс… У вёсцы да яго ставіліся насцярожана, як заўсёды ставяцца да прыхадня. Барыс ажаніўся з жанчынай з Восаў, якая пераехала да яго ў Дрочаў пад Асіповічамі. Пасля таго, як у Дрочаве арыштавалі некалькі чалавек, ён прадаў дом і набыў у Асіповічах. Тлумачыў, што спужаўся, каб і яго не залічылі да антысаветчыкаў. Пазней прайшлі арышты і ў Асіповічах і ён зноў “спужаўся”, пераехаў з сям’ёй у жончыну хату, якая стаяла пустой у Восах.

Так у Восах з’явіўся першы камуніст. Меў больш высокую адукацыю, чым любы з калясянцаў, хаця і тут у людзей былі сумненні, бо ведалі, што школы ў Дрочаве не было, а дзе і калі ён тыя сем класаў адвучыўся. У бацькоў яшчэ меншыя Фрося і Павел. Каб трох дзяцей пракарміць, трэба вельмі ўвіхацца на зямельцы. Тут не да навукі. Толькі ж ці бацькам надта хацелася даць адукацыю старэйшаму сыну, ці яшчэ як, але адукацыя была. Прынамсі, пісаў і чытаў бегла, а не па складах, як большасць калясянцаў. І лічыў хутчэй. Вось і прызначылі яго бухгалтарам калгаса.

Мабыць, прымерваў сабе пасаду старшыні. Калі на праўленні абмяркоўвалі, каму даручыць калгаснае стырно, і хтосьці агучыў прозвішча Рыбака, ён незадаволена крэкнуў і кінуў у бок Пятра нядобры позірк. Дагэтуль паміж імі напружанасць. Вось і зараз сядзіць побач з Андрэем, бацькам Пятра, а едуць моўчкі.

Пад’язджаючы да Восаў, дагналі Алеся Германа. Той ішоў побач з канём, які цягнуў сані з сенам. На возе сядзеў яго дзесяцігадовы сын Сёмка. Летам Алесь скасіў палянку на сваім рэзе і паставіў там стог. Хаця зямля лічылася ўжо калгаснай, але кожны гаспадар даглядаў свой рэз. На Алесеву палянку ніхто не квапіўся, бо ўсе ведалі чыя гэта зямля, хто за яе заплаціў цяжка зробленыя грошы, хто яе даводзіў да ладу, каб зямелька, прылашчаная гаспадаром, адорвала яго сваімі дабротамі.

– Сядай, – запрасілі.

– Ну як? – пацікавіўся Алесь, уладкаваўшыся на санях. – Як утаргавалі?

– Добра, – гукнуўся Васіль.

– Ну дык трэба адзначыць.

– І варта было б. Ты, што, запрашаеш?

– А чаму б і не. Мая хата блізка. Дапаможаце перакідаць сена ў застаронак і пасядзім, пагамонім. Гарэлка і сала знойдуцца.

– Ну што, мужыкі? Завітаем да Алеся замачыць удалы гандаль?

Ніхто не запярэчыў.

Невялікі воз сена перакідалі хутка, для пяцёх мужыкоў што за праца. Сёмку адпусцілі да сяброў. Гэля, Алесева жонка, збірала на стол, бегаючы ад кубла і печы да стала і хутка на ім стаяла бутэлька, закаркаваная папяровым скруткам, парэзанае сала, салёныя гуркі, капуста, мачоныя яблыкі і бохан хлеба сваёй выпечкі. Рэзаць хлеб, а часцей ламаць належала тым, хто за сталом. А пасярод стала жаўцела вялікая патэльня з пагоркам камоў, тоўчанай бульбы, рудаватым з аднаго боку і жоўтым з другога, на якім дзенідзе выглядвалі разынкі шкварак.

Распрэглі коней, кінулі ім па ахапку добрага сена, а самі пайшлі ў хату.

Пасля першай чаркі пайшла гамонка. З задавальненнем успаміналі эпізоды сённяшняга гандлю, палічылі, хто перамог: ферма ці кузня. Ферма ўсё ж перамагла, і Пятро выказаў меркаванне, што грошы варта скарыстаць найперш на ферму.

– Так, каровы нас кормяць, – пагадзіўся Андрэй. – А ці пракормім мы іх? Сена гэтым летам шмат пагніло з-за дажджоў. Ці хопіць яго да вясны?

Пачалі ўспамінаць не вельмі ўдалае мінулае лета. І жыта не ўрадзіла. Хіба што бульба, як заўжды, уратуе.

– Тут вось якая закавырка, – раздумліва загаварыў Алесь. – Як жылі па хутарах, тады ж таксама адно лета на другое не было падобнае. Здараліся і неўраджаі. Але заўсёды хапала, каб зіму пераҗыць. Яшчэ й на продаж заставалася.

– Так, – пагадзіўся Васіль. – Тады год папрацуеш, дык на два гады хапала. А цяпер у калгасе год працуеш, а праз паўгода думаеш, як да лета дацягнуць.

– Але ж тады ў цябе не забіралі столькі, – запярэчыў Пятро.

– А тыя, хто забірае, яны для каго забіраюць? Яны ж з кожнага калгаса забіраюць…

– Для горада ж, канешне.

– А горад, ён, што, толькі есць і нічога не робіць? Там жа робяць – машыны, адзенне, мэблю… Тады абмен: мы ім жыта, бульбу, мяса, яны нам адзенне, трактары. Але ж так чамусьці няма. У нас забіраюць, а наўзамен нічога.

– Рабочыя ў горадзе наш хлеб за грошы купляюць. У іх ёсць грошы, ім плацяць за працу. А чаму ж нам не плацяць?

– А, дык яны ж працуюць на дзяржаўным заводзе, ім дзяржава і плаціць. А ў нас не дзяржаўны калгас. Мы самі па сабе, мы, кучка былых хутаранцаў, з'ядналіся, каб разам лаўчэй працавалася. Лаўчэй, праўда, не атрымліваецца. Але працуем. Робім. І нам не плацяць. Толькі забіраюць.

– Цікава, наш хлеб дзяржава прадае рабочым. А куды ідуць тыя грошы?

Замоўклі.

– Сталіну, – няўпэўнена выказаўся хтосьці.

– Але ж ён не цар. Яго абралі, а могуць і зняць з працы.

Барыс у гаворцы не браў удзелу. Маўчаў, кідаючы позіркі то на аднаго, то на другога.

Пагаманілі, выплюхнулі крыўды адно аднаму і разышліся.

Праз месяц на калгасным сходзе выбіралі старшыню. За Рыбака галасавалі адзінадушна. Хіба што бухгалтар устрымаўся.

Заканчвалася зіма 1941 года. Трэ было рыхтавацца да сяўбы, да лета, наладжваць плугі, косы, бароны, адбіраць насенне.

### 5. Арышт

Дзень 21 красавіка стаў чорным днём для вёскі Восы. Раніцай, ледзь развіднела, у вёску прыехала чорная машына. Машына ў

вёсцы ўвогуле была рэдкасцю, а гэтая выглядала неяк пагрозліва. Машына спынялася то ля адной, то ля другой хаты, у хату заходзілі людзі ў форме, а праз некаторы час выходзілі разам з гаспадаром. Забралі чатырох, тых, хто замочваў удалы гандаль на асіповіцкім базары – Васіля, Пятра, Андрэя і Алеся. З-за чаго забралі – ніхто нічога не тлумачыў. Павезлі пад уражанымі позіркамі анямелых вяскоўцаў.

Праз колькі дзён прыязджалі следчыя, распытвалі пра забраных.

Аньця на досвітку распальвала печ. У дзверы нехта асцярожна пастукаў. Зайшоў Ляксандра, стрыечны брат. З вінаватым тварам ён патаптаўся ля парога, хацеў павітацца “Добры дзень”, але слова “добры” захрасла ў горле, з чаго ён збянтэжыўся шчэ болей. Аньця, працягваючы завіхацца ля печы, чакала, што ён скажа. Ляксандра ціха падышоў да стала, дастаў з кішэні чацвярцінку гарэлкі, паставіў на стол і, не падымаючы вачэй, мовіў:

– Аньця, я вінаваты, але я інакш не мог. Я даў паказанні на Пятра. Следчы сказаў, што калі я не дам паказанні, то арыштуе мяне як зяця кулака. І я падпісаў…

– І што? Ты хочаш, каб я з табой зараз выпіла за гэта?

Ляксандра змоўк. Патаптаўся ля стала, уздыхнуў.

– Даруй.

– Бог даруе. Падпісаў і падпісаў. Ідзі.

– Я не змог… Малыя Лёня, Ларыса…

– А мае ўжо вялікія! Тры гады і пяць гадоў… Іх хто будзе гадаваць? Ты?

Ляксандра пастаяў яшчэ ля стала, потым ціха павярнуўся і пасунуўся да дзвярэй.

– Забяры гарэлку. Мне яна ў горла не палезе!

Ляксандра вярнуўся да стала, забраў пляшку і, павярнуўшыся да дзвярэй, ціха мовіў:

– Сёння Пецю выклікаюць. Яго б ужо чаго цягнуць… Сямнаццаць год…

Пеця – брат Ляксандра. З іх сястрой Марыляй Аньця шчыра сябравала ад нараджэння, яшчэ з тых часоў, калі ў 1913 годзе браты Навум і Рыгор Булавацкія з Амінавіч узялі ў арэнду зямлю ў пана Земскага. Узялі надзелы па суседстве. Ад хутара Навума да хутара Рыгора няпоўныя два кіламетры, і дзеці часта бегалі пагуляць да суседзяў. Дый дарослыя часта сустракаліся ці за агульнай працай, ці за агульным сталом. Дапамагалі адно аднаму, калі цяжка было. Ляксандра ажаніўся з Тацянай Раманоўскай, Васіль – з яе сястрой Антоляй. Так яшчэ болей зradніліся сем'і Булавацкіх. І вось… "Падпісаў… даруй…" Падпіша і Пеця. Куды яму дзецца, брат зяця кулака.

Стары Раманоўскі, разумны гаспадарлівы мужык, прыдбаўшы сваёй працай і добры дом з прыбудовамі, і хлявы для некалькіх кароў, коней і парсюкоў, і іншыя збудаванні, у калгас не імкнуўся. Яго абазвалі "кулаком" і "раскулачылі", выслаўшы разам з жонкай Евалінай некуды ў Сібір. Цяпер на дочках ляжала гэтая пляма: "дзеці кулака". Яе маглі ўзгадаць у любы момант. Вось і ўзгадалі.

Не адкруціўся Ляксандра, узяў грэх на душу, падпісаў паказанні на швагра. Блядскае жыццё! – каб ўратаваць сваю сям'ю, трэба ўтапіць блізкіх.

Пры панах такога не было, там усё ж паважалі руплівых гаспадароў і працавітых людзей. А тут – гультая з рупліўцам яднаюць у калгас! І чаго з гэтага чакаць? Што гультай стане шчыра працаваць?.. Ага, чакайце! Гультай хутчэй у кіраўнікі выб'ецца, каб камандаваць, а не рабіць. І каб проста сядзеў камандзірам і не ўлазіў у тое, што робяць разумныя гаспадары, хай бы тое й было. Дык не ж! Чапляецца сваімі дурнымі парадамі, загадамі, накідвае на сябе мундзір руплівага гаспадара, які яму не па памеры. Атрымліваецца па яго загадах кепска, а ён вінаваціць тых, хто працуе. І дае новыя загады. "Хто быў нічым, той стане ўсім!" Даспяваліся. Тое "ніштo" кіруе няшчаснай краінай на ўсіх яе ўзроўнях. Краіна стала агульным калгасам. А "ў калгасе добра жыць: адзін робіць, сем ляжыць". Які пан, такая й праца…


Булавацкі Васіль 1941


Булавацкі Пятро 1941


Алесь Герман 1941


Андрэй Рыбак 1941

Калі забралі бацьку, Аньціны дзеці сталі нейкімі ціхімі, маўклівымі, жылі без усмешак, без дзіцячых забаваў, гульняў. Глядзелі на свет спалоханымі вачыма, не разумеючы яго і баючыся яго. Аньця нічым не магла ім дапамагчы, бо й сама не разумела. Сэрца шчымела па мужу: дзе ён, што з ім, як яму там?

Успамінала мінулае жыццё.

Калі хутаранцы засяляліся на сваіх рэзах і пачалі знаёміцца, высветлілася, што акрамя Навума з Рыгорам недалёка будуецца яшчэ адзін Булавацкі – Іван. Навум неяк завітаў на свята пазнаёміцца з суседам. Пасядзелі, пагаманілі, падзівіліся супадзенню прозвішчаў, пашукалі агульных сваякоў, не знайшлі. І разышліся сябрамі. Дапамагалі адно аднаму. Дапамагалі і пахаваць Івана ў 1919 годзе. Потым дапамагалі Макрэне гадаваць дзяцей. Хаця хлопцы былі цягавітымі, спраўляліся па гаспадарцы самі.

Сябравалі і дзеці. Калі Пятро дасягнуў васямнаццаці і маці пачала раз-пораз гаварыць пра магчымую жаніцьбу, ён аджартоўваўся:

– Пачакаю Аньцю.

– Доўга чакаць прыдзецца, – усміхалася Макрэна. – Дзеўцы толькі адзінаццаць.

– А мне няма куды спяшацца.

– Пашукай каго іншага, – раіла маці, здагадваючыся, што хлопец не вельмі й жартуе, – бо ўсё ж, мо, якія сваякі.

– Якія сваякі! – адбіваўся Пятро. – Вы ж перабралі ўсіх, каго ведаеце. Блізкіх сваякоў не знайшлі. А калі далёкія, то лічы, што не свае.

Гаспадыня замаўкала, мяркуючы, што за сем год шмат што памяняецца. Яно й змянялася, толькі не намер Пятра. Тым болей, што Аньця з часам толькі харашэла, набываючы дзявочую вабнасць і жыццёвы спрыт. На яе ўжо заглядваліся іншыя хлопцы. І Пятро вырашыў не цягнуць сваё чаканне, пазваў Аньцю ў жонкі. Тая зардзелася: “Бацькі не дазволяць. Мне ж толькі сямнаццаць.”

Навуму з Кацяй не па душы былі заляцанні Пятра да Аньці. На дваццаць пятым годзе жыцця ён выглядаў хударлявым хлапчуком. Паглядалі на яго хвалістыя кудзеры, якія немагчыма было

прычасаць і яны задзірыста тырчэлі ў розныя бакі, прыслухоўваліся да яго ўсмешлівай гаворкі, прыглядваліся да яго гаспадарчых здольнасцяў. Працаўніком ён быў някепскім, але хто на зямлі не працаўнік. Тут не папрацуеш, то й не пасяваеш, бо свята з галодным страўнікам – не свята. Асабліва турбавала яго худоба. Ці не сухотнік?

Але ўспаміналі лёс старэйшай дачкі. Дар’я закахалася ў Цімоха, хлопца, які пакутаваў ад сухотаў, распаўсюджанай на той час хваробы, ад якой паміралі шмат хто нават у маладым узросце. Колькі ні адгаворвалі яе сустракацца з сухотнікам, яна не слухала, уцякала мілавацца да каханага. Аднойчы на калядныя вячоркі таньчылі на чыімсьці хутары. Разагрэтая танцамі выйшла ў сенцы аддыхацца, ахалануць, а там чыесьці такія знаёмыя рукі прыцягнулі яе, прыгарнулі так, каб сэрцайка з сэрцайкам затахкалі дуэтам. І так добра, так утульна было ў тых руках, што хацелася плыць і плыць у іх, як у чоўне. І не хацелася выбірацца з тых рук, і не хацелася ўжо ніякіх танцаў, скокаў, весялосці. Абы вось так – разам з мілым-каханым праз усё жыццё, якім бы яно ні было… Колькі яна там пастаяла з каханым. А назаўтра высокі жар, кашаль, хрыпы ў горле. Запаленне лёгкіх! Сваё лячэнне не дапамагло, а дзе тыя дактары. “Цімох… Цімох… Цімох…” – трызніла яна ў гарачцы. І


Цярэнця, Аньця, Пятро. Вяселле. Восень 1930 г.

праз некалькі дзён адышла да Бога з імем каханага на вуснах. Дзевятнаццаці год ад роду.

Плакала Каця па дачцы, мо, з год. А цяпер нічога не магла сказаць Аньці, няхай дзеўка сама вырашае. Яна й вырашыла. Ляксандра акуратна паправіў у метрыках 1913 год нараджэння на 1912, і восенню 1930 года згулялі вяселле.

Каця з Навумам падарылі маладым карову. Але сена на лішні каровін рот у Пятра не было нарыхтавана і зіму карова карміласяў ранейшых гаспадароў.

Так даў Бог, што дзеці з'яўляліся зладжана цотнымі гадамі па восені: 1932 – Міколка; 1934 – Тонька, названая Антанінай па маці, якой наканавана было пажыць толькі два гады; 1936 – Маруська; 1938 – Раечка. Потым за калгаснай працай стала не да дзяцей. Дый, мабыць, за тое можна дзякаваць Богу, бо цяпер не ведаеш, што з гэтымі трыма рабіць, як выгадаваць.

## 6. Вайна. Першы дзень

Маруська захварэла. Ні шэпты, ніякія травы не дапамагалі, дзяўчынка чэзла. На дварэ цёплы чэрвень, а малая мерзне. Сядзіць скукожаная і маўчыць. "Баліць?" – ківае галавой. "Што баліць?" – пацiскае плячыма. Сама не разумее, што баліць.



Аньця адпрасілася ў старшыні, і ў лясёнцы за плячыма панесла дачку ў Глуск да дактароў. Марусю пакінулі ў лячэбніцы, каб зрабіць аналізы і разабрацца, што за хвароба. Але праз два дні, калі Аньця зноў адкрочыла трыццаць кіламетраў, ёй нічога канкрэтнага не сказалі. Не змаглі глускія дактары разабрацца, што за хвароба адолела Марыйку, выпісалі накіраванне ў Мінск да сталічных свяцілаў.

Прынесла дачку дадому, а назаўтра тым жа пехам у Асіповічы на цягнік.

Прыехала ў Мінск, а там бамбёжка. Поўны вакзал народу, мітусня, ніхто з ёю гаварыць не хоча, нічога не тлумачаць. Крычаць, лезуць па квіткі некуды ехаць, спрачаюцца, лаюцца. “Вайна!” – пачула страшнае слова. Стаяла, разгубленая, на пероне, не ведаючы, што рабіць. Калі вайна, то ніхто дзіця лячыць не будзе. Шчэ ці зможаш дадому дабрацца? Пайшла да кас, каб узяць квіток назад. Але ні да адной касы не даштурхацца. Стаяла з дзяўчынкай на руках і слёзы цяклі. Нейкі мужчына паспагадаў на хворае дзіця, дапамог узяць квіток да Асіповіч.

Стаяла на пероне ў блытаных пачуццях, глядзела на гэтую мітусню, на чалавечы вір вакол цягнікоў. Запыталася ў адной жанчыны, дзе будзе пасадка на свой цягнік.

– Вы на Асіповічы? – страпянулася жанчына і паглядзела на дзяўчынку. – У вас дзіця вельмі хворае.

– Так, хворае. Прывезла яе ў Мінск да дактароў, а тут такое…

– Дык што, вы яе дактарам не паказвалі?

– Дзе ж тых дактароў знойдзеш зараз!

– Ну як жа. Дактары працуюць. Вам абавязкова трэба ў паліклініку. Дзіця такое хворае, а вы дадому. Ідзіце ў паліклініку!

Неяк угаварыла Аньцю. Тая прадала свой квіток жанчыне, чаго той і хацелася, і пайшла шукаць дактароў. Ніхто на яе роспыты не адказвае, адмахваюцца. Нейкі сталага ўзросту інтэлігентны мужчына, пачуўшы пытанне пра паліклініку, развёў рукамі:

– Якая паліклініка, мілая! Уцякай адсюль як хутчэй, бо тут хутка ўсё рушыцца будзе. І сама загінеш, і дзіця загубіш!..

Яна ў слёзы ды йзноў на вакзал. А там яшчэ большая мітусня, крыкі, лаянка. Якраз аб’явілі пасадку на цягнік. Пайшла да цягніка: можа, удасца як уціснуцца без квітка. Праваднікі адчынілі дзверы і… далей былі не ў сілах стрымаць натоўп. Лезлі ўсе, і з квіткамі, і без квіткоў. І ў яе хапіла сіл прабіцца, праштурхацца ў вагон. Даехала да Асіповіч, прыйшла пешкі дадому познім вечарам.

Дзякаваць Богу, Маруська акрыяла неяк сама, трэ было, відаць, ёй яшчэ крыху пажыць.

Менш шчаслівае падарожжа выпала ў гэты дзень Ляксандру. Ноччу ён прачнуўся ад болю ў правым баку жывата. Боль нарастаў, не хапала сіл яго цярпець. Жонка пабегла да старшыні, каб даў каня везці да ўрача. Камусьці апендыкс нядаўна выдалілі ў Глушы. Выдалілі ўдала, чалавек нядоўга праляжаў. І Тацяна павезла мужа ў Глушу. Хацелася як хутчэй, але кожны штуршок на няроўнай дарозе павялічваў пакуты Ляксандра, таму гнаць каня не магла. Дарога заняла больш за чатыры гадзіны.

У лякарні яе агаломшылі паведамленнем: усіх урачоў выклікалі ў ваенкамат у Бабруйск, мабыць, забяруць на фронт, лякарня не працуе. На яе просьбы, стогны і енкі толькі разводзілі рукамі: нічым дапамагчы не можам, спачуваем, але мы не ўрачы, нікога з урачоў няма. Што рабіць? Ехаць у Глуск ці Бабруйск – гэта яшчэ пяць гадзін на калёсах. Але ж, хутчэй, і там тое самае. Вайна!

– Вязі дадому, – мовіў, як выдыхнуў, Ляксандра. – Паміраць лепш дома.

Дадому конь давёз. І Ляксандра яшчэ суткі адпакутаваў, покуль Бог забраў да сябе яго душу.

Аньця, калі даведалася пра пакутлівую смерць Ляксандра, пашкадавала стрыечнага брата, а потым падумала, што гэта Бог пакараў яго за той подпіс. І тут жа схамянулася: а як жа Тацяна з яе знявечанай нагой, з яе двума дзецьмі. Бацькі няведама як у тым Сібіру, ці жывыя там, хіба што сястра побач. “Даруй мне, Божа, грэшныя думкі!” – перахрысцілася на абраз у куце. Трэба неяк жыць і самой з трыма дзецьмі, і Тацяне з двума. Адну вайна аглушыла ў першы ж дзень, другой і без вайны дасталося.

### 7. “Першы партызан”

Напрыканцы чэрвеня прыехалі ў Восы-Калёсы немцы на фурманках. Чырвоная дывізія была разбіта ля Пцічы і яе парэшткі

рассыпаліся па навакольных лясах. Дык тыя немцы злавілі двух салдат. Вялі іх перад сабой і білі. Хто штыком штурхаў, хто шомпалам па галаве. Потым расстралялі.

Абгледзелі вёску і паехалі. Мабыць, палічылі не вартым таго, каб пакінуць тут свой гарнізон. Гарнізон пакінулі ў Завалочыцах. Адтуль аднойчы прыехаў пасыльны ад каменданта на вазку аднаконь. Тады смела ездзілі, не баяліся. Партызанаў яшчэ не было, а салдаты з разбітай дывізіі імкнуліся прабірацца да сваіх на ўсход ці хаваліся па лясах, не вытыркаліся. Прыехалі ўдвох, пасыльны і вазніца, з такімі зручнымі пакункамі для яек, якія цяпер у кожнай краме, а тады калясянцы іх упершыню пабачылі. Прыехалі: "Давай яйкі, куркі!" Хто куру прынёс, хто масла, хто яек назбіраў. Яны гэта ўсё забралі і паехалі. Ціха-мірна.

Назаўтра раніцай Аньця запаліла ў печы, пачала гатовіць снядання. Дзеці яшчэ спалі. У дзверы нехта ціха пастукаў. Яна схамянулася: вяскоўцы ніколі не стукаліся, не было такой звычкі, адразу адчынялі дзверы і заходзілі. А тут стук. Ціхі, як бы дзіця стукае. Яна адчыніла. На парозе стаяў салдацік. Менавіта так яна падумала пра яго – не салдат, а салдацік. Ёй, дваццацівасьмігадовай жанчыне, ён падаўся зусім маладзенькім, як дзіця. Мусіць, і не галіўся яшчэ. Салдацік быў у форме, але без зброі.

– Гаспадыня, пакарміце мяне, калі ласка, – папрасіў ён.

Цеста для бліноў было ўжо замешана. Аньця пакарміла яго блінамі з маслам. Еў салдацік нетаропка, акуратна, хаця было бачна, што ён той гарачы блін гатовы заглынуць цалкам. Пакуль чакаў чарговага бліна, Аньця распытвала. З яго кароткіх адказаў зразумела нямнога. Дзед яго быў не рабоча-сялянскага паходжання, і калі пра тое даведаліся "дзе трэба", бацьку арыштавалі.

– Вось, пайшоў ваяваць замест яго, – сумна ўсміхнуўся хлопец. – Дый паваяваў усяго паўдня.

– Яшчэ наваюешся, – "супакоіла" яго Аньця. Яна разумела, што лёс у хлопца будзе незайздросны, і мацярынская шкадоба сціскала яе сэрца. Але чым яна магла яму дапамагчы?

На дарогу адрэзала шматок сала. Хлопец падзякаваў, потым дастаў з кішэні лыжачку:

– Гэта адзіная памяць пра дзеда. У мяне яна ўсё адно не захаваецца. Вазьміце на памяць.

Праз колькі дзён зноў двое немцаў ехалі на кані ў вёску па харч. Але гэтым разам не даехалі, застрэлілі. Раз'юшаны камендант гарнізона запрасіў падмогі ў горадзе. Назаўтра група немцаў прайшла аблавай па лесе. Злавілі некалькіх салдат і, паздзекаваўшыся, расстралялі пры дарозе. Вяскоўцам загадалі закапаць трупы. Сярод расстраляных Аньця пазнала "свайго" салдаціка.

Надалей збіраць харч немцы ўжо не ездзілі па двое. Ехалі групамі па дванаццаць-пятнаццаць чалавек, часцей на роварах.

А салдаты ў лесе кучкавацца сталі, афіцэры пачалі атрады збіраць.

Аднойчы ў вёсцы аб'явіўся Барыс. Калі прыйшлі немцы, ён знік. Недзе схаваўся. Забаяўся, што яго, як камуніста, заб'юць. І вось з'явіўся з двума аўтаматамі і рэвальверам. Зброі па лясах хапала. Хто-ніхто з вяскоўцаў таксама прыхаваў якую вінтоўку ці наган, знойдзеныя ў лесе.

Барыс хадзіў па хатах, патрабаваў выпіць і паесці, казаў, што ён збірае партызанскі атрад і запісваў мужыкоў, якіх не прызвалі ў войска з-за сталага веку або па іншай прычыне. Мужыкі ад яго хаваліся, асцерагаліся аказацца ў хаўрусе з прыхаднем нават на паперцы. Ён, разумеючы гэта, злаваўся і, напіўшыся, выходзіў на вуліцу і страляў з аўтамата ў паветра з крыкам:

– Выходзьце, паскуды! Што, немцам служыць сабраліся?!

– Не страляй! – супакойвалі яго жанкі. – А нято немцы ў Завалочыцах пачуюць, прыедуць, зловяць цябе і заб'юць. Дый нам перападзе.

– Нават калі мяне заб'юць, мая правая рука будзе дзейнічаць! – адгыркваўся Барыс з мацюкамі.

Што ён гэтым хацеў сказаць?

Так ён хадзіў па Мяжным, Мастах, Тоўстым Лесе, іншых вёсках. Урэшце людзям абрыдла карміць і паіць ліхадзея і баяцца, што па п'яні каго заб'е. Хтосьці пажаліўся немцам, якія прыехалі чарговы раз па харч. Недзе яго злавілі, знайшлі ў кішэні

нейкія спісы і расстралялі каля ўзлеску. Пазней людзей з тых спісаў выклікáлі на допыт у камендатуру, але пасля допыту паадпускалі.

Труп калясянцы вырашылі не цягнуць на могілкі, а закапаць на тым месцы, дзе ляжаў. Калі пачалі капаць яму, нехта ўспомніў:

– Ён жа казаў, што нават у забітага правая рука будзе дзейнічаць. Дык руку не трэба закопваць, няхай дзейнічае.

Так і зрабілі, закапалі цела, пакінуўшы руку наверсе. Ноччу тую руку вынюхалі ваўкі ці лісы, выдрапалі цела з мяккай непрытаптанай зямлі і з’елі, пакінуўшы толькі косткі. Косткі людзі зноў закапалі, але фалангу правай рукі пакінулі на зямлі. Няхай дзейнічае.

Пасля вайны сваякі Барыса паставілі на тым месцы невялікі крыж з надпісам “Першаму партызану Беларусі”.

## 8. Лёсы людскія

Бліц-крыг не атрымаўся. Вайна зацягнулася. Летам 1942 года пачалі стварацца партызанскія атрады і фашыстам трэба было ўжо ваяваць на два фронты. Блізу Восаў у навакольных лясах дзейнічалі чатыры партызанскія атрады – з камандзірамі Галацманам, Паланейчыкам, Шашурам і Якавенкам.

Немцы паступова ўсталёўвалі на заваёваных землях нямецкі парадак. Прызначалі па вёсках старастаў, атрады самаабароны (паліцаяў) – так бы мовіць, мясцовую ўладу. Прыехалі і ў Восы-Калёсы на чале з Завалочыцкім камендантам. Сабралі калясянцаў на вуліцы. Пытаюцца: каго прызначыць старастам? Людзі маўчаць, пераглядваюцца. Ніхто не пнецца на такую пасаду. Яшчэ раз запыталі – стаяць, маўчаць. Камендант нешта сказаў перакладчыку. Той звярнуўся да натоўпу:

– Гэр камендант сказаў, што дае вам два дні падумаць. Калі нікога не знойдзецца, тады прызначыць сам гэр камендант.

Звыкла сабралі правіянт – “яйкі, куркі” – і паехалі.

Назаўтра завіталі партызаны на чале з Паланейчыкам, ён тады ўжо партызанскі атрад збіраў. Пачуўшы пра візіт каменданта і яго патрабаванне, ён зайшоў да Цярэнты, Аньцінага брата:

– Станавіся старастам. А то прывядуць якога гада, будзеце тут на дыбачках хадзіць, усяго баючыся. Трэба, каб свой чалавек быў.

Так Цярэнта стаў старастам. Пасля вайны яго збіраліся судзіць за гэта, як здрадніка, але Паланейчык тады яшчэ жывы быў, уратаваў.

… Зіма на пачатку 1943-га выдалася лютай. Партызаны вымушаны былі з зямлянак перасяляцца ў хаты, у лясныя вёскі. Але вайсковых аперацый не спынялі, што вельмі нервавала захопнікаў. Адзін атрад атабарыўся ў Восах.

Перад Калядамі ў Восы-Калёсы прыехала група немцаў на грузавіку. Партызаны, загадзя ведаючы пра гэты візіт, сышлі ў лес. Папярэдзілі і вяскоўцаў. Некаторыя, асабліва мужыкі, таксама схаваліся ў лесе. Людзям немцы загадалі выходзіць на вуліцу і выганяць кароў. Нямецкі афіцэр зайшоў у Аньціну хату. Паглядзеў, што ў хаце дзве жанчыны і пяцёра дзяцей на печы сядзяць, свае і суседскія. Мабыць, пашкадаваў. На ламанай рускай мове патлумачыў, што будуць забіраць усю жыўнасць і, каб уратаваць карову, трэба выскубсці частку саломы з скірды, завесці туды карову і прывязаць галаву высока, каб не мыкала. Маўляў, у скірдзе шукаць не будуць. Але выканаць тую параду Аньця не паспела. Зайшлі салдаты і выгналі карову з хлява на вуліцу. Павыганялі ўсіх кароў, прайшлі па дварах, каб пераканацца, што ўсе каровы на вуліцы. Пакінулі чатырох на ўсю вёску (“das ist für Kinder” – для дзяцей), астатніх пагналі ў Завалочыцы. Тое ж здзейснілі і ў навакольных вёсках. Назаўтра зноў прыехалі, пазабіралі свіней, гусей, курэй, “каб не кармілі бандытаў”. Папярэдзілі, што расстраляюць усіх, хто пусціць партызанаў у сваю хату.

Зайшлі ў хату Рыгора Караля, у якой партызаны зрабілі свой штаб. Рыгор, чакаючы з гэтай прычыны ад немцаў пагрозы, збег з жонкай у лес. У хаце застаўся толькі яго брат Павел, інвалід

фінскай вайны. Яго і расстралялі. Расстралялі яшчэ двух мужыкоў, каго злавілі.

Зайшлі і да Яўхіма Луцкага. Яўхім падчас першай усясветнай вайны апынуўся ў палоне і працаваў у Германіі, у “бауэра”, таму збольшага валодаў нямецкай мовай. Пра што з ім размаўлялі “госці”, ведама толькі яму.

Калі немцы з’ехалі, праз суткі партызаны зноў рассяліліся па хатах.

У Рыгоравай хаце засядаў штаб. Абмяркоўвалі, што здарылася напярэдадні і як дзейнічаць далей. Паклікалі Луцкага.

– Пра што гаварыў з немцамі?

– Распытвалі, хто з вёскі ў партызанах. Хто ў савецкай арміі.

– Ну і што ты адказаў?

– Сказаў, што ў партызанах нікога з нашай вёскі. А ў войска забіралі. Каб сказаў, што нікога не забіралі, яны б не паверылі. Назваў трох чалавек. Яны ж сям’і помсціць не будуць. Дзеці і жонка пры чым тут.

У хаце павісла гнятлівая цішыня.

– Ідзі, – нарэшце вымавіў камандзір.

Калі дзверы за Луцкім зачыніліся, ён абвёў усіх запытальным позіркам:

– Што будзем рабіць?.. Да яго зноў прыедуць і будуць распытваць. Не зможа аднеквацца.

Усе зразумелі, куды павярнулася яго думка. Ніхто не запярэчыў.

– Так,– дадаў камісар. – Яго ж не расстралялі, як іншых. Значыць, будуць ад яго нечага чакаць. Можа, пра нешта змовіліся.

Лёс Луцкага быў вырашаны. Назаўтра вяскоўцы пахавалі яшчэ адно цела.

Што тут плакаць… Вайна!..

А праз дзень яшчэ адна смерць. Ліду Жлобіч, дзіця шаснаццаці год, застрэліў п’яны партызан. За што застрэліў? – цяпер у яе не запытаешся. Хутчэй за ўсё, што не аддалася яму, герою.

Тут ужо жанчыны ўзняліся, прышлі гуртам да камандзіра.

– Дзе ваш герой?

– Пакараны, сядзіць у падвале.

– І гэта ўсё пакаранне? Яго самога застрэліць варта! Як можна ў дзяўчо страляць! Яна, што, фашыстка якая? Ці здрадніца?..

– Ціха! – гыркнуў камандзір. – Расстраляць проста. А ён лепшы у атрадзе разведчык. І аўтаматчык не абы які. Страляць такіх, тады хто вас будзе абараняць ад фашыстаў?

“А навошта нас абараняць? Каб вас не было тут, немцы нас не стралялі б. Хто ж ім куркі ды яйкі даваць будзе? І Яўхім з Лідай жывыя былі б.” Гэтак Аньця не сказала, толькі падумала; магчыма, не яна адна. Успомніла, як колькі дзён таму ў яе прасторнай хаце засядалі камсамольцы атрада. Двух хлопцаў прымалі ў камсамол. Адзін напісаў заяву адразу. А другі катэгарычна адмаўляўся. Як яго ні ўломвалі, ні ўгаворвалі, не згаджаўся. Выразна помніў, як у яго вёсцы камсамольцы царкву разбурылі, у якой хлопец быў ахрышчаны. Уся вёска была абураная гэтым учынкам і камсамольцаў там ненавідзелі. Калі б даведаліся, што ён стаў камсамольцам, зненавідзелі б і яго. У хату зайшоў камісар:

– Што вы сядзіце, дзіркі ў штанах праціраеце.

– Ды вось, Паланейчык не хоча пісаць заяву.

Камісар павярнуўся да хлопца:

– Што, сцыкун, хочаш немцам здацца, як прыдуць?

– Не, немцам я здавацца не збіраюся, але і заяву ў камсамол не напішу.

Голас хлопца гучаў спакойна і ўпэўнена. Камісар паглядзеў на яго, варухнуў жаўлакамі і, павярнуўшыся да дзвярэй, буркнуў:

– Не напіша, – расстраляць!

І бразнуў дзвярыма.

У хаце стала ціха. Гэта была такая цішыня, ад якой звініць у вушах. Аньця сядзела ў сваім кутку і нешта шыла. Ад слоў камісара яна абамлела і затуманенымі жахам вачыма глядзела на хлопцаў за сталом. Як гэта, расстраляць?! Чаму гэтае страшнае слова стала вымаўляцца так лёгка? Ну, вайна, тут смерць на кожным кроку. Але смерць ад ворага – яна нейкая зразумелая. А тут жа пра смерць ад сваіх! За што чалавека расстрэльваць? За адно

падазрэнне ў магчымым намеры здрады? Дык жа напісаная заява хіба ўратуе ад гэтага. Калі захоча здрадзіць, дык ён здрадзіць і будучы камсамольцам. Дый хутчэй напісаў бы заяву, каб прыхаваць намер здрады. А гэты не здрадзіць. Чаму Аньця гэта разумее, а камісар – не? І гэтыя камсамольцы… Яны ж, утаропіўшы вочы ў сталешніцу, разумелі няправільнасць, несправядлівасць загаду камісара. Але чаму ніхто з іх не запярэчыў? І няўжо нехта з іх стрэльне, заб'е хлопца? Гэта ж на ўсё жыццё! Вайна, загад камандзіра… А калі вайна скончыцца, як з гэтым жыць?..

Хлопцы сядзелі моўчкі, апусціўшы вочы. Нарэшце нехта сказаў:

– Пішы…

І зноў цішыня. Працяглая слізкая цішыня, якая абвалакае кожнага, не даючы варухнуцца, не даючы дыхаць. Здаецца, Аньця і не дыхала гэтых некалькі хвілін.

– Тады хадзем.

Павольна паўставалі і ціха пайшлі.

Што было з тым хлопцам далей, Аньця не ведала. Распытваць не рашалася. Ведала: хто шмат распытвае, той менш жыве. Такі закон вайны. Паланейчык – прозвішча запомніла. Мо, якім далёкім сваяком быў камандзіру суседняга атрада? Але ж не, каб быў сваяком, то не так абышліся б. Дый ваяваў бы не ў гэтым атрадзе. Хутчэй проста супадзенне прозвішчаў. Такое прозвішча ў наваколлі Восаў распаўсюджанае.

Але ж, калі сапраўды расстралялі, то завошта? Які грэх зрабіў хлопец за сваё маладое жыццё, што яго можна змыць толькі крывёю? Хай сабе на вайне ўсё абвострана, але ж няўжо вайна адмяняе і Хрыстовы запаветы?

Як ні думала, ні перадумвала Аньця, нічога не магла зразумець. І вось зноў: разведчык-аўтаматчык застрэліў дзяўчо. Ні за што! І гэта, аказваецца, не грэх. Яму пакаранне: пасядзець ноч у падвале.

Аньця хацела крычаць камандзіру: ды як жа так можна?! Што ж гэта ў вас за парадкі! Але інстынкт самазахавання стрымліваў пачуцці. Бог ведае, што там у іх на розуме. Могуць і цябе

стрэльнуць. А што тады будзе з трыма малымі? Хто ж іх гадаваць стане?

Жанчыны разыходзіліся панурыя са слязьмі на вачах.

### 9. Вадохрышча

Камандзір выклікаў аднаго з партызанаў да сябе.

– Разведка данесла: твой брат стаў паліцаем у Карытным. Цяпер і табе даверу няма. Што скажаш?

Той задумаўся.

– Брат – прыстойны чалавек. Дзіўна мне чуць, што пайшоў служыць немцам. Можа, прымусілі…

– Карацей, так, – не стаў чакаць канца яго разважанняў камандзір. – Бяры яшчэ двух, знайдзі яго і прывядзі сюды. Тут і вырашым, што з ім рабіць.

Назаўтра паліцая прывялі. Ён расплакаўся, распавёў, нібыта баяўся, што немцы даведаюцца пра брата-партызана і расстраляюць. Таму запісаўся ў атрад самаабароны. А цяпер гатовы ваяваць у партызанскім атрадзе побач з братам. Яму неахвотна паверылі. Тым болей, што брат, які быў смелым разведчыкам, замовіў слова:

– Калі здрадзіць, я яго сам прышыю!

Але слова брата аказалася ненадзейнай зарукай. Калі вярнуліся з чарговай паспяховай аперацыі, знішчыўшы нямецкі гарнізон, новага партызана не знайшлі. Збег, кінуўшы выдадзены яму абрэз у канаву. Служыць немцам падалося яму сытней. Натуральна ж, распавёў захопнікам, адкуль партызаны робяць вылазкі, і пра ўсё, што бачыў у атрадзе. І немцы запланавалі жорсткую карную аперацыю.

Гэта на Вадохрышча было... Каця напярэдадні вечарам зварыла куццю. Раніцай селі снедаць. І тут нехта з суседзяў зайшоў, сказаў, што партызаны перадалі, каб ратаваліся, каб ішлі ў лес, бо набліжаюцца карнікі. Партызаны таксама кінулі вёску і падаліся ў лес.

Хутка паснедалі і пайшлі ў лес, як і ўся вёска. Хто ў клунак сёе-тое звязаў, у лясёнцы за плечы ці ў мяшку – усе нешта нясуць. У Аньціным хляве партызаны пакінулі хворага каня, высокага і вельмі худога. А побач жыў Іван Юзікаў, нейкі сваяк: яго жонка Маня і Цярэнтава жонка Анюта былі сёстрамі. Юзікаў – гэта па бацьку, а прозвішча – Клыга. У Івана калісьці было двое коней і была збруя ўся. Коней у яго забралі партызаны. А сані і збруя засталіся.

Запрэглі Аньця з Іванам каня і паехалі. Іван з Маняй і сынам Валодзем. І Аньця з дзецьмі. Дарослыя йшлі пешшу, а дзяцей на воз пасадзілі. І наклалі на воз сякія-такія пажыткі – па мяшку жыта, падушку, коўдру, шчэ сёе-тое.

Прыехалі ў лес, там быў невялікі партызанскі будан з яловых галінак, яшчэ летам зроблены. Вакол гэтага будана ўсе і размясціліся. Яны дый іншыя сем'і.

Расклалі вогнішча, каб пагрэцца, а тут "рама" ляціць, самалёцік такі разведвальны, – напужаліся, давай закідваць агонь снегам. Начавалі без агню, баяліся.

Ноч цяжкая была. Маразы сапраўдныя крышчэнскія. А снегу нападала шмат, ды на нямёрзлую зямлю, балота правальвалася. Ступіш не туды, правалішся, намокнеш, а тут мароз градусаў пад 20-25. Мёрзлі, дрыжэлі.

Міколку адзінаццаты год ішоў, можа й лягчэй было, чым малым. Але ўсё адно – сядзіш, задрэмлеш. Глядзь: прымёрз. Высякаць трэба.

А з немаўлятамі зусім бяда. Яны то ўмочацца, то абмараюцца. Іх трэба перапавіць. А як раскруціць на марозе? Маленькі агеньчык у будане раскладуць, каб пры хоць якім цяпле пераспавіваць дзяцей. А тут дым у вочы лезе, дзеці крычаць, плачуць. Іх суцішаюць, хуценька мяняюць пялюшкі, пакуль зноў не абмочацца. Напакутаваліся, як толькі можна…

Дзень наступіў пахмурны. Мужыкі пайшлі, паглядзелі з лесу. Вярнуліся, распавялі што ўбачылі. У вёсцы ціха, з некаторых комінаў дым ідзе. І з Аньцінага. Каця дома засталася, у печы паліць,

дым з коміна відаць. Міколка ўявіў, як ён залазіць на печ пагрэцца, аж страсянуўся ад такой спакусы.

Мужыкі хадзілі-хадзілі, глядзелі-глядзелі з лесу. Усё ціха. Дзе старыя дома пазаставаліся, там дымок з коміна. І нічога больш не відаць.

З паўдня так нудзіліся. А потым пачалі збірацца дадому, хаця б адагрэцца. Маўляў, на ноч не прыдуць, а з раніцы зноў збяжым.

Каму хутчэй трэба? Натуральна ж, дзецям. Хто-ніхто ўжо дзіця ў лясёнку ды за плечы і кіруецца дадому. І Аньця запрагае каня, садзіць Марусю з Раяй, яшчэ Шымчыкавых Рosліка і Сцёпку, сама села і пагнала каня, як мог гэты небарака, каб дзяцей завезці грэцца, а сама затым вярнулася б па сына і па пажыткі. Гэта ж недалёка й было, якіх два кіламетры.

Выехала з лесу. А Каця ўбачыла, што яна едзе, выбегла, махае хусткай. Крычала, хацела папярэдзіць, каб не ехала, бо немцы ў вёсцы. Аньця ж думала, што тая радуецца яе вяртанню і яшчэ каню наддае. А калі ўжо пад’ехала блізка і пачула, што Каця крычыць, тады ўжо позна было. Немцы ў маскхалатах са снегу паўсталі, і яна апынулася ў ачапленні.

Што рабіць, паехала дадому. Там на печы яшчэ двое дзяцей сядзелі – Коля, старэйшы сын Шымчыкаў, які чамусьці закапрызіў і не захацеў ісці ў лес па снезе, і Тонька, дзяўчынка з Мастоў прышла да сваякоў, але тых не знайшла, бо яны ж у лесе былі, дык сядзела ў Аньцінай хаце. Аньця пасадзіла дзяцей, каго прывезла, за стол, каб гарачым супам накарміць. Але тут зайшлі немцы і забралі Аньцю і Кацю. Загадалі ісці туды, дзе ўсіх людзей збіралі. Аньці яшчэ далі нечую карову гнаць туды ж, а Каці далі ў рукі кош з трыма курамі несці. Каця пачала прасіцца ў немца, каб адпусціў дадому, бо там “кіндэр”, дзеці, іх пакарміць трэба. Ён урэшце забраў у яе той кош, даў ёй выспятка пад зад так, што ледзьве не расцягнулася на дарозе. Але ўсё ж яна, давольная, пабегла да хаты.

Прыбегла, пасадзіла дзяцей за стол, пачала ім супу наліваць. Зайшоў немец, адразу стрэліў з парабэлума ёй у галаву. Яна ўпала. Потым пачаў страляць дзяцей за сталом – пок-пок-пок-пок.

Усіх чатырох. Потым убачыў дзяцей на печы. Тоньку адразу застрэліў, тая пачала валіцца на Колю. І той пачаў валіцца пад яе цяжарам. Немец стрэліў у Колю, але не трапіў, толькі вопратку куля прарэзала. Коля ўпаў і ляжыць, маўчыць, выглядваючы з-пад Тонькінага цела.

Немец разрэзаў сяннік, расцерушыў салому па падлозе, павытрасаў усё з куфра, шукаў мо нешта каштоўнае, потым чыркануў запалкай, кінуў яе ў салому і пайшоў. Яшчэ з двара прыкладам павыбіваў шыбы. Паваліў дым. Коля выкараскаўся з-пад Тонькінага цела, выбраўся на двор, паглядзеў, што нікога няма, забег за хлеў і закапаўся ў стог сена. Там ляжаў, пакуль агонь да стога не дабраўся. Як стог пачаў гарэць, а гэта было ўжо пад вечар, ён вылез са стога і пабег у лес. Нехта страляў, ці па ім, ці не па ім, але ён прыбег у лес і расказаў усім, што бачыў.

Ненадоўга ўратаваўся. За тры дні да вызвалення яго забралі немцы, завезлі ў Бабруйск, і дзе ён дзеўся, нікому не вядома.

Аньці з іншымі жанчынамі загадалі гнаць кароў у бок Асіповічаў пад прыглядам чатырох салдат. А тых, хто засталіся ў вёсцы, старых і малых, сагналі ў калгаснае гумно, закрылі, забілі жэрдкамі і запалілі…

Міколка з Клыгамі ды іншымі людзьмі засталіся ў лесе. Чакалі нейкага сігналу ад тых, хто пайшоў дадому. Хто-ніхто хадзіў выглядваць, што ў вёсцы робіцца. І вось навіна, ад якой затрымцелі сэрцы і загаласілі-заскавыталі душы: вёска гарыць. Гарыць усе хаты яркім полымем. А што з людзьмі, якія пазаставаліся? Як дзеці?..

Навіна агарнула ўсіх невыноснай роспаччу, сцяла грудзі, не даючы дыхаць. Што рабіць? Няма вёскі. Няма хаты. Няма роднага кутка, дзе можна схавацца ад усіх, які заўсёды прыме цябе, любога, прытуліць, сагрэе. Куды зараз падацца?

Агаломшаныя людзі пачалі паволі збіраць тое, што захапілі з сабой, і некуды кіравацца. Вырашылі, што ўсім разам нельга, бо немцы лёгка знойдуць па слядах. Трэба разыходзіцца паасобку.

Калі зловяць, дык аднаго-двух, але ж не ўсіх. І пачалі разыходзіцца – хто куды.

Міколка круціў галавой то ў адзін бок, то ў другі. Але кожны кіраваўся сваім клопатам, ім было не да Міколы. Кожны думаў, як уратаваць сябе, сваіх блізкіх. Аньціны сваякі хаваліся ў іншым месцы, тут ніхто не свой. І маці не прышла. Хутчэй, і не прыдзе. І ніхто па яго не прыдзе. Дзіця яшчэ не разумела ўсёй глыбіні сваёй бяды, але страх ужо апаноўваў яго, страх маленькага чалавека перад вялікім злом, у якое ён патрапіў.

Маці пакінула з ім паўмяшка жыта, падушку і суконную саматканую коўдру ў клеткі. Ён сядзеў на тым мяшку і не ведаў, што рабіць. Іван збіраў свае пажыткі. Зірнуў на Міколу. Падышоў, узяў коўдру, парэзаў яе на шэсць частак, на шэсць парцянак. Абуўся сам, абуў Валодзю, дзве парцянкі працягнуў Мані.

– Што ж ты робіш? Нельга! – кажа яна.

– Бяры. Абувайся.

– Нельга… пры жывым дзіцяці.

– Нічога… Яго ўсё адно да раніцы ўжо не будзе. Не дажыве.


Міколка 1941

Мікола чуў, аб чым гаварылі Іван з Маняй. Але іх словы ды іх дзеянні ніяк не даходзілі да яго розуму. Яшчэ з часу, калі забралі бацьку, ён перастаў разумець гэты свет і існаваў у ім адстаронена, адчужана. Тое, што набыў розумам за першыя дзевяць год свайго жыцця і што лічыў правільным, справядлівым, уласцівым гэтаму свету, у якім ён з'явіўся, раптам пачало ламацца, крышыцца, пачварна крывіцца і мярзотна пераварочвацца. Хіба што маці ды бабуля былі зразумелымі для яго істотамі, адзінымі яго абаронцамі, ахоўнікамі, але тут іх не было. І не было, у каго запытацца, да каго прыхіліцца.

Яны абуліся, сабраліся і пайшлі. Чаму яго з сабой не ўзялі? А навошта ён ім трэба? У саміх харчоў на які тыдзень. А яго ж карміць трэба. І цягаць з сабою. Тут самі не ведаюць, куды йсці, што рабіць... Падушку і мяшок з жытам пакінулі, не забралі. Сваё жыта было, а колькі ж панесці можна.

Ён застаўся. Але раптам схамянуўся: трэба ж і яму куды падавацца. Падняўся і пайшоў за нейкай жанчынай. Яна азірнулася і кажа: "Вунь туды з мужыком пайшлі. Можа, там цябе прымуць." Пакуль ён перабіраўся снегам з аднаго следу на іншы, усе зніклі, нікога не відаць. Ён пайшоў нейкім следам. Ісці цяжка было. Снег глыбокі і рыхлы, правальваецца. Дарослаему па калена, а дзіцяці па пояс. Прайшоў мо якіх метраў дзвесце ці трыста. Нікога! Цямнець пачало. Страшна стала. Шапку-вушанку нацягнуў, рукі ў рукавы схаваў, скукожыўся й сеў пад хвойкай. Так і прасядзеў усю ноч.

Павінен быў замерзнуць. Але ж Бог не даў.

Стала развіднець. Убачыў: ідзе па лесе суседка Хрысціна з дзвюма сваімі дзяўчынкамі. Убачыла яго, аж спужалася. Падышла бліжэй, завойкала:

– Маё дзіцятка! Што ж ты тут сядзіш? Уставай!

Ён паднатужыўся ўстаць, але здзеравянелае цела не слухалася. Яна за каўнер падняла. Шчокі пацерла, рукі пацерла, павадзіла за руку вакол сасны. Ён неяк расхадзіўся. А яна ўсё наказвае:

– Не стой! Прысядай, хадзі...

І ён хадзіў, намотваў кругі вакол сасны. А яна распаліла вогнішча, дастала кацялок, набрала ў яго снегу, паставіла на агонь, закіпяціла, дастала з торбы жыта, кінула жменю ці дзве ў кацялок. Зварыла, дала паесці яму, дачок пакарміла, сама трохі з'ела. Лыжка адна была, дык сёрбалі па чарзе.

Каля агню адагрэўся, паеў гарачага, – ужо й павесялеў. Хрысціна паглядзела, адвярнулася ды й мовіла сама сабе:

– Вось, Божа мой, Божа! Гэта ж трэба, каб памерла, а яно жыве.

Павярнулася да яго:

– Ну што, дзіця, ты ж нам не трэба. Пойдзем мы. А ты ідзі вось па гэтым следзе. Там будуць мужчыны. Можа, яны табе як дапамогуць.

Забрала дачок ды пайшла па лесе. А ён пайшоў туды, куды яна паказала. Прайшоў якіх метраў мо трыста, далей розныя сляды сталі перасякацца. Людзей шмат хадзіла па лесе. І ўправа, і ўлева, дзе ўзад, дзе ўперад, і вялікія сляды, і малыя. Гэта пазней ён навучыўся ў слядах разабрацца. А тады што ён там бачыў – ну ступіў нехта ці ў ботах, ці ў валёнках, а ў які там бок хто йшоў – Бог яго ведае. Пахадзіў па адным следзе, потым перайшоў на другі, нібыта такі самы... Пахадзіў-пахадзіў, нідзе нікога не знайшоў, нідзе нікога няма. Спыніўся, ізноў сеў пад сасну. Зімовы дзень кароткі, хутка засутонела. Ці, мо, яму так падалося. Не помніў, не разумеў, колькі так сядзеў. Можа, пераначаваў пад сасной, можа, не. А потым...

Гэта ўжо пазней высветлілася: Хрысціна сустрэла дзядзьку Рыгора і сказала яму, што пляменнік там недзе яшчэ не замёрз. А ў дзядзькі нейкі конік быў, ён і прыехаў на гэтае месца шукаць.

Міколка сядзеў пад сасной на кукішках, скалеў так, што й падняцца не мог. Чуе, нехта крычыць “Коля! Коля!..” Нехта кліча Колю, а ён і не думае, што гэта яго клічуць, сядзіць. Нейкі цень мільгануў за дрэвамі. Ён узняў вочы: з-за дрэў нехта едзе на чорным каньку. Едзе і крычыць: “Коля!..” Мікола прыгледзеўся, пазнаў дзядзьку, але крыкнуць не мог. Той сам яго прыкмеціў, пад’ехаў, лаяцца пачаў: “Чаго ж ты не адгукаешся?! Я цябе доўга шукаю!”

Падняў Міколку, расцёр, прымусіў патупаць туды-сюды. Дастаў з-за пазухі кавалак нейкага бліна, даў пагрызці дый шпарка паехалі.

Пад’ехалі да грэблі, каб пераехаць балота і раптам пачулі гул машыны. А чорны конь на белым снезе на адкрытым месцы. Дзядзька хуценька развярнуў каня, даў Міколу дубец у рукі і кажа: “Гані, як можаш, па нашым следзе назад!” А сам у другі бок, у кусты пабег. Міколка лупцануў каня дубцом, ды што ж – ён ніколі не кіраваў канём. Гэты конь у нейкага лазовага куста ўлез,

ублытаўся там і стаіць, няма куды больш бегчы. Ён на санях, і конь чорны на кусце. А па дарозе машына едзе. Ён яе бачыў, а ці бачылі адтуль яго – хто яго ведае. Ніхто не спыніўся, не стрэльнуў. Можа, і не заўважылі, бо ўжо вечарэла.

Потым дзядзька падбег:

– Ай-яй-яй! Ну я ж табе казаў: па следзе едзь! А ты што зрабіў? Яны стрэльнулі б – ты ж бы тут і застаўся! І мяне б знайшлі, забілі!

Дзядзька дапамог каню выблытацца з куста, праехаў крыху, потым каня пад куст паставіў, сам выйшаў на дарогу, пахадзіў-паслухаў. Машыны ўжо не чуваць, пайшла ў бок Восаў. Ён ускочыў у сані і дубцом па кані.

Толькі пераехалі грэблю, ужо з'язджалі з сенакосу ў кусты – і тут чуюць: машына едзе назад. Ён гэтаму каню як наддаў і напрасткі па балоце, не гледзячы ніякіх дарог. “Мы ж, – кажа, – дарогу пераехалі, там нашы сляды засталіся. Убачаць – бяда будзе!”

Праўда, машына як ішла, так і пайшла, не спынілася.

Прывёз у свой стан. Там цётка Стэпа нейкі суп варыла. Ды мо якую шкварку туды кінула. Смачны здаўся Міколу.

Пакармілі яго з Тамарай, іхняй дачкой, потым самі сталі есці. А ўжо сцямнела. Раптам чуюць: шух-шух-шух... Чалавек нейкі йдзе.  Не адтуль, адкуль прыехалі дзядзька з Міколам, а з другога боку. Што за чалавек? Можа, немцы якую аблаву наладзілі? І конь распрэжаны, прывязаны да бярозы. Запрагаць ужо няма калі. Яны што ў рукі схапілі, дзяцей за рукі – і ўцякаць! І суп недаедзены застаўся.

Ды колькі там прабяжыш! Снег па калена і балота незамерзлае. Дваццаць метраў прабяжыш і задыхаешся. Спыніліся і чуюць нейкі сіплы голас: “Людзі добрыя! Пастойце!” Прыслухаліся, нібыта жаночы голас. Ідзе, выйшла на агонь. Жанчына. Адна. Ну як адна, то не страшна. Пайшлі назад. Жанчына падыходзіць да агню, за бярозу абхапілася, стаіць. Дзядзька кажа: “Божа мой! Гэта ж Аньця!” Мікола глянуў – сапраўды маці. А яна, як сноп, бух у снег. Ляжыць і ўстаць не можа, выматалася.

Рыгор са Стэпай яе паднялі, прынеслі ў будан. Там насцелена было сена, паклалі на сена, накрылі. Прынеслі супу, але яна й не ела.

І толькі назаўтра, устаўшы, абазвалася: “Сынок! Ідзі сюды!” І пайшлі Міколка з маці шукаць сваё…

**10. Уцёкі**

Чатыры жанчыны, чатыры каровы з вяроўкамі на шыі і чатыры канваіры з імі… Куды яны йшлі, жанчыны не ведалі. Некуды ў бок Асіповічаў, але не па звыклай для іх дарозе. Ішлі доўга. Прайшлі дзве вёскі, зусім пустыя, ніводнага чалавека, ні дыму з коміна. За чарговай вёскай недалёка ад дарогі ўбачылі стог сена, падышлі да яго па цаліку. Наторгалі сена з стога, канваіры – сабе пасядзець, жанчыны – коровам паесці. Немцы ўладкаваліся на сене адпачыць і перакусіць, а жанчынам далі кружкі, каб яны надаілі туды малака. Самім жанчынам малака выпіць не прапанавалі. А ў іх не было ў што надаіць, хіба ў жменю. Астатняе малако яны здойвалі на снег, усё ж каровам будзе лягчэй.

Пасля адпачынку пайшлі далей. У прыцемках зайшлі ў чарговую вёску, зноў жа бязлюдную. Тут спыніліся ля першых дзвюх хат. Зайшлі на адзін двор, кароў загналі ў хлеў, а жанчынам паказалі на хату, сказаўшы на ламанай рускай мове, каб з двара не выходзілі пад пагрозай расстрэлу. Самі немцы занялі хату насупраць. Там адразу пайшоў з коміна дым.

Аньця зірнула ў печ. Там ляжалі складзеныя для падпалу дровы. Дастала з кішэні карабок запалак і запаліла ў печы. З двара прынесла яшчэ ахапак дроў, кінула ля печы.

У хаце было два ложкі і жанчыны размясціліся на іх, не распранаючыся. Былі стомленыя настолькі, што пра ўцёкі нават думкі не ўзнікала. Імгненна пазасыналі.

Па звычцы рана папрачыналіся. Было яшчэ цёмна. Печ, крыху абагрэўшы настылую хату, паволі астывала. Аньця закінула туды дровы і пры святле агню з печы агледзела хату. На падваконні ўбачыла напалову згарэлую свечку, запаліла яе.

– Што будзем рабіць? – запыталася.

Жанчыны пераглянуліся.

– Спачатку што-небудзь з’есці б.

Пад падлогай, як і чакалася, знайшлі бульбу. Добра было б зварыць яе, але вёдры ў хаце былі пустымі.

– Там жа на вуліцы ля хаты калодзеж, – успомніла Маня.

– Але ж на вуліцу нельга. Застрэляць, – засумнявалася Ганна.

Задумаліся.

– Ай, – не ўцярпела Маня. – Яны, мабыць, спяць. А калі не спяць, убачаць, што з вядром іду за вадой, не стануць жа страляць.

Яна ўзяла вядро, вышла з хаты, пастаяла крыху і няспешна пайшла на вуліцу. Вышла за веснічкі і, трымаючы вядро, каб яно было добра бачным з другой хаты, пайшла да калодзежа. Ступіла некалькі крокаў і… грымнуў стрэл. Маня рыўком махнула рукой з вядром і няўклюдна абсунулася каля плоту.

– Га-га-га-га! – пачулася мужчынскае гагатанне. Падзея развесяліла канваіраў.

Жанчыны бачылі ўсё тое з вакна і, знямелыя, глядзелі, не ведаючы, што рабіць далей. Сядзелі доўга. Чакалі, што немцы прыдуць за імі і за каровамі і пагоняць далей. Але насупраць было ціха.

– Мы ім не трэба, – раптам здагадалася Аньця. – Яны пастраляюць нас нібыта за спробы ўцячы, кінуць гэтых кароў і пойдуць да сваіх. Навошта ім гэтая цяганіна з каровамі!

– І што рабіць?

– Вы як хочаце, а я пайду па ваду. Няхай страляюць. Раней ці пазней – усё адно будзе.

Яна перахрысцілася на абраз у куце і пайшла за дзверы.

Вышла на вуліцу і спынілася, чакаючы стрэлу. Не дачакаўшыся, павярнула ў бок калодзежа, падышла да цела Мані, пастаяла. Узяла вядро, яшчэ пастаяла, чакаючы стрэлу. Насупраць было ціха. Магчыма, вартаўнік заснуў ці адышоў па патрэбе. Пайшла да калодзежа, паставіла вядро і агледзелася. Да лесу

было нейкіх сто метраў. І яна пайшла ў бок лесу, спачатку павольна, чакаючы стрэлу, і раптам пабегла па цаліку штомоцы.

Што было з дзвюма іншымі жанчынамі, яна не ведала і не даведалася пазней. Ды яна, даруй ёй Божа, пра іх не думала. Ішла па лесе, не разумеючы, дзе яна, і не ведаючы, куды ёй трэба йсці. Ішла ў спадзяванні выйсці да людзей, каб распытацца. Але дзе тых людзей знайсці. Ёй успаміналіся бязлюдныя прыціхлыя, нібыта скукожаныя ў жаху вёскі, якія яны міналі. Дзе іх жыхары? Магчыма, таксама пахаваліся ў лесе? Але ж не вечна ў лесе сядзець, асабліва хто з дзецьмі. Вернуцца ж па хатах. І добра б выйсці хоць бы да адной такой вёскі. Ці, можа, у лесе хто сустрэнецца…

– Стой! – раптам прагучала, як стрэл. Аньця спынілася і азірнулася. Да яе, наставіўшы ружжо, набліжаўся мужык.

– Хто такая?

Аньця назвалася.

– Адкуль?

– З Восаў. Ці з Восаў-Калёсаў.

– Не ведаю такіх. Ідзі, там разбярэмся.

Пайшлі. Яна наперадзе, ён ззаду з настаўленым ружжом.

Падышлі да высокай асіны, загадаў спыніцца і ціха свіснуў два разы. Аднекуль пачуўся гэткі ж свіст. Праз хвілінку падышоў яшчэ адзін партызан.

– Кліч Тулу, – сказаў канваір.

– Камандзір адпачывае.

– Будзі. У нас чэпэ.

Хвіліны цяклі марудна. Нарэшце падышоў высокі мужчына ў вайсковым паўкажушку. З ім яшчэ двое.

– Што здарылася?

– Ды вось, баба па лесе ходзіць, нешта выглядвае. Можа, лазутчыца нямецкая.

– Што тут робіш? – звярнуўся камандзір да Аньці.

Яна расказала сваю гісторыю.

– Складна хлусіць, – ухмыльнуўся канваір.

– У якой вёсцы начавалі?

– Я не ведаю гэтых вёсак.

– А сама адкуль?

– З Восаў-Калёсаў.

– Што за назва? Хто чуў такую? – звярнуўся ён да паплечнікаў. Тыя перасмыкнулі плячыма.

– Якія вёскі побач?

Яна пачала пералічваць: Тоўсты Лес, Мяжное, Бортнае, Лука, Масты… Назвы партызанам былі незнаёмыя.

– Дакладна лазутчыца, – вызначыў канваір. – Стрэліць і ўся размова! Беражонага Бог беражэ.

І тут – стрэліць! Пачуўшы гэтае ненавіснае слова, Аньця ўзарвалася:

– Стрэліць?! Мала нас немцы стралялі, дык і вам закарцела! З немцамі ваяваць страшна, дык вы з бабамі ваюеце. Страляй!

– Ну ты, баба, не закручвай! А то й сапраўды стрэльнем, – прымірэнча сказаў камандзір. – На гэты раз адпусцім. Ідзі, куды ішла. Але калі пападзешся нам яшчэ раз…

І махнуў рукой у супрацьлеглы ад іх стаянкі бок. Маўляў, туды ідзі.

Куды яна йшла? Куды вялі ногі. Галава ніяк не магла адпусціць гэтага “стрэліць”. Проста так – узяць і стрэліць? Ні за што! За нейкае недарэчнае падазрэнне. Ну стрэліш – і як потым жыць з гэтым? Чаму людзі так азвярэлі? Ну вайна, вайна, вайна, будзь пракляты той, хто яе распачаў! Але ж куды знікла спагада ад чалавека да чалавека? Знікла раптоўна, як бы і не было яе. А, мо, і сапраўды не было? Кожны сам за сябе, ці за сваю сям’ю. Але ж так у звяроў. А хіба чалавек – звер? Ці, магчыма, вайна, як і любое вялікае зло, выцягвае з чалавека звярынае, тое, што ёсць у душы кожнага, але ў звычайным жыцці яно прытойваецца, заціскаецца. А зараз, калі на першым месцы страх за сваё жыццё, ён, гэты страх разнявольвае душу, выпускаючы з яе нетраў тое самае раней заціснутае звярынае.

І гэты Тула… Яго вайсковая выпраўка, адзенне і – асабліва – гаворка выдавалі чалавека не тутэйшага. Інакш бы ён адчуў у ёй сваю, вясковую бабу. І не западозрыў бы нямецкую выглядчыцу.

Але ці можа тутэйшая жанчына паслугаваць немцам? Раптам Аньця адчула, што не можа на гэтае пытанне адказаць адмоўна. Мужыкі ж могуць. Вунь колькі паліцаяў па вёсках. Не ўсе ж такія, як Цярэнта. Некаторыя служаць аддана. Праўда, больш для таго, каб сябе ўзвялічыць і каб сытней жылося. Але служаць. А жанкі? Не лічыць жа за службу, калі прымушаюць якую прыбіраць у камендатуры ці мыць бялізну нямецкіх салдат. А вось так, каб жанчына добраахвотна, ці нават не дабраахвотна стала нямецкай выведніцай – у гэта не хацелася верыць. Але чаго на белым свеце не бывае. Пасля падзей апошніх дзён, калі свае страляюць сваіх, Аньця была гатовай паверыць у магчымасць любой мярзотнасці.

Яна ішла з блытанымі думкамі і незнікальным хваляваннем. Ішла доўга, не лічачы часу і не ведаючы, куды ідзе. Ішла праз карчы, пералазіла паваленыя дрэвы, чаплялася за голле пад снегам…

– Стой! – зноў раптоўны вокліч.

Яна спынілася. З-за дрэва выйшаў мужык з вінтоўкай у руках.

– Што ў лесе робіш?

Яна пачала распавядаць, што ўцякла ад немцаў. Але ён не даслухаў.

– Ідзі, – паказаў куды. – Раскажаш камандзіру.

Выйшлі на невялікую палянку, за якой яна ўбачыла знаёмую асіну. Убачыла і пахаладзела. Як гэта яна, што ўсё жыццё пражыла ў лесе, здолела заблукаць у ім? На палянцы стаялі яшчэ двое мужыкоў. Адзін пайшоў па камандзіра.

Праз колькі хвілін выйшлі трое, сярод якіх Тула. Ён зірнуў і ўсмешліва развёў рукамі:

– Ах, Аньця! З Восаў-Калёсаў! Дадому, значыць, ідзеш? Ну вось тут твой дом і застанецца. Што паспела навынюхваць-навыглядваць? Распавядзі.

– Я нічога не вынюхвала. Я заблукала ў лесе.

– Ага, яна заблукала. Цябе адпусці, дык ты заблукаеш да немцаў, каб ім расказаць. За якія пірагі ты прадалася, Аньця з Восаў-Калёсаў? Расстраляць!

І павярнуўся сыйсці.

– Пачакай, – гукнуўся той, хто яе прывёў. – Пра якія Восы-Калёсы гаворка?

– Я ў гэтай вёсцы жыву, – мовіла Аньця.

– Ты, што, Васіль, ведаеш такую вёску? – звярнуўся да яго камандзір.

– Ды ведаю.

І павярнуўся да Аньці:

– Арцёма Жлобіча ведаеш?

– Чаму ж не ведаць. Гэта былы старшыня нашага калгаса. Яго год таму немцы забралі ў Асіповічы. І там расстралялі.

– А жонка? Дзеці?

– Агапа жыве з дзецьмі. Старэйшы сын у партызанах. Меншыя з ёю.

Пачаў распытваць пра іншых Жлобічаў. Аньця распавядала. Сказала і пра смерць Ліды. Толькі не сказала, ад каго тая смерць яе напаткала. Расказала і пра іншых вяскоўцаў.

Партызан павярнуўся да камандзіра:

– Не, яна не лазутчыца.

І зноў да яе:

– Дык што ў вас здарылася?

Аньця распавяла пра падзеі апошніх дзён. Таго, што яе вёскі ўжо няма, пра спаленых жыхароў яна яшчэ не ведала.

Памаўчалі. Васіль дастаў з кішэні сухар і даў Аньці:

– Пажуй. Усё ж два дні не ела.

І махнуў рукой на паўднёвы захад, маўляў, туды трэба йсці.

Яна пайшла. Па дарозе перажагналася: добра, што спаткаўся ёй гэты Васіль! Інакш дзе б яна зараз была.

Але ўсё адно – як дабрацца да роднай вёскі? Навокал лес, лес і лес. Што там з дзецьмі? Як маці?..

Яна йшла. Ісці па рыхлым снезе, пад якім то пні, то карчы ці карэнне, было цяжка. Яна спатыкалася, слізгала, пералазіла праз ламачча і калдобіны, прадзіралася праз кустоўе, правальвалася ў ямы, але не спыняла хады. Нягледзячы на мароз, ёй стала горача. Яна расшпіліла кухвайку, крыху аслабіла вузел хусткі, але развязваць не стала. Спяшалася. Зімовыя дні кароткія, паціху напаўзаў

змрок, а ёй яшчэ ісці ды ісці. Яна не ведала, ці правільна йшла. Але нейкае звярынае чуццё вяло яе туды, дзе маглі быць яе дзеці. Сцямнела. У прарэзінах міжхмар'я раз-пораз паказваўся месячык, потым знікаў за хмарай, каб праз колькі хвілін паказацца зноў. У яе заканчваліся сілы, хацелася спыніцца і прысесці. Яна спынялася, каб крыху перадыхнуць, адпачыць, але хутка загадвала сабе ісці далей.

Ёй пачало здавацца, што лес, па якім яна ідзе, нейкі знаёмы. Днём яна магла б пазнаць свае мясціны, бо лясы вакол Восаў яна абхадзіла шмат разоў і ведала там ці не кожнае дрэва. Але ноччу ўсё было іншым. Цяжка дыхаючы, яна чарговы раз спынілася перадыхнуць. Азірнулася навокал і ўбачыла далёка між дрэвамі нібыта агеньчык мільгае. Хутка рушыла ў той бок і зачапілася за паваленае дрэўца. Упала грудзьмі на прыкрыты снегам корч і нейкі час ляжала, спрабуючы зразумець, ці не пашкодзіла што ў сабе. Выцятая грудзіна крыху балела, але гэты боль не быў страшным. Яна з цяжкасцю паднялася і азірнулася. Агеньчыка не было бачна. Яна ўсё ж пайшла ў той бок, дзе раней нібыта паказаўся агеньчык, пайшла асцярожней. Праз колькі крокаў зноў мільгануў агеньчык. Яна прыгледзелася. Здаецца, там было вогнішча, а значыць, былі людзі. Людзі!.. – хацела крыкнуць яна, але з горла вырваўся нейкі сіплы гук. Толькі цяпер яна адчула наколькі стамілася. З цяжкасцю соўваючы нагамі па снезе, яна пайшла да агню…

### 11. Папялішча

"Няма ўжо тваіх дачушак… І маці няма…" – гэтыя словы залоўкі захраслі ў яе сэрцы і варочаліся там камянямі. Сэрца білася натужна і няроўна. Каб была адна, яна завыла б ваўчыцай, але побач быў яе сын, яе першае і ўжо, мусіць, апошняе дзіця. Яны ішлі да Восаў, насамрэч туды, дзе была вёска, а цяпер папялішча.

Вёска адкрылася ім шэрагам счарнелых печаў. Яна ішла па былой вуліцы і азіралася: вось тут жыла Насця Чаропка, а тут Ніна Казляк, а тут была хата Жлобіч Агапы. Яна падумала: "Добра, што

Арцём не бачыў, як іх хату палілі разам з дзецьмі.” І перасмыкнулася ад слова “добра”.

Урэшце падышла да сваёй печы, паглядзела ў яе счарнелую раскрытую пашчу. Было ўражанне, быццам і печ нема крычыць аб сваёй долі. Выцягла з-пад попелу абгарэлую засланку і закрыла печ. Побач была лаўка, па якой залазілі на печ, і блізу лаўкі ложак. Далей яшчэ ложкі. Лаўкі няма, згарэла, а металічныя шкілеты ложкаў чарнеліся. На чаране печы, засыпаным попелам, убачыла нешта белае. Дацягнулася рукой. Костачкі... Дзіцячыя... Дастала ўсе, расклала, як ім і патрэбна было. Не, гэта не яе дзіця. Яе меншыя. Успомніла, што маці адпрасілася ў немца карміць дзяцей. Мабыць, сядзелі за сталом. Яна падышла да таго месца, дзе стаяў стол, і пачала асцярожна ботамі варушыць попел. Так і ёсць, костачкі. Большыя косткі – мацерыны. Меншыя – дзяцей, не толькі сваіх. Сабрала ўсе – і ля былога стала, і з печы, занесла пад яблыню. Ломікам, які знайшла ў попеле ад варыўні, выдзяўбала ямку і засыпала костачкі. Пастаяла моўчкі, перахрысцілася. Вярнулася на папялішча.

Слёз не было. Енку не было. Рабіла ўсё неяк засяроджана, як робяць звычайную працу. Міколка стаяў і назіраў за маці. Яна апошні раз агледзела месца, на якім стаяў яе дом, вялікі цёплы дом на сем вокнаў, збудаваны Іванам з тоўстых бярвенняў навечна, каб і дзецям і ўнукам было дзе жыць. І вось – ні дома, ні ўнукаў, а сыны Івана Васіль ды Пятро недзе ў Сібіры. Калі вернецца Пятро (а ці вернецца?), як яму сказаць пра дзяцей? Не ўратавала. А як тут уратуеш! Хіба ж можна падумаць, што людзі на такое здатныя? Адна думка пра гэта – ужо грэх!..

Яна стаяла, глядзела на шэры попел. У галаве мітусіліся думкі, успаміны... Татка, пагуськай!.. Даруй, Аньця, я падпісаў паказанні на Пятра... Што, Маруська, баліць?.. Уцякай, баба, бо і сама загінеш, і дзіця загубіш!.. Вайнааааааааа!..

Аааааааааа... Яна рытмічна качалася, утаропіўшы вочы ў адно месца, у галаве стала пуста, яшчэ хвіліну – і яна б страціла прытомнасць.

– Мама! – паклікаў сын, устрывожаны яе станам.

Яна схамянулася і павярнулася да Міколкі. Крыху пастаяла, вяртаючыся ў жыццё. Паглядзела на сына. Ёсць чалавек, дзеля якога ўсё ж варта жыць.

– Хадзем, сынок.

Азірнулася на папялішча. Сярод попелу нешта бліснула. Лыжачка! Лыжачка, падораная салдацікам. Яна падняла яе і паклала ў кішэнь.

І яны пайшлі. Пайшлі да людзей. Мікола нёс падушку, з якой ледзь не замёрз у лесе, Аньця – той мяшок з зернем, які павінен быў Міколу пракарміць. І гэта было ўсё іх багацце…

## ЧАСТКА ІІ. Я ВЯРНУЎСЯ

### 1. Вызваленне

Гул самалётаў, выбухі.

– Аньця, бяжы за каровай! – крыкнула Ганна.

Карову толькі-толькі вывелі ў поле папасвіцца. Яна, навязаная да калка, не здолее ўцячы, схавацца ў лесе. Трэба ратаваць. Аньця выбегла на вуліцу. З суседніх двароў выбягалі людзі і беглі да лесу.

– Стойце! – пачуўся нечы крык. – Гэта ж нашы!

Людзі спыніліся, паглядзелі ўверх. На крылах самалётаў былі чырвоныя зоркі. Узрадаваліся: значыць, немцы паўцякаюць.

– А яны яшчэ ўчора паўцякалі, – паведаміў нейкі знаўца. – Вечарам пагрузіліся ў машыны і з’ехалі.

А на каго ж тады самалёты бомбы кідаюць?

Немцаў няма. Значыць, воля!

– Бабы, бяжым на спіртзавод!

Завалочыцкі спіртзавод працаваў і пры немцах. Натуральна ж, там знойдзецца чым пажывіцца. Заклік знайшоў водгук: хто з вядзерцам, хто з каструляй, хто з гумовай грэлкай бегма рушылі да спіртзавода.

Аньця задаволеная йшла дадому, несучы паўвядзерца спірту. Дадому – гэта да дому Ганны Цімашыхі з Рудні, якая дала прытулак Аньці і Міколку, дзе яны і жылі амаль паўтары гады.

28 чэрвеня 1941 года немцы занялі мястэчка Завалочыцы і навакольныя вёскі. 28 чэрвеня 1944 года ў Завалочыцы ўвайшлі савецкія войскі. Роўна тры гады людзі жылі пад нямецкай акупацыяй і цяпер свяціліся шчасцем ад адчування свабоды. Чырвонаармейцы ўваходзілі ў вызваленыя вёскі радасныя і шчаслівыя, шчаслівыя найперш з таго, што вызваленне адбылося без бою і ніхто не загінуў.

Група салдат перагнала Аньцю. Ззаду йшоў малады капітан.

– Добры дзень, жанчына! – павітаўся ён з прыязнай усмешкай.

– А й сапраўды ён добры, – адгукнулася Аньця. – Можна й адзначыць.

Яна зачэрпнула з вядзерца паўкружкі спірту і працягнула капітану. Той узяў, панюхаў і страсянуў галавой.

– Пі, капітан, – жанчыны сабраліся вакол яго. – Пі! Такую радасць нам прынёс. Пі за канец вайны, за перамогу!

– За перамогу, мілыя! – пагадзіўся капітан.

Каб яны ведалі, што далей будзе з гэтым капітанам…

Капітан залпам выпіў змесціва кружкі, зрабіў жэст рукамі, быццам усіх абдымае, і пайшоў далей. Сонца ўздымалася ўсё вышэй і ўжо добра прыпякала. Капітан сеў на лаўку перадыхнуць каля чыісьці веснічак. Яму было добра. Што яму снілася? Родныя мясціны? Каханая? Маці, бацька? Ён усміхаўся, з некім размаўляў. Лаўка была вузкая і ён абсунуўся на зямлю, працягваючы мармытаць.

Жанчыны, бачачы, што капітан уладкаваўся надоўга, паспачувалі, зацягнулі яго на двор і паклалі ў пуні на сена, дзе ён і спаў да вечара.

Назаўтра раніцай Аньця збіралася ісці ў Восы, у тое, што ад Восаў засталося. Яна наведвалася туды амаль штодзень. Усё ж яе зямля. Вайна некалі скончыцца і трэба працягваць жыць. У склепе, папялішча якога яна раскапала, яшчэ была бульба; яна зверху

падгарэла, але ніжэй была прыдатнай. Тую бульбу Аньця насіла да Ганны, а што-нішто пакінула, каб пасадзіць. І ў траўні пасадзіла. Цяпер трэба праполваць, акучваць. Пасеяла і загончык жыта. Невялікі загончык. Ці шмат зробіш аднымі рукамі з матыкай, без каня. Але ўсё ж нешта вырасце. Вырашыла, што пачне капаць зямлянку, бо штодзень ад Ганны не находзішся. Гэта ж дзесяць кіламетраў, дзве гадзіны хады. І назад дзве гадзіны. Праўда, Аньця спраўлялася за паўтары, але і тры гадзіны, страчаныя на дарогу, шкада.

Выйшла на вуліцу і ўбачыла Домну і Маню, якія кіраваліся ў Восы з той жа мэтай.

– Аньця, ведаеш, што з капітанам адбылося? – спытала Домна, павітаўшыся.

– З якім капітанам?

– Ну, з тым, якога ты пачаставала спіртам.

– І што адбылося?

– Ён спаў да вечара ў Зосінай пуні. А потым бабы падумалі, што назаўтра раніцай салдаты пойдуць далей. А ён застанецца. Яшчэ, не дай бог, дэзерцірам палічаць. Пайшлі і сказалі начальніку: забярыце вашага капітана… Ой, матка родная! – як яго білі! – Домна перажагналася. – Каб ведалі, што так будзе, то хай бы ляжаў, неяк бы адбрахаўся потым… І кулакамі, і нагамі. Усяго скрываўленага пацягнулі.

Вечарам, вяртаючыся да Ганны, Аньця думала пра таго капітана. Колькі за вайну жахаў нагледзелася, а ўсё ніяк не прывыкнеш да такога. Няўжо ніякага іншага пакарання няма, як збіць да паўсмерці? Ну, збілі, цяпер будуць лячыць збітага. А мо, і пасадзяць. Ці, не дай Бог, расстраляюць. А значыць, адным вайскоўцам стане менш. А ён мог бы ваяваць. Ну, не капітанам, няхай якім лейтэнантам ці простым салдатам.

Шкрэбла па сэрцы і адчуванне сваёй вінаватасці: навошта яна працягнула яму тую кружку з спіртам? Адзін рух рукі – і сапсаванае чалавеку жыццё! Як усё няпроста ў Божым свеце! Бо-

жачка мілы! Навучы правільна жыць. Гэта ж калі пра кожны крок думаць трэба, дык мазгоў не хопіць…

– Аньця, – сустрэла яе Ганна на двары. – Прыходзіў паштальён. Там табе два пісьмы ляжаць на стале.

Ад каго лісты? Няўжо ад Пятра? Аньця хутка рушыла ў хату і ўбачыла на стале два канверты, падпісаныя знаёмым акуратным почыркам: "…Сімонавіцкі сельсавет, вёска Восы-Калёсы, Булавацкай Аньці". Яна зайздросціла гэтаму почырку, бо яе літары атрымліваліся вуглаватымі і няроўнымі, як яна ні старалася. Пятроў адрас быў цяпер такі: Казахская ССР, Акмолінская вобласць, Вішнеўскі раён, калгас "Барацьба з засухай".

У абодвух лістах быў амаль аднолькавы тэкст. Пятро, даведаўшыся, што пачалося вызваленне Беларусі, на пачатку 1944 года напісаў ліст. А праз тры месяцы, не дачакаўшыся адказу, напісаў яшчэ адзін ліст.

Паштальён Ціма ведаў, дзе знайсці ўратаваных калясянцаў, і па вызваленні прынёс абодва лісты з радаснай навіной: Пятро жывы, працуе ў калгасе.

Падзяліўшыся гэтай навіной з Ганнай і яе дзецьмі, Аньця села пісаць адказ. Пісала пра вёску, якой ужо няма, пра забітых дзяцей. Пісаць было цяжка. Як бы зноў перажывала тыя хвіліны на папялішчы. Слёзы капалі на паперу і чарніла расцякалася кляксамі. Яна скамячыла паперчыну і ўзяла другую, пісаць пачала алоўкам. Пісала з перапынкамі, бо ўспаміны захрасалі камяком у горле і трэ было перадыхнуць. Скончыла словамі "Прыязджай хутчэй".

Адказу чакала больш за месяц. Адказ не ўзрадаваў. З калгаса Пятра не адпускалі, не выдавалі пашпарт, бо "няма каму працаваць". Патрэбен афіцыйна завераны выклік. Аньця напісала новы ліст, заверыла яго ў сельсавеце і даслала Пятру. Але і гэта не дапамагло. Пятро напісаў, што пячатку сельсавета палічылі недастатковай, патрабуецца пячатка райвыканкаму. Дый тады могуць адпусціць толькі пры наяўнасці непаўнагадовых дзяцей.

Аньця пайшла пешшу ў Глуск і напісала яшчэ адзін выклік, завераны пячаткай райвыканкаму, ужо ад імя жонкі і непаўнагадовага сына, якому патрабуецца бацькава дапамога.

Уся гэтая перапіска доўжылася амаль два гады. Паштальён Ціма прыносіў доўгачаканыя лісты цяпер у Восы, куды павярталіся ацалелыя калясянцы і жылі ў выкапаных зямлянках. Накрывалі зямлянкі ад дажджу хто як змог: хто саломай, хто шчапой, хто брызент раздабыў.

Аньця змовілася рабіць зямлянку разам з Варкай і яе мужыком Піліпам, усё ж утрох справа хутчэй робіцца, чым паасобку. Варка была з Мастоў, таксама спаленай немцамі вёскі, але на адбудову Мастоў дазволу ўлады не далі па прычыне неўрадлівых навакольных земляў. Людзі мастоўскія ўратаваліся па лясах усе, бо ўжо ведалі, што можа быць з тымі, хто застанецца, не схаваецца. І цяпер пачалі перасяляцца – хто ў Восы, хто ў Арыжню, хто яшчэ куды.

Варка вырашыла перасяляцца ў Восы, бо тут жыла яе сястра Ніна. Усё ж лепш, калі сваякі побач. Піліпа ў войска не забіралі, бо знайшлі нейкія непаладкі ў страўніку і пячонцы, да таго ж ногі былі рознай даўжыні, з-за чаго ён крыху накульгваў, з гэтай нагоды ён патрабаваў для сябе лягчэйшай працы ў калгасе. Але ў Мастах былі й іншыя калекі, якія хацелі лёгкай працы, ды лёгкай працы ў калгасе мала, на ўсіх не хапала, з-за чаго паміж мужыкамі стасункі былі непрыязнымі.

Неўрадлівая пясчыстая зямля не радавала мастоўцаў ураджаямі. Калгас “Ленінскі шлях”, нягледзячы на гучную назву быў самым бедным сярод навакольных калгасаў. Не лепш атрымлівалася і на прысядзібных участках. А калі цяжкая праца дае мала плёну, то й працаваць не хочацца. Мастоўцы паступова абыякавелі да працы, не па-добраму зайздросцячы тым, у каго атрымлівалася крыху лепш.

Такімі яны засталіся і падчас вайны, што ў выніку скончылася трагедыяй. Восенню 1942 года партызаны прывезлі Дзяміду два мяхі мукі, каб ён з жонкай пёк для іх хлеб. Прывезлі ноччу, каб ніхто не бачыў і Дзяміду загадалі нікому пра тое не казаць. Але

што схаваеш у вёсцы. Яўхім, чыя хата была насупраць хаты Дзяміда, неяк заўважыў, што з дзямідавага коміна асобнымі днямі доўгі час ідзе дым. Здаецца ж, яшчэ і не зіма, навошта ў печы так доўга паліць? “Што яны там вараць?” – пытанне не давала яму спакою. І аднойчы, убачыўшы дым з коміна, зазірнуў да суседа.

– Што ты ўсё варыш? – зазірнуў у печ. – О, хлеб! А дзе мукі ўзяў?

Дзяміду нічога не засталося, як расказаць, адкуль мука.

– Дык дай і мне адзін бохан, – папрасіў Яўхім.

– Не магу. Партызаны даведаюцца, што раздаю, пакараюць.

– Сабе ж пакідаеш.

– Мне дазволілі пакідаць для сваёй сям’і адзін бохан на тыдзень. Больш – ні-ні!

– Дык дай і мне. Яны не заўважаць.

– Заўважаць. Яны пралічылі, колькі боханаў атрымаецца. Да таго ж, дай табе, дык і іншыя прыдуць: дай і мне. Усю ж вёску не накармлю.

– Дай. А то немцы даведаюцца, што пячэш для партызанаў, арыштуюць.

– Калі ты не скажаш, то не даведаюцца.

– Дай, дык не скажу.

– Не, не дам.

Абураны і раззлаваны Яўхім пайшоў ні з чым. Зайздрасць драла душу. “Во, скнара! Сам свежы хлеб есць, а мне бульбай душыся!..” Не стрымаўся, схадзіў у Завалочыцы.

Назаўтра прыехалі немцы на машыне. Завіталі да Дзяміда. Знайшлі ў яго мех мукі і другі з-пад мукі, ужо пусты. Муку забралі, а Дзяміда расстралялі.

Ноччу прышлі партызаны па хлеб. Убачылі заплаканую Грыпіну і прыціхлага ў сполаху хлопчыка.

– Хто данёс?!

– Не ведаю. Але хутчэй Яўхім. Ён прасіў даць яму бохан хлеба і пагражаў, што скажа немцам, калі не дадзім.

Зайшлі ў хату Яўхіма, разбудзілі.

– Хадзем.

– Куды?

– Там патлумачым.

– Куды вы яго забіраеце? – ускінулася жонка. – Што ён зрабіў?

– Разбярэмся, што зрабіў. Кладзіцеся спаць.

Раніцай на ўзлеску знайшлі цела Яўхіма, збітае і сколатае штыкамі.

Гэтую гісторыю распавёў Аньці Піліп, калі яны разам капалі зямлянку. Разумелі, што ў ёй давядзецца і зімаваць, можа, нават не адну зіму, але капаць вырашылі неглыбока, усё ж узнятая па вясне вада можа заліць жытло. Па кутах выкапанай ямы паставілі чатыры слупы, дошкамі накрылі столь, кругом абставілі жэрдкамі, коллямі, пакінуўшы месца для ўваходу, абклалі іх мохам і сенам і закідалі зямлёй. Яшчэ й нейкую печку змайстравалі на выпадак халадоў. Зямлянка атрымалася цёплай. Але гэта ацанілі не толькі яны, але і іх непажаданыя госці. Вось жа ніколі ў вёсках не вяліся прусакі, тараканы, а тады адкуль толькі ўзяліся! Да таго ж клапы і блохі. Абкурванне дымам і прапаркі кіпнем крыху дапамагалі, але ненадоўга.

## 2. Дома

Восенню 1944 года ў Рудні адчынілі пачатковую школу, займаліся ў Апанасавай хаце. Мікола пайшоў у другі клас, бо першы скончыў да вайны. А на наступны год школу адчынілі ў Восах, у даволі прасторнай зямлянцы Адама Ліхадзіеўскага, які з’ехаў жыць у Дараганава. Настаўніца з Восаў Кароль Соф’я Рыгораўна вучыла адразу тры класы: у першым было трынаццаць вучняў, у другім – чатыры, у трэцім адзін Мікола. А ў чацвёрты клас ён хадзіў ужо ў Яўсеевічы, жывучы ў чужых людзей, якія прытулілі хлопца. Пасля вайны людзі былі надзвычай добразычлівымі.

Восеньскай суботай ён вяртаўся дадому на выходны дзень, трэба ж і маці дапамагчы нешта па гаспадарцы. Вяртаўся ў добрым настроі: настаўнік Якаў Майсеевіч паставіў высокую адзнаку і

пахваліў яго за руплівасць, за розум. Хацелася падзяліцца гэтай радасцю з матуляй.

Маці на двары не было і ён скочыў у зямлянку. Скочыў і… знямеў. За самаробным сталом на лаўцы сядзеў мужчына. І знаёмы і незнаёмы адначасова. Мікола ведаў, што бацька гукнуўся, што ён павінен прыехаць. І што мужчына за сталом – гэта і ёсць бацька, хлопец здагадаўся. Але ж нейкі ён быў зусім не падобны да таго, каго нагадвала памяць. Маршчаты загарэлы твар у паўзмроку зямлянкі здаваўся амаль чорным. А раней цёмныя хвалістыя валасы былі такімі ж хвалістымі, але чамусьці з белымі пасмамі. Мікола глядзеў на бацьку і не рашаўся падыйсці. І бацька глядзеў і маўчаў.

– Коля, ну што ж ты стаіш? Падыйдзі. Гэта ж бацька твой.

Толькі цяпер Мікола заўважыў, што за сталом насупраць бацькі сядзіць маці. Ён хацеў нешта сказаць, але нейкі камяк ператкнуў горла і ён захлынуўся хліпучымі спазмамі. Бацька выйшаў з-за стала і абняў сына. Яны доўга так стаялі моўчкі, абняўшыся, і слёзы абодвух змешваліся на бацькавых грудзях.

Вечарам ля Аньцінага вогнішча сабраліся ўсе калясянцы паслухаць свайго зніклага і знойдзенага земляка. З чатырох забраных ён вярнуўся першым. А дзе іншыя?

– Пра Андрэя Рыбака не ведаю, – распавядаў Пятро. – Але яго хутчэй ужо няма. Не можа стары вытрымаць такога. Не вернецца і Алесь Герман. Змарнаваўся. Васіля павезлі на Калыму. Не ведаю, што з ім.

– Васіль жывы, – гукнулася Антоля. – Ліст даслаў. Працуе ў кузні. Спадзяецца вярнуцца. Дай Бог…

– Добра, калі вернецца, – парадаваўся Пятро. – Бач ты, і там кузня, мабыць, уратуе.

І ён распавёў гісторыю пра брычкі. Потым гаварыў пра сябе, пра свае прыгоды, пра Казахстан.

– Вось жа зямля добрая ў казахаў! І раскарчоўваць не трэба. Стэпы, стэпы без канца і краю. Бяры, узорвай і засявай! Зямля такая, што ўсё вырасце.

– А што ты там рабіў?

– Там палі – канца-краю не бачна. Трактар арэ поле. Ідзе ў адзін бок, потым вяртаецца назад. І паўдня мінула, гэта гадзін сем-восем. Перакусіць трактарыст і зноў – туды-назад за другія паўдня. Дадому не едзе, начуе ў полі. І так пакуль не заарэ ўсё поле. Я падвозіў валамі салярку, ваду, харч. Знайшлі працу па маім здароўі. А то спачатку паставілі мяне на перапрацоўку тытуню. Мне, як курыльшчыку, тое спадабалася. Пахі прыемныя. Але добра было толькі на вольным паветры. А калі пачалі перапрацоўваць тытунь у памяшканні, стала нядобра. Пыл у нос лезе, кашляць пачаў, задыхацца. Вось і перавялі на іншую працу, на паветра. Жыў у старой казашкі. Плацілі пшаніцай. Прывозяць і ссыпаюць каля дома. Потым яшчэ прывозяць і сыплюць наверх. Так вырастае вялікая куча. Каля кожнага дома такая куча. Зверху пшаніца падшэрхне, а ў сярэдзіне добрая. Як збіраўся дадому, я сваю кучу прадаў. Хоць колькі грошай дадому прывёз…

Дома! Дзіўнае слова: ты дома, а дома няма. Твой дом – зямлянка, якую ты дзеліш з суседзямі. Але новы дом ужо закладзены і сцены напалову стаяць. Дом будзе не такі, як даваенны, не на сем вокнаў, толькі на тры. Тут не да тлушчу! Мо, Бог дасць разжыцца пазней. А зараз… абы не ў зямлянцы.

Аньця, калі хадзіла ў Глуск дамагацца вяртання мужа, зайшла ў банк пацікавіцца, ці можна атрымаць крэдыт на будоўлю.

– Але ж, – агаломшыў яе банкаўскі служка, перагледзеўшы паперы, – ваш муж перад вайной браў крэдыт на перасяленне з хутара ў вёску. І яшчэ не разлічыўся.

– Вось як! – абурылася Аньця. – Мужа забралі! Дом згарэў! Маці згарэла! Дзеці згарэлі! А крэдыт не згарэў?

– Пачакайце тут, – прапанаваў ёй клерк і адышоў. Калі вярнуўся, паведаміў, што для жыхароў спаленых фашыстамі вёсак ранейшыя крэдыты ануляваныя і таму можна аформіць новы крэдыт. Запісаў на паперцы, якія дакументы для гэтага патрабуюцца.

Па парадзе Аньці іншыя калясянцы таксама пачалі браць крэдыты.

Леснікі кляймілі дрэвы, якія можна было рэзаць на будаўніцтва. Але ніхто на тое клеймаванне не зважаў, выбіралі што лепшае і рэзалі. Леснікі паскардзіліся на такое самавольства ў райвыканкам. Справу перадалі ў суд. Суд вырашылі зрабіць выязным, каб усе пабачылі і адчулі, што можа быць за гэткую непавагу да ўлады. І неяк бліжэй да вечара, калі людзі па сканчэнні калгаснай працы павінны вяртацца дадому (дакладней, да сваіх зямлянак) у вёску прыехала суддзя з сакратаркай і двума засядацелямі.

У зямлянцы Рыгора Караля, як самай прасторнай, зладзілі стол на крыжавінах і лаўку для суда. Суддзя накрыла стол чырвоным абрусам, расклала паперы, села з сакратаркай і засядацелямі за сталом і загадала людзям заходзіць. Людзі рассаджваліся хто дзе прыткнуўся, хто на зямлі, падклаўшы сена, хто на якой дзяружцы, хто на кукішках. У зямлянцы было прыцемна дый сонца, адпрацаваўшы дзённую змену, гатова было сысці на адпачынак. Рыгор прынёс і запаліў газавую лямпу. Але як толькі паставіў яе перад судом, на стол пасыпаліся прусакі з столі і пачалі бегаць па абрусе, па паперах. Суддзя і сакратарка войкнулі, усхапіліся з лаўкі і выбеглі на двор.

– Там я нічога рабіць не змагу, – патлумачыла суддзя.

Стол і лаўку вынеслі на двор. Суддзі занялі сваё месца. Вяскоўцы, усе босыя, мужыкі ў рваных штанах і кашулях, жанчыны ў зрэбных спадніцах, мала хто ў сукенках, – усе ад малога да старога – паўсталі наўкола. Але тут на суддзяў накінуліся камары і сляпні. Каб абараняцца ад крывапіўцаў, суддзям далі галінкі з лісцямі. Але ж бесперапынна махаючы галінкамі, пісаць не было як.

Суддзя ўсё ж паспрабавала пачаць судовы працэс, зачытала зыск да жыхароў вёскі з тлумачэннем нанесенай лесу шкоды і сумай магчымага штрафу. Натоўп загудзеў:

– Уууууу!..

– Дзе мы тыя грошы знойдзем?

– У нас хлеба няма за што купіць!

– Калгас грашыма не плоціць…

– Прадаць нашы зямлянкі ці што?

– Пакажыце, як тыя грошы выглядаюць.

– Вы там у цёплых кватэрах жывяце!

– Сыты галоднага не разумее!

– Знайдзіце ў кагосьці з нас хаця б капейку, падзівімся на яе.

– Бярыце нашы бярвенні і завязіце ў лес. Можа, наноў вырастуць…

Суддзя, нястомна махаючыся ад камароў, мабыць, зразумела, што нічога з гэтага выязнога суда не атрымаецца, устала, сабрала паперы, скруціла чырвоны абрус і суд паехаў. Справа такім чынам была закрытая.

На атрыманы крэдыт у пяць тысяч рублёў Аньця змагла з дапамогай вяскоўцаў нарыхтаваць і апрацаваць бярвенні і наняла цесляроў з Бабірова ставіць сцены. Пятро быў слабым памочнікам ім, але сёе-тое мог зрабіць і ён. Дый Мікола на пятнаццатым годзе ўжо меў добрыя працоўныя рукі. Сцены паступова раслі. Аньціна хата паўстала ў вёсцы першай. У ёй нарадзіўся сын Мішка. У ёй і вырашылі адсвяткаваць у суботу 8 лістапада 30-годдзе савецкай улады.

**3. Юбілей**

Свята – гэта як? Выпіць, каб расслабіцца, добра паесці, паспяваць, патаньчыць, пагаманіць… “Добра паесці” не выпадала, тут хіба што бульба ўратуе. Ды і таньчыць не было дзе, дый музыкі не было. Усё ж астатняе было магчымым. Старшыня калгаса “Ленінскі шлях” (назву мастоўскага калгаса перадалі Восам, палічылі больш годнай) Міхаіл Кароль таемна выдзеліў дзвюм жанчынам з калгасных сусекаў жыта і бульбы, каб нагналі гарэлкі, што яны ахвотна і зрабілі.

У новай, пакуль адзінай на ўсю вёску, хаце мужыкі змайстравалі сталы літарай П з бярвенчатых плашак, бо дошак хапіла толькі на лаўкі вакол сталоў. Уся вёска сабралася ў хаце, хіба што нямоглыя старыя ды самыя малыя пазаставаліся ў сваіх зямлянках.

У “чырвоны” кут, дзе павінен быў бы вісець абраз, але абраза не было, была толькі палічка для яго з надвязаным ручніком,

сеў старшыня. Міхаіл вярнуўся з войска ў званні старшага лейтэнанта, вярнуўся з двума медалямі. Рана была залечана, але ўсё ж не дала яму магчымасці працягваць службу, і ён атрымаў адстаўку. Перайшоў на цывільную службу. Пытанне пра старшыню новага калгаса такім чынам было хутка вырашана пры ўзаемнай згодзе і раённага начальства і саміх калгаснікаў. Тым болей, што Пятра Рыбака з вайны не дачакаліся.

– Дарагія мае! – пачаў Кароль.

Усе сціхлі.

– Мы пражылі страшны час. Жудасны час. Шмат нашых вяскоўцаў загінула. І дзяцей, і старых. Загінулі без ніякай віны з іх боку. Каб я верыў у бога, дык сказаў бы, што бог пакарае злачынцаў. Але яны і так пакараныя. Нямецкая армія разбітая і капітулявала. Германія падзелена на чатыры часткі. І ўжо ніколі адтуль ніякая навала не палезе на нашы землі. (“Дай Бог!” – прамовіў хтосьці з жанчын.) Мы перамаглі. Перамог Савецкі Саюз. Перамагла маладая дзяржава, якой сёння спаўняецца трыццаць год. І ў гэтай перамозе зарука яе праўды. Мы цяпер пачынаем будаваць новае жыццё. Можа, у каго ёсць якія крыўды да жыцця ранейшага, – забудзем іх. Адкінем старыя крыўды, звадкі, горыч страт. Давайце глядзець наперад і верыць, што зможам. Будзьма разам, тады адолеем любыя нягоды. Іншага шляху ў нас няма. За перамогу, за новае жыццё!

Паднялі чаркі. Закусвалі бульбай – бульба горкай, бульба шарыкамі, бульба ляпёшкамі, нават кветачкі з тоўчанай бульбы. Хацелася на свята прыгажосці, вось і стваралі яе з таго, што было. Да бульбы квашаная капуста ці льняное семя.

– Чаму без мяне?! – пачуўся голас. У хату зайшоў Віктар Бахановіч з мяшэчкам. – Што, адной бульбай святкуеце? А ўюноў не хочаце?

– Хочам! – прагучала ці не хорам.

– А на хочам парагочам. Выбачайце, на ўсіх не хопіць. А маладыя крыху паласуюцца.

Ён пачаў даставаць з мяшэчка смажаных уюноў і раздаваў маладзейшым па рыбінцы. Дасталося і старшыні.

– Ну налівайце пад уюноў! – загадаў той.

Выпілі. Мужыкі вышлі пакурыць, пачалі распытваць Віктара, дзе налавіў. Але жанчынам тое было нецікава.

– Бабы, заспявайма!..

Вось жа, мяркую, што і раней, і пазней калясянскія жанчыны збіраліся на застоллі найчасцей не для таго, каб выпіць і паесці, але каб паспяваць. Не сказаць, каб галасы іхныя былі нейкімі адмыслова спеўнымі, галасы былі звычайнымі жаночымі, у каго нават грубаватымі. Але ў спевах яны гучалі зусім па-іншаму, яны станавіліся нейкімі выразна прыгожымі, узнёсла адухоўленымі. Мабыць, таму што спявалі яны не глоткамі, не галасамі, – душамі.

“Бабы, заспявайма!” І, успомніўшы якую песню, размяркоўвалі ролі: ты запявай, ты падцягвай, ты цягні, ты падпявай… І песня лілася… Часцей пра жаночую долю, пра каханне, якога і хочацца, але якое і страшыць…

Бывала, у жаночы хор ўліваліся мужчынскія галасы, не перакрываючы жаночыя, але ствараючы выразныя адценні.

Пазней я шмат слухаў гэтыя спевы і, каб на той час мой сённяшні розум, то хаця б запісваў тэксты песень, частка якіх сёння незваротна знікла.

А тады, няпоўным месяцам ад роду, ляжаў моўчкі ў пялюшках і ўслухоўваўся ў дзіўныя гукі, якія абвалакалі малога сваёй прыгажосцю. І пазнаваў у сугуччы родны голас, голас маці.

“Пасею гуро-очкі нізка над вадо-ою,
Сама буду палівацi горкаю слязо-ою…”

Мужыкі на двары пускалі пахучы дым з тытуню, які вельмі добра ўмеў вырошчваць Рыгор Кароль, і балакалі.

– Адкінуць, забыць старыя крыўды цяжка будзе, – казаў Ціт.
– Як тое забудзеш, калі за гэтымі крыўдамі жыцці людзей. Як забыць Жлобічысе застрэленую дачку?

– Ну так, – падтрымаў яго Язэп. – Няхай ужо забраных партызанамі коней можна дараваць. Тут як бы неабходнасць. Валёнкі, боты, кажухі забіралі – патрэба, куды дзецца. Але навошта людзей забіваць без прычыны?

– Забойцу Ліды ўжо Бог пакараў, яго самога ўжо няма. А вось у Радуцічах партызаны застрэлілі настаўніцу, якая вучыла дзяцей і атрымлівала ад немцаў зарплату, – нагадаў Рыгор Елін. – За што? Якая яна нямецкая паслугачка?! Чалавеку жыць трэба. Нават калі вайна. Што ёй, паміраць ад голаду? Партызаны ж не накормяць. І што яна шкоднага рабіла? Яна ж не на немцаў рабіла. Дзяцей вучыла. Не нямецкіх, нашых дзяцей. Хіба для краіны лепей, каб дзеці былі ненавучанымі? І яе застрэлілі. Тых партызанаў саміх судзіць трэба. Але ж партызанаў не судзяць.

– Сапраўды, судзяць тых, хто ў партызанах не быў. Вунь Цярэнту браліся судзіць. І сядзеў бы ён у турме нізавошта, калі б Паланейчык не паклапаціўся, не засведчыў, што быў старастам па заданні партызанаў. А калі б Паланейчык загінуў? Ці проста не дачуўся б, што Цярэнту судзіць будуць?

– А нашага старасту, – уставіў слова Пiлiп, – Мішу Багдановіча так і засудзілі. Далі пяць год. Сядзіць зараз. Ён і пабыў старастам у Мастах нейкіх два месяцы, нічога ж не рабіў, толькі лічыўся старастам. Сам жа потым паведаміў мастоўцам, каб уцякалі, бо немцы вёску паліць будуць. Уратаваў людзей. Людзі на судзе пра тое сведчылі. Улічылі тыя паказанні, далі не дзесяць, а толькі пяць год. Але і пяць год за што?

– У нашай дзяржаве, як і раней, судзяць не за правіннасць, а за падазрэнне ў ёй, – зазначыў Ціт.

– Ты на дзяржаву не гыркай, – спыніў яго Пятро. – А то пацягнуць у Сібір, як мяне.

Ціт спалохана азірнуўся на яго і змоўк.

– Ну вось і “забывайце старыя крыўды”, – пад’ялдыкнуў Елін. – Што змянілася? Зноў калгас, зноў праца за палачкі, зноў… – Ён махнуў рукой.

– Мужыкі, хопіць балабоніць! – паклікалі жанчыны. – Ідзіце за стол!..

Назаўтра раніцай Варка прынесла да Аньці чыгунок з бульбай, каб зварыць у печы.

– Толькі пасалі, а то ў мяне соль скончылася.

– Вось і ў мяне тая ж бяда, – усміхнулася Аньця, вызваляючы месца ў печы для новага чыгунка. – Ледзь нашкрэбла на свой чыгунок. Схадзі, папрасі ў каго.

– Піліп! – гукнула Варка. Той высунуўся з зямлянкі. – Схадзі да Ніны, папрасі жменьку солі.

Ніна з мужам ужо снедалі за сталом каля зямлянкі і абмяркоўвалі ўчорашняе застолле. Вогнішча астывала.

– Добрай гарэлкі нагналі, – пахваліў Аляксей.

– Гэта хто нагнаў? – спытаў Піліп, падыходзячы.

– Ды вось яна з Маняй. Выканалі заданне старшыні.

– А чыю бульбу і жыта скарысталі?

– Ну не сваю ж. Кароль выдзеліў калгаснай на такую справу.

– Калгасную? Значыць, і маю, – задумаўся Піліп. – Але ж я не піў.

– Ну як ты не піў? Усе пілі, а ты не піў?

– Я толькі адзін раз паўшкеліка… А потым не піў. У мяне ж ныркі хворыя. Нельга.

– Ну не піў, дык хай не піў. І што ты цяпер будзеш рабіць?

– Не, я пайду да Караля. Няхай верне маю частку бульбы і жыта.

– Ага, раскрывай рот шырэй. Верне ён табе…

Не стрымаў Піліп несправядлівасці, пайшоў да старшыні з патрабаваннем вярнуць яго частку бульбы і жыта. Аддаць тую драбязу для калгаса не было прыкметнай стратай, але Міхаіл разумеў: аддасі аднаму, заўтра другі прыдзе з патрабаваннем нешта вярнуць, потым трэці. Так і расцягнуць калгас па частачках.

– Не, не дам, – катэгарычна адмовіў Кароль. – Бульба і жыта агульныя, імі праўленне распараджаецца. Як праўленне вырашыла, так і зрабілі.

– Я ў суд падам, – заўпарціўся Піліп.

– Падавай. Будзе той суд дзяліць тры кіло бульбы. Што, суду заняцца больш няма чым?

Але крыўда Піліпа была сляпой. Ён напісаў ліст у суд. Варка, калі даведалася пра тое, разбушавалася:

– Ты, што, дурань?! Насмяшыць людзей захацеў? Нічога ты не даб’ешся! За той суд табе яшчэ плаціць давядзецца. Ты ўжо плаціць пачаў – за паперу і за канверт. Няхай капейкі, але ці ты не ведаеш, як тыя капейкі нам даюцца?! Ёлупень! Боўдзіла! Бульбы табе не хапае? Гэта ж смех на ўсю вёску! Людзі плявацца будуць! За ўсё жыццё не адмыешся! Абізгал ты няшчасны!..

Варка знаходзіла самыя крыўдныя словы. Піліп панура слухаў. Але што ж, паперка паляцела, не вернеш.

Суд і на гэты раз зрабілі выязным. Прыехала тая ж суддзя, што годам раней прыязджала караць за незаконна зрэзаныя дрэвы. Прыехала абараняць пакрыўджанага калгасніка. А мо, і не абараняць. Можа, якраз і чакалі таго, што адбылося. Каб іншым непанадна было скардзіцца на калгас.

Цяпер суд засядаў не ў зямлянцы і не ў двары. Ужо стаяў будынак, дзе можна было прыстойна размясціцца. І сляпні з камарамі не дакучалі напрыканцы восені.

Расселіся: за сталом, пакрытым чырвоным абрусам, суддзя, сакратарка, два засядальнікі, перад імі на лаўках – пазоўнік Піліп Пруцюк і адказнік, старшыня калгаса Міхаіл Кароль. За лаўкамі сталі калясянцы. Сабраліся амаль усе. Забава ўсё ж.

Суддзя зачытала ліст Піліпа, які выклікаў агульны шум і рогат. Калі супакоіліся, суддзя прапанавала выказацца Міхаілу. Той устаў, крыху падумаў і пачаў:

– Шаноўны суд! Мабыць, ёсць у той падзеі нейкая наша віна. Наша – я маю на ўвазе віну праўлення калгаса. Але як не адзначыць юбілей савецкай улады, першы юбілей пасля грандыёзнай перамогі над фашызмам. Людзі працуюць, працуюць, працуюць… Трэба ж і адпачыць, пагуляць, пасвяткаваць. А як святкаваць у нашых умовах? Артыстаў запрасіць, каб канцэрт зладзілі? Дзе іх узяць? І на якія грошы? Вось мы і зрабілі сваімі сіламі. Пасядзелі, пагаманілі, паспявалі. Канешне ж, выпілі. Ну як без гэтага? Без гарэлкі не свята. Ну патрацілі на гэта маленькую частку калгаснай бульбы і жыта. Усе засталіся задаволенымі. Акрамя аднаго, які піў разам з усімі…

– Не піў я! – выгукнуў Піліп.

– Ну як не піў, – загаманілі людзі. – Піў! Усе пілі і ты піў.

– Мне нельга. У мяне ныркі хворыя. І страўнік. У мяне даведкі ад урачоў ёсць, каб асцерагацца, цяжкай працы не рабіць. І не піць.

– А дзе ў калгасе лёгкая праца? – абурыліся людзі. – Усюды цяжка. І хто з нас не хворы? У цябе ныркі, страўнік. А ў іншага рукі баляць, ногі, паясніца распраміцца не дае. Ім якую лёгкую працу знайсці?

– Пачакайце, – спыніла гаману суддзя. – З працай будзеце потым разбірацца. Мяне ж цікавіць, ці быў таварыш Пруцюк за агульным сталом і ці піў ён гарэлку?

– Быў. Сядзеў і піў.

– Не трэба выкрыкваць. Давайце па парадку. Мне трэба паказанні сведкаў.

Кожны, каго яна ні пытала, пацвярджаў, што Піліп сядзеў за сталом, піў і еў, як усе. Піліп абурана круціў галавой і разводзіў рукамі.

– Таварыш Пруцюк, – звярнулася да яго суддзя. – Хто можа сведчыць, што вы не пілі за сталом?

Піліп разгублена аглядваў вяскоўцаў і бачыў усмешлівыя вочы ці абыякавасць на тварах. Ніводнага спачувальнага позірка.

– Людцы! – з хваляваннем гукнуўся ён. – Я ж толькі адзін раз паўчарачкі, потым не піў. Вы ж бачылі! Гэта ж праўда!..

Але людцы усміхаліся і хісталі галовамі. Змагацца аднаму супраць усіх – марная справа. Гэта як пляваць супраць ветру.

Суддзя ціха параілася з засядальнікамі і абвясціла вердыкт: пазоў пакінуць без задавальнення, судовы збор не ўтрымліваць, але з пазоўніка спагнаць кошт праезду суда ў абодва бакі.

– А каб на цябе трасца! – войкнула Варка. І, убачыўшы здзіўлены пагрозлівы погляд суддзі, папраўілася:

– Гэта я не пра вас, гэта пра свайго недалыгу. Дзе ж ён тыя грошы знойдзе!

“Дзе знойдзе” – тое ўжо не было клопатам суддзі. Засядальнікі скручвалі чырвоны абрус, сакратарка збірала паперы і – суд з’ехаў.

Ад перажытага хвалявання, ад абурэння несправядлівасцю, ад ганьбы Піліп захварэў. Колькі дзён праляжаў у зямлянцы пануры, потым нешта трызніў у гарачцы. Аднойчы Варка вярнулася з калгаснай працы і знайшла бездыханнае цела мужа. Даказаў аднак жа, што здароўем быў слабы.

### 4. Цяжкае рашэнне

Мікола глядзеў на шлях. Калі вёска стварылася, пачалі насыпаць дарогу ў бок райцэнтра. Планавалася, што некалі па гэтай дарозе пойдзе аўтобус, таму рабілі якасна. Але да вайны паспелі насыпаць крыху больш за кіламетр. Гэтую частку дарогі, роўную і прамую, калясянцы пачалі называць шляхам. Каня ці чалавека, які рухаўся па шляху ў бок Восаў, было бачна здалёк.

Мікола глядзеў на шлях. Па шляху ішоў мужчына. Ішоў марудна, часта прыпыняўся адпачыць, потым павольна рухаўся далей. Мікола пазнаў бацьку і бачыў, як яму цяжка йсці.

Апошнімі днямі бацька стаў нейкім вялым. Ён ужо не мог падняць нават вядра напалову з вадой, не кажучы пра што цяжэйшае, марудна хадзіў, кашляў. Аньця прымусіла яго з’ездзіць у Бабруйск да ўрачоў. І вось вярнуўся. Асцярожна апусціўся на лаўку і закрыў вочы. Так і сядзеў моўчкі.

– Ну што табе сказалі дактары? – не дачакалася яго слоў Аньця.

Пятро скрушна махнуў рукой:

– Што яны скажуць. Тое, што я і без іх ведаю. Мне, Аньця, засталося мала. Зусім мала… Мікола падрос. Ён ужо памочнік. Без яго ты з малым замучышся. Так што не трэба яму ў школу хадзіць. Навука навукай, ды калі тое нешта дасць, а есці трэба ўжо цяпер. Хутка ў калгас прыгоняць двух валоў. Вось няхай бярэ іх і працуе, зарабляе на сям’ю.

Мікола пачуў гэта і страпянуўся, з надзеяй глянуў на маці: што яна скажа? Вучыцца яму падабалася, настаўнікі хвалілі, прарочылі добрую будучыню. І вось…

Аньця маўчала, думала. Устала і пайшла ўвіхацца па гаспадарцы, нічога не сказаўшы.

Вераснёўскай нядзелькай сям'я сядзела за сталом, абедала. Малы, ужо накормлены, ціха пасапваў. Па двары прайшоў высокі мужчына, пастукаў у дзверы. Зайшоў, павітаўся.

– Ермалінскі Павел Сцяпанавіч, – назваўся ён. – Я завуч Сімонавіцкай школы, у якой вучыцца ваш сын. Вучыцца выдатна. Але вось ужо больш за тыдзень ад пачатку навучальнага года мы яго ў школе не бачым. Думалі – захварэў. Але гляджу: сядзіць за сталом. Здаецца, здаровы. Што здарылася?

– Не да вучобы нам, – сказаў Пятро. – Маё жыццё заканчваецца. Ды і зараз я ўжо нічога рабіць не магу. Так што сын становіцца карміцелем для сям'і. Бачыце, малы ляжыць. Жонка адна не справіцца. Трэба працаваць, няма калі вучыцца.

– Але ж падумайце: ён добра вучыцца, потым паступіць у які тэхнікум, атрымае спецыяльнасць і будзе зарабляць значна болей, чым у калгасе. Вы хочаце пазбавіць яго такой будучыні?..

– Тэхнікум, спецыяльнасць – калі тое будзе! А што рабіць сёння? Галадаць дзеля яго вучобы?

– Ну, галадаць вы не будзеце. Бачыў, у вашым агародзе і на градках усё расце. Свая зямля пракорміць.

– А хто ж на гэтай зямлі будзе ўвіхацца, каб яна нас карміла?

– Ну як хто, – вы! Вас не стане, жонка справіцца. Хіба не ведаеце, што пасля вайны шмат жанчын гадуюць дзяцей без мужчыны? Дый Мікола не кожны дзень у школе будзе сядзець. Будзе прыходзіць на выходныя, на святочныя дні, бывае й вучэбны дзень прапусціць, для яго не страшна. Потым жа канікулы праз кожныя два-тры месяцы. І цэлае лета дома! Справіцеся. А не паслухаеце мяне, будзеце ўсё жыццё шкадаваць.

Пятро ўздыхнуў і пахістаў галавой. Хацеў нешта сказаць, але Аньця апярэдзіла:

– Добра. Ён пойдзе ў школу. Неяк будзе. Сядайце, паабедайце з намі.

– Дзякую. Сядзець няма калі. Дома працы хапае. Пайду. Вельмі рады, што вы пагадзіліся.

Ён паглядзеў на Міколу і ўсміхнуўся яму:

– Да заўтра!

… Пятро памёр 24 верасня 1948 года, не дажыўшы сямнаццаці дзён да гадавіны малодшага сына. Як зазначана ў пасведчанні аб смерці, памёр ад туберкулёзу. Пахаваны на партызанскіх могілках ва ўрочышчы "Масты".

Аньця з Міколам закончылі будаваць хату і прыбудовы. Аньця працавала ў калгасе "Ленінскі шлях", які потым стаў часткай плем-саўгаса "Завалочыцы".

Мікола скончыў Сімонавіцкую сямігодку, потым скончыў тэхнікум лясной гаспадаркі, працаваў лесніком, аб'ездчыкам, у 1961 годзе ўзначаліў наваствbooранае Завалочыцкае лясніцтва, якім кіраваў 35 год. Пайшоўшы на пенсію, напісаў кнігу "Гісторыя Завалочыцкага лясніцтва", адзначаную прэміяй міністэрства лясной гаспадаркі Беларусі. Загінуў выпадковай смерцю 8 лютага 2014 года на 82-м годзе жыцця. З жонкай Палінай выгадавалі двух сыноў і дачку.

У канцы 60-х у Восы-Калёсы правялі радыё і электрычнасць. Вёску перайменавалі ў Славіна. Тады шмат якія "недабрагучныя" народныя тапонімы памянялі на больш прыемныя для "савецкага" вуха: Чырвоны сцяг, Перамога, Акцябрск, Зорка, Дружба, Майскі, Дзяржынск, Кіраўск, Новы мір… Не мінула тая хваля і Восы-Калёсы. Але потым пачалася новая хваля – знішчэнне "неперспектыўных" вёсак. Вёску Славіна таксама прызналі неперспектыўнай. Запланаванае – пусціць аўтобус, адкрыць краму, правесці тэлефонную лінію – адмянілі. І людзі пачалі раз'язджацца па іншых населеных пунктах. Аньця пачала будаваць новы дом, у якім меркавала і памерці, і амаль скончыла яго, але пажыць у новым доме не надарылася, вымушана была і яна перасяляцца на новае месца. Дом прадала, за такія ж грошы набыла стары дом у мястэчку Завалочыцы, побач з сынам Міколам. Памерла 17

жніўня 1996 года на 84-м годзе жыцця. Пахавана побач з Пятром на Мастоўскіх могілках.



Сваё імя заўсёды пісала з мяккім знакам, як яе навучыў малады настаўнік лікбезу. Сыны дзівіліся на гэтую памылку, падказвалі, як правільна пісаць, але яна ўсміхалася і пісала па-свойму. Аўтарытэт настаўніка быў вышэй за розум сыноў.

А лыжачка салдаціка дагэтуль жыве са мной ↑

**5. Дзесяць гадоў і чатыры месяцы**

– Васіль, ну чаго табе куды ехаць! Заставайся. Дзесяць год прашло, вайна пранеслася. Там ужо ўсё іншае. Людзей тых няма. Ты будзеш як чужы. Заставайся тут.

Марыя, гаспадыня хаты ў прылагерным пасёлку, куды яго пасялілі пасля заканчэння тэрміну пакараннння, ужо каторы раз заводзіла такую размову. Ёй падабаўся гэты дужы разважлівы мужчына з “разумнымі” рукамі, якія дапамагалі і ёй па гаспадарцы, і хацелася, каб так працягвалася і далей.

– Марыя, мілая! Які ж я там чужы? У мяне жонка і сын, яны чакаюць мяне.

– Жонка твая хутчэй за ўсё ўжо другога мужа знайшла. Вайна ж, яна ўсё пераварочвае…

– Не, мая Антоля не такая. Яна будзе чакаць да канца. І не загінула. Пасля вайны ліст мне прыслала. Чакае. Сын сем класаў заканчвае, у медвучылішча збіраецца паступаць. Можа, ужо паступіў.

– Ліст той быў чатыры гады таму. Ты сам мне казаў. А пасля не было. Не піша, – значыць забыла. Мо, з другім супакоілася.

– Можа, і пісала. Ды лісты не даходзяць. Ты ж ведаеш, як сюды пошта дабіраецца. Аднаму з нашага барака два лісты разам

прышлі. Першы ад жонкі, другі, напісаны праз два гады, ад брата з паведамленнем, што жонка памерла.

– Вось і твая, можа, ужо памерла…

– Не вярэдзь душу, Марыя! Пайду спаць. Мо, прысніцца яна…

Яна ў свой час занесла пачастунак начальніку лагера, каб Васіля пасялілі ў яе хату, але той пачастунак не ўзяў:

– Я табе яшчэ прэмію выпішу, калі зможаш угаварыць яго застацца тут.

У гэтым іх намеры супадалі. Але намеры Васіля былі іншымі. Ён марыў пра радзіму, яму сніліся лясы з сунічнымі палянамі, грыбныя бары, сенакосы і нават любімыя балоты. Балоты ўсходняга Палесся пераважна не багністыя, вялікія прасторы ўвільготненай зямлі ўтрымліваюць багатую ў сваёй разнастайнасці расліннасць, карысную для жывёльнага свету, якую скарыстоўвалі і для хатняй скаціны. Тое балота не было ворагам людзям. Хіба што часта наганяла дажджы, якія перашкаджалі нарыхтаваць сена на зіму. Але людзі не наракалі: такія клопаты для мясцовага народу былі звыклымі.

А тут адно: снег, снег і снег. Аграмадныя белыя прасторы з чорнымі плямкамі дрэў, хат, баракаў і панурых жывых істотаў – ці сабак, ці людзей. Чорна-белае асяроддзе. Ды кароткае лета, якім не паспяваеш наталіцца. І тундра навокал на сотні кіламетраў. У гэтым лагеры, адным з сотняў калымскіх лагераў, нават ахова была не вельмі сур’ёзнай. Збегчы было немагчыма, збегчы можна было толькі каб памерці ў тундры, тады якая розніца дзе паміраць – у тундры ці ў лагеры.

Параход на Калыму прыходзіў раз на год, напрыканцы жніўня. На ім прывозілі харчы, вопратку, іншыя патрэбныя людзям рэчы. А назад забіралі тых, хто адбыў свой тэрмін. На ім і збіраўся адплыць Васіль. А пакуль ён заставаўся вольнанаёмным, працаваў у лагернай кузні, атрымліваючы ўжо цяпер законную заработную плату.

У кузні яму дапамагаў хахол Паўло, якому заставалася да волі яшчэ тры гады. Васіль спрабаваў навучыць свайго малата-

бойца кавальскай справе, але таму кемлівасці неставала і ён засвоіў тое ўмельства адно на самых простых вырабах, як, напрыклад, вырабіць малаток. Затое сілы хапала і ён лёгка плюшчыў гарачае жалеза некалькімі ўдарамі молата. Грубая праца рабілася тым самым даволі хутка. А ўжо далікатную даводку рэчы рабіў сам Васіль.

Чатыры месяцы чакання парахода цягнуліся як чатыры гады. Думкамі ён быў ужо там, побач з Антоляй і сынам Шуркам. Ён думаў пра іх і калі прачынаўся, і калі разводзіў агонь у кавальскім горне, і калі садзіўся абедаць-вячэраць, і па дарозе з кузні ці на кузню. Вось толькі ні разу яму не прысніліся ні Антоля, ні сын. Спрабаваў уявіць, які ён, яго сын. Калі забіралі, хлопчыку было дванаццаць год. А зараз ужо даросьлы мужык. Ці паступіў, ці скончыў медвучэльню? Дзе жыве? Мабыць, пайшоў ужо на свой хлеб і не пры мацеры? Шмат пытанняў, адказаў на якія пакуль няма. Толькі два лісты атрымаў ад Антолі. Апошні сапраўды быў чатыры гады таму. Ён таксама напісаў ёй. Ці дайшоў гэты ліст?

Пачатак жніўня Васіль вырашыў адсвяткаваць. Купіў у краме пляшку гарэлкі, яшчэ што смачнейшае з таго, што знайшлося ў краме. Марыя здзіўлена паглядзела на пакупкі, на Васіля.

– Што за свята сёння?

– Жнівень пачаўся. Апошні мой месяц тут. Той параход, можа, ужо плыве сюды. Вып’ем за тое, каб добра даплыў і каб гэтак жа добра вярнуўся назад. Са мной.

Марыя зажурылася. Яе мара сплывала з тым параходам.

– Васілька, я хачу, каб ты ведаў. Няхай табе дапамагае Бог дабрацца да свайго дому. Але калі што не так, калі табе стане там скрушна, адзінока, – вяртайся сюды. Ведай, што я цябе заўсёды прыму. Палюбіўся ты мне.

Васіль паглядзеў у вочы Марыі. Яму было шкада гэтай разумнай самотна-клапатлівай жанчыны. Яна яму таксама падабалася. Але чакала радзіма, чакалі жонка і сын. І ён сказаў сумна, але цвёрда, для яе балючае:

– Не, Марыя, сюды я ўжо ніколі не вярнуся.

Параход прышоў 23 жніўня. Васіль працаваў у кузні. Зайшоў Паўло:

– Васіль, мяне забіраюць на разгрузку парахода. Прышоў толькі што. Так што сёння ты адзін.

– Прышоў?! – ускінуўся Васіль. – Прышоў нарэшце.

– Ах, я дурань! Зусім забыў, што ты з ім з'едзеш. Ну віншую. А мне яшчэ тры гады… Ну, я пайшоў.

Ад такой навіны ў каваля затрымцела сэрца. Вось яно, нарэшце!.. Нарэшце яго доўгае чаканне закончыцца.

Па заканчэнні працоўнага дня пашоў да начальніка. Той як раз выходзіў з канторы. Убачыў Васіля і замахаў рукамі:

– Не да цябе цяпер. Параход будзе тры дні стаяць. Паспееш. Зараз разгрузка ідзе. Не да цябе.

І пайшоў.

Назаўтра Васіль прышоў у кантору на самым пачатку працоўнага дня. Сяржант ахоўнік з рэдкасным імем Серафім паведаміў, што начальніка шчэ няма, і Васіль застаўся чакаць. Ахоўнік прапанаваў закурыць, але Васіль адмовіўся, за дзесяць лагерных гадоў ён так і не прызвычаіўся да гэтай хэнці.

– Што, ад'язджаеш? – пацікавіўся ахоўнік. Некалі Васіль вырабіў гэтаму ахоўніку прыгожы падсвечнік, фігурную попельніцу, яшчэ нейкія дробныя рэчы і таму ў сяржанта было прыязнае стаўленне да каваля.

– Так, ад'язджаю, – пацвердзіў Васіль. – Не магу дачакацца, калі паеду. Трэба паперы забраць і больш мяне тут не ўбачаць.

Нарэшце з'явіўся начальнік, запрасіў Васіля ў кабінет:

– Што табе?

– Я прышоў па дакументы. Мне ж трэба ехаць.

– А хіба табе дакументы не выдалі па вызваленні?

– Не. Вы ж сказалі, што аддадзіце, калі параход прыдзе. Вось, ён прышоў.

Начальнік дастаў з шафы тэчкі з паперамі, пачаў павольна корпацца ў іх. Потым павярнуўся да каваля:

– Няма папер. Не паспелі падрыхтаваць.

– Як гэта не паспелі! – разгубіўся Васіль. – Праз два дні параход адыйдзе.

– Не паспелі, – развёў рукамі начальнік.

– Дык зрабіце зараз.

– Лёгка сказаць: зрабіце. Гэта ж трэба ўсю справу перагледзець, дзе якія заўвагі былі, потым даведку напісаць. Хутка такое не робіцца. Трэба ж было загадзя звярнуцца.

– Дык калі вы гэта зробіце?

– Не ведаю. Зараз не да таго. Можа, праз тыдзень.

– Як праз тыдзень?! – аж закалаціўся Васіль.

– Усё! Размова скончана, – абарваў яго начальнік. – Ідзі.

Васіль яшчэ нейкі час стаяў як аглушаны, не могучы крануцца з месца. Потым павольна павярнуўся і, няцвёрда ступаючы, пасунуўся з кабінета. Светлая мара, якою ён жыў апошнія чатыры месяцы, аддалялася на неабсяжны тэрмін. Што рабіць? У роспачы ён зачапіўся за парог і ледзь не ўпаў. Яго падхапіў Серафім.

– Што скрушны такі? Не аддалі паперы?

– Так. Не паспелі зрабіць.

– Ха-ха, не зрабілі. Даўно ўжо гатовыя твае паперы. Толькі ж не адпусціць начальнік добрага каваля. Вось каб ты знайшоў замену. Ці ёсць у лагеры хто ўмелы да кавальскай справы?

– Ды мой малатабоец крыху ўмее.

– Пра слова “крыху” забудзь. Прывядзі яго да начальніка і скажы, што ён можа быць кавалём. Няхай толькі ён пацвердзіць.

Абнадзееды Васіль трушком пабег да кузні. Але там памочніка не было, ён усё яшчэ ўдзельнічаў у разгрузцы парахода. Знайшоў яго вечарам.

– Паўло, родненькі, выручай! Ты ж ужо можаш рабіць кавальскую справу. Пойдзем заўтра да начальніка, пацвердзіш, што можаш.

– Ну як я магу, – засумняваўся Паўло.

– Ды можаш! Ты ж рабіў ужо сёе-тое. Скажаш, што можаш. А то ж мяне не адпусцяць. Дома ўжо замучыліся чакаць. А калі я і цяпер не прыеду, падумаюць, што мяне ўжо няма на свеце. Ра-

туй, сябра! Скажаш мне адрас сваіх, я з’езджу, распавяду ім пра цябе.

– Маіх мо ўжо няма там. Вайна была. І пасля яе колькі год. Ніводнага ліста.

– Дык я даведаюся. І табе напішу. Мо дойдзе мой ліст.

І, бачачы раздумлівасць Паўла, дадаў ціха:

– Дапамажы, братка…

Назаўтра раніцай абодва прышлі да начальніка. Той выслухаў Васіля і павярнуўся да Паўла, упёршыся ў яго вочы калючым позіркам:

– Ты можаш?

– Магу.

– Ну, паглядзім.

Начальнік яшчэ памаўчаў, раздумваючы, потым выцягнуў шуфляду стала, за якім сядзеў, дастаў паперы, распісаўся на адной і другой, стукнуў па іх пячаткай і працягнуў Васілю.

– Ідзі, збірайся. Параход адыходзіць заўтра раніцай…


Васіль каля свайго дома 1985 (?)

Васіль жыў з Антоляй у Глушы. Сын Аляксандр працаваў фельчарам, з жонкай Лідай, намесніцай дырэктара школы, нарадзілі сына Валерыя. Але Аляксандра забралі ў войска і прыгажуня жонка знайшла іншага мужа, міліцэйскага начальніка, і сышла да яго. Аляксандр па вяртанні з войска з’ехаў на цаліну (“Меня моё сердце в тревожную даль зовёт”), там са скрухі прыахвоціўся да алкаголю, але прышоў час, кінуў дрэнную звычку, вярнуўся на радзіму, працаваў фельчарам у Дрычыне пад Асіповічамі. Памёр ад анкалагічнай хваробы.

Васіль працаваў кавалём у саўгасе “Дойнічава”, пайшоў на пенсію ў 72 га-

ды, бо гады лагеру ў стаж не залічылі, хаця ў 1956 годзе быў рэабілітаваны (як і Пятро, пасмяротна). У старасці пачаліся істотныя праблемы са здароўем, асабліва з страўнікам і нярвовай сістэмай. Не змог цярпець пакутлівай рэчаіснасці, засіліўся на 89-м годзе жыцця. Антоля нейкі час жыла адна, але амаль страціла зрок і, не бачачы магчымасці дый сэнсу далейшага існавання, на 85-м годзе жыцця атруцілася. Абодва пахаваныя на могілках Глушы, дзе і магіла Алеся Адамовіча.

Зараз род Булавацкіх працягваюць чатыры ўнукі і тры праўнукі Міколы. Адзін з унукаў, Сяргей займаецца вырабамі з жалеза: фігурныя парэнчы, вароты, лесвіцы. Можна лічыць, што працягвае кавальскую справу Булавы, хаця гэтая справа сёння зусім іншая…

17.02.2020-16.03.2022

# ЗГАДКІ МАЛЕНСТВА

Так атрымалася, што маё жыццё раздзелена чорнай паласой на дзве часткі: кароткую – няпоўныя шэсць год ад нараджэння, і доўгую – пасля трынаццаці. А паміж імі тая чорная паласа ў сем год, якія я праляжаў у сухотнай санаторыі.

З той першай часткі помніцца, натуральна, не ўсё. Не помню бацьку , які пайшоў у іншы свет на першым годзе майго жыцця. Існаванне ў сталінскім лагеры не дадало здароўя.

Не помню, як я нараджаўся. Спытаў аднойчы пра тое ў маці.

– Ну як, – усміхнулася яна. – Прышла з калгаснага поля вечарам, парвала і пацягала ў стопку буракі, пакарміла свіней, напаіла і падаіла карову, прынесла вады з калодзежа, прынесла дроў у печ… Усё ўправілася, легла і нарадзіла. Добра, што была субота і назаўтра выходны дзень. А ў панядзелак закруціла цябе ў пялюшкі і пайшлі мы з табой працаваць на калгаснае поле.

Вось так, на трэцім дні жыцця я адчуў, што такое калгас. А каб не пашчасціла на суботу, то адчуў бы ўжо на другі дзень. Нараджэнне дзіцяці савецкай калгасніцай не лічылася заўважнай падзеяй. Ну што там, напружылася і перднула – за што тут выходны даваць. Хто ж працаваць будзе?

Не помню шмат чаго з таго, чым я тады жыў. Але некаторыя падзеі-гісторыі памяць захавала. Пра іх і распавяду.

## ЛЫСКА

На грошы, якія прывёз Пятро, Аньця вырашыла набыць карову. Каровы ў пасляваенныя гады былі рэдка ў каго, а ў Восах ніводнай. Таму і дзяцей не нараджалі. Хаця, праўда, ад каго было нараджаць? А тут Пятро вярнуўся. Худы, хворы, слабы, – але жывы. І калі дзіцятка народзіцца, то чым карміць яго без каровы? Не халадніком жа з лебяды ды крапівы. Не бульбай з тоўчаным ільняным семем.

Карову набыць – справа няпростая. Паблізу і пытацца нягварта. Тут добрай каровы ніхто не прадасць, а нядобрую навошта купляць. Толькі грошы ўваткнуць. Анця ведала, распыталася: па добрую карову трэба ехаць на базар у Слуцк. Там выбар вялікі і добрыя каровы не пазводзіліся. Але ж за морам і цяля за паўграша… Да таго Слуцка семдзесят кіламетраў па шашы, дый да шашы яшчэ дванаццаць тэпаць. Ды што рабіць! Не чакаць жа, пакуль карова сама да цябе прыдзе.

Выпрасіла ў старшыні колькі вольных дзён. Маўляў, мае права савецкая калгасніца на водпуск. Да Слуцка даехала на спадарожнай машыне. Тады шафёры спагадлівыя былі, а аўтобусы рэдка хадзілі. Дый дзе на той аўтобус грошай узяць, калі заробак у калгасе палачкамі пазначалі – адна палачка за адзін працадзень, а ў канцы года выплочвалі двума мяхамі бульбы ці паўмехам жыта. За ўсе палачкі.

У тых шафёраў, мабыць, жонкі таксама ў калгасе былі і ведалі, як тыя грошы дастаюцца. Вось і гэты – давёз да самага базара, а платы не ўзяў: ідзі, жанчына, за чым ехала, а то на карову можа не хапіць. І ўсміхнуўся цёплай усмешкай. “Такі добры чалавек!” – распавядала Аньця. І пазней часта ўспамінала яго добрым словам.

Зайшла на гаманкі базар і… “Я яе адразу ўбачыла. Стаіць і глядзіць на мяне ласкавымі вачыма. А на лобе белая плямка, круглая, як месячык. Іду да яе, а яна пысу ка мне цягне. Я іншых і не глядзела.” Вось жа, любоў з першага позірку бывае не толькі паміж людзьмі. Шчэ крыху патаргавалася, штосьці гаспадыня скінула. Надзела на шыю Лыскі вяроўчыну і пайшлі разам у свет белы.

Чатыры дні ішлі Аньця з Лыскай дадому. Начавалі ў добрых людзей, за начлег плацілі Лыскіным малаком. Людзі тады даверлівыя былі, чужога пускалі пераначаваць ахвотна: мо, што цікавае пачуеш. І кражы не баяліся, бо што было красці. І платы не патрабавалі, але ж не несці тое малако дадому.

І так за тую дарогу жанчына з каровай зжыліся-зблізіліся, што ўжо пачыналі разумець адно аднаго без гукаў. Аньця адчувала,

калі Лыска стамілася ці прагаладалася, і рабіла прыпынак на добрай траве, на якой і сама прылягала адпачыць, адчувала, калі вымя Лыскі поўнілася малаком, і спынялася, каб падаіць. І Лыска не капрызіла, калі Аньця падыходзіла і бралася за вяроўку, хаця вакол была смачная трава, паслухмяна падымала пысу і яны рухаліся далей…

Так Лыска стала новым чальцом сям'і. Карова аказалася на дзіва ўдалай. Мала таго, што яна давала добрае тлустае малако, яна пагаджалася, калі яе запрагалі на цяжкую працу – цягаць плуг, каб заараць усадзьбу, ці прывезці з лесу бярвенні на хату. Бо коней у людзей не было, не было іх і ў калгасе, былі толькі двое валоў, за якіх калгас павінен быў паступова сплочваць дзяржаве. І за выкарыстаннем валоў па-за калгаснай працай была чарга з калгаснікаў, у якіх заводзіліся сякія-такія грошы. Лыска выконвала цяжкую працу без капрызаў, неяк нават па-філасофску спакойна: трэба – значыць будзем рабіць. Бо, мабыць, бачыла і разумела (свядома выкарыстоўваю гэтае слова), што гаспадары таксама шмат і цяжка працуюць.

Неяк зайшла Варка, суседка, і папрасіла:

– Аньця, дай мне тваю карову, каб узараць зямлю. У мяне ж маленькая ўсадзьба.

– Не, не дам – пахістала галавой Аньця – Выбачай, не дам. Я яе сама баюся натамляць, нагружаю асцярожна. Не яе гэта праца – зямлю араць. Калі з ёю што здарыцца, ты ж сябе ўсё жыццё праклінаць будзеш, што ўзяла. Хочаш, я дам табе тварагу ці масла.

Вось так, разам з Лыскай, збудавалі хату, першымі ў Восах перасяліліся з зямлянкі. Хата была далёка не такая, як даваенная на сем вокнаў, але палічылі, што пакуль і трох вокнаў хопіць. Усё ж не зямлянка! У гэтай хаце і нарадзіўся сынок, які ўзгадаваўся Лыскіным малаком і які зараз распавядае вам гэтую гісторыю.

Маё маленства прайшло побач з Лыскай, хаця мне мала што помніцца з нашых з ёю стасункаў. Засталася ў памяці карцінка, калі я, маленькі, стаю на двары, абняўшы Лыску за пярэднюю

нагу, а маці ходзіць побач і не турбуецца. Такі давер у яе быў да каровы.

Помню, як насіў ёй у хлеў траву, што маці накасіла за ўсадзьбай (бацькі ўжо не было), і Лыска, перш чым узяцца за траву, абнюхвала мяне і ціха мыкала, як бы віталася. Ці, можа, прасіла прабачэння. Яна ж мела ўскоснае дачыненне да майго калецтва.

Неяк, калі я яшчэ ляжаў у пялюшках, маці пайшла даіць Лыску, а дзвюх суседскіх дзяўчынак папрасіла панаглядаць за хлапчанём. Яны пацёцёхалі са мной, я паўсміхаўся ім сваім бяззубым ротам, ну і ўсё. Ім стала сумна з малым. Паглядзелі, што ён закручаны ў пялюшкі дый маці хутка прыдзе, і пабеглі на вуліцу, дзе весялей.

А малому захацелася за імі. Не дарма ж я ім паўсміхаўся, спадабаліся значыць. Спакусілі і ўцяклі, жаночае племя. Я круціўся, крахтаў, круціўся і – неяк жа выкруціўся з тых пялюшак. Выкруціўся і папоўз па ложку. Я тады не ведаў, што такое высока і што – нізка. Ложак урэшце скончыўся...

Калі маці вярнулася з даёнкай, малы ляжаў голы на падлозе і штомоцы крычаў. Рука і нага былі зламаныя. Шукаць урача не выпадала, урачы былі далёка, а рабіць нешта трэ было цяпер. Кансіліум з бацькі і суседак вырашыў проста: скласці костачкі, замацаваўшы іх дашчэчкамі, у малога зрасцецца. Зраслося. Руку склалі добра, а костачкі нагі не зусім добра, так і застаўся навек кульгавым.

Маці потым сумна жартавала: “Рана за дзеўкамі бегаць пачаў”.

Лыска не ведала пра сваё дачыненне да маёй кульгавасці, але калі жывёлы загадзя адчуваюць прыродныя катаклізмы, а значыць, адчуваюць болей, чым адчувае чалавек, дык, мо, і тут што адчувала.

Адзін эпізод урэзаўся ў памяць вельмі яскрава. На двары выкапалі неяк ямку, мабыць, які слуп збіраліся ўкапаць. Мне, чатырохгадоваму хлопчыку, захацелася праверыць глыбіню той ямкі і я скочыў у яе. Ямка была вузкая, для мяне цесная і на глыбіню якраз па мае плечы, адна галава над зямлёй. Пакруціўшыся

ў ямцы, я захацеў вылезці, але абаперціся не было аб што, а выціснуцца слабымі рукамі мне ніяк не ўдавалася. Колькі я тузаўся, крахтаў, каб вылезці, але ніяк. Не хацелася турбаваць маці сваім крыкам, ведаў, што яна ж без справы не сядзіць, але пасля чарговай няўдалай тузаніны вымушаны быў крыкнуць:

– Мама!

Лыска ўважліва назірала за маімі высілкамі ў ямцы і, калі пачула мой крык, нахіліла галаву і пайшла ў мой бок, выставіўшы рогі. З ямкі яна здавалася нейкай аграмаднай. Я спалохаўся, што яна можа наступіць на мяне ці шчэ што зрабіць, і закрычаў яшчэ мацней. Лыска незадаволена матнула галавой і пакрыўджана адвярнулася. Прышла маці і дапамагла мне выбрацца з ямкі.

Гэта зараз, з вышыні свайго дарослага розуму, я магу патлумачыць паводзіны Лыскі. Можа, гэтае тлумачэнне выкліча ў каго іранічную ўсмешку, але вы смейцеся, а я ўпэўнены, што было менавіта так. Лыска, убачыўшы, што хлопчык тузаецца і ніяк не можа выкараскацца з ямкі, вырашыла дапамагчы яму. Яна нахіліла галаву і хацела, каб я ўхапіўся за яе рог, і яна выцягнула б мяне з ямкі. Так бы й было, каб я не спалохаўся і не закрычаў.

А наконт таго, што маё тлумачэнне падаецца неверагодным, то магу сказаць наступнае: ганарыстаму homo sapiens цяжка паверыць, што жывёла можа мець розум і выконваць разумныя дзеянні, але гэта праўда, што пацвярджаецца не толькі паводзінамі дэльфінаў, сабак і малпаў.

Мая любоў да Лыскі прывяла да таго, што я любіў усіх кароў. Мне падабалася назіраць за імі на пашы, але яшчэ больш за тым, як яны ідуць з пашы. Няспешна, з нейкім гонарам, як бы пасля добра выкананай цяжкай працы яны ішлі адна за адной, не азіраючыся па баках, а гледзячы прама перад сабой. Тут не бывае той гарэзлівасці, якой могуць бавіцца яны, калі толькі выганяюць на пашу. Там яны могуць і паштурхацца, і пырнуць рогам другую, і пабегчы, і ўзбрыкнуць. Але пры хадзе з пашы такога не ўбачыш. Тут яны ідуць асцярожна, як бы нясуць нешта каштоўнае. А яно й сапраўды каштоўнае, бо які харчовы прадукт можа хаця б па-

раўнацца сваёй карыснасцю для чалавека з малаком. Нездарма ж індусы лічаць карову святой жывёлінай.

Вось яны ідуць сытыя, задаволеныя. Я выходжу за брамку сустракаць. Лыска звычайна ідзе сярод першых. Мабыць, ёй таксама хочацца хутчэй сустрэцца з намі. Падыходзіць да брамкі, я працягваю руку і яна на хвілінку спыняецца, каб я пагладзіў яе па шыі, па баку. Потым ступае праз брамку ў двор, дзе для яе ўжо стаіць вядро вады. Выпівае амаль усю, а бывае і ўсю. Другога вядра ёй маці не дае. Толькі калі падоіць, тады можа прынесці яшчэ з паўвядра. Прыносіць поўную даёнку ад Лыскі, працэджвае малако і налівае мне кружку сырадою. Гэта смаката! Дзякуй, мілая Лыска! Я махаю ёй рукой і яна ківае галавой: маўляў, піце на здароўе! Я заўтра яшчэ прынясу.

На шостым годзе жыцця я вымушаны быў развітацца і з хатай, і з вёскай, і з Лыскай, бо паклалі ў сухотную санаторыю лячыцца. Ніхто тады не ведаў, што гэта зацягнецца на цэлых сем год. Калі вярнуўся, Лыскі ўжо не было. Была яе дачка, таксама з белай плямкай на лобе, толькі не круглай, а ў выглядзе няроўнай літары П. Дый наравістая была дачушка неўпадоб да маці, хаця малако давала такое ж тлустае. Назвалі ад літары П і за нораў Паненкай. Ды з Паненкай то ўжо іншая і менш цікавая гісторыя.



Хіба што застаўся фотаздымак маці з Паненкай. Злева – суседка Варка.

Яшчэ адзін эпізод з жыцця Лыскі мне распавялі пазней, ужо па вяртанні з санаторыі.

Маці неяк пачала адчуваць трывожнасць Лыскі. Ноччу яна адчайна рыкала, а назаўтра раніцай давала вельмі мала малака. Вечарам жа была звычайная дойка. Некалькі разоў Аньця падымалася ноччу, калі чула рыканне каровы, заходзіла ў хлеў, але нічога не заўважала, толькі Лыска была нібыта спуджаная, калацілася. Маці яе пагладжвала па шыі, супакойвала, але малака раніцай не было.

Тут вярнуўся Мікола з войска, мой брат, старэйшы за мяне на пятнаццаць год. Яму пашчасціла вайну перажыць, лес уратаваў, а меншыя сястрычкі загінулі. Ён стаў надзейнай апорай маці, пакуль у войска не забралі. Адслужыў тры гады і вярнуўся ўжо з правамі вадзіцеля і спецыяльнасцю аўтаслесара. Пасля абдыманкаў-пацалункаў маці падзялілася турботай пра карову: як быццам бы нехта выдойвае яе ноччу. Мо якая нячыстая сіла.

Мікола ўзяў ліхтарык і пайшоў вечарам спаць не сенавал, у застаронак, які быў побач з стойлам Лыскі. Лёг, не распрануўшыся; ляжыць, прыслухоўваецца. Нічога. Ён і задрамаў ужо. А тут Лыска голас падала. Ён схапіўся, уключыў ліхтарык і скочыў з сена ў лыскіна стойла. Бачыць, нейкі цень шугануў да сцяны і караскаецца ў дзірку пад ніжнім бервяном, толькі хвост шавеліцца. Мікола схапіў за той хвост і тут яго абдало нечым смярдзючым з характэрным гукам. Ад нечаканасці ён упусціў хвост і хвост знік у дзірцы разам з яго гаспадаром.

Маці ён вырашыў не будзіць, знайшоў нейкі камень, каб закрыць дзірку, прыціснуўшы яго тоўстым паленам, адмыў руку ад таго стрэлу і пайшоў зноў на сенавал.

Дзірку назаўтра добра закрылі. Вечарам маці пайшла накапаць бульбы на вячэру і ўбачыла за ўсадзьбай дохлага звера. Выявілася, што гэта стары воўк, настолькі стары, што ўжо й зубы павыпадалі. З голаду ён знайшоў такое выйсце: падкапаўся пад

– Што з табой? – здзівілася яна.

– Чаму ты мне раней не сказала, што я не твой сын?

– Што?! – здзівілася маці. – Хто табе такое сказаў?

– Нянечка.

– А яна адкуль ведае?

– Дык ты ж ёй сама сказала!

– Нічога я ёй не казала! Дый як я магла такое сказаць, калі сама цябе нарадзіла? Ты паглядзі на Колю. Ён твой родны брат. Вы ж падобныя з ім. Не слухай абы чаго!..

Неяк ёй удалося супакоіць мяне.

Дарэчы, нянечкі той я пазней не бачыў. Мабыць, яна звольнілася ці яе звольнілі. Не ўпісалася жанчына ў міралюбнасць санаторнага калектыву.

У пятым класе нас вучылі ўжо розныя настаўнікі. Запомніўся настаўнік матэматыкі Мікалай Яўхімавіч, які любіў здзіўляць матэматычнымі фокусамі і нечаканымі пытаннямі, адказы на якія здаваліся простымі, але тыя “простыя” выяўляліся няправільнымі. А правільныя былі такімі, у якія не хацелася верыць. Менавіта ад яго я ўпершыню пачуў знакамітую задачу пра трох жанчын, якія прыгатавалі сабе аднолькавы абед на вогнішчы, для якога адна прынесла тры палены дроў, другая – пяць пален, а трэцяя, у якой дроў не было, аддала ім восем капеек. І як яны павінны падзяліць тыя грошы па справядлівасці? Гэтай задачай я сам, калі стаў настаўнікам, любіў здзіўляць сваіх вучняў.

Адметнай асобай была і настаўніца беларускай мовы і літаратуры; здаецца, яе звалі Людмілай Феліксаўнай. Калі настаўніца прыходзіла на ўрок у панядзелак, усе пяцікл ашкі пачыналі ўпрошваць яе:

– Людміла Феліксаўна, раскажыце кіно.

Па суботах у Чачэвіцкі клуб прывозілі кінафільм і амаль усе жыхары вёскі ўключна з мясцовай інтэлігенцыяй хадзілі яго глядзець. Фактычна, гэта было для іх адзінай культурнай дзеяй, якую потым некалькі дзён абмяркоўвалі.

Для нас, ляжачых насельнікаў санаторыі, такая дзея была недасягальнай. Але раз-пораз мы чулі, як медсёстры ці нянечкі размаўляюць пра кіно. Тыя размовы ўзбуджалі нашу цікаўнасць. І гэтая цікаўнасць вылівалася ў тую просьбу.

Настаўніца нядоўга супраціўлялася. Яна тлумачыла, што не паспеем вывучыць чарговы раздзел, мы ж абяцалі самастойна разабрацца па падручніку. На гэтым пагаджаліся. Яна называла раздзел, давала "хатняе" заданне, мы запісвалі – і яна пачынала.

Трэба сказаць, што ў яе быў нейкі дар апавядальніцы. Яна расказвала так, што мы, уважліва слухаючы, нібыта глядзелі тое кіно, суперажываючы яго героям. Да таго ж, гэта быў урок мовы, бо распавядала яна беларускай мовай, якая так натуральна ўваходзіла ў нашы вушы і паступова засялялася ў патрэбным закутку мозга. Неяк яна выгадвала так, што "канец фільма" амаль заўсёды супадаў з канцом урока.

Два-тры разы на год кіно прывозілі і ў санаторыю. Тады выхаванцаў выкочвалі на койках у прасторны калідор (мяркую, не ўсіх, бо ўсе не змясціліся б), выстаўлялі койкі ў тры шэрагі, для тых, хто мог хадзіць, ставілі наперадзе крэслы. Кінапраектар ставілі ў калідоры на патрэбнай адлегласці ад прасціні-экрана і запускалі кіно. Тым, каму выпадала ляжаць каля праектара ці далей, з-за яго трэску было цяжка расчуць размовы герояў фільма, але і ў такім выглядзе было цікава назіраць за жыццём экранных фігур. Тым болей, што падзея была рэдкай.

Былі іншыя забавы, якімі мы цешыліся. Нас вучылі гуляць у шашкі і шахматы. Нават спаборніцтвы праводзілі. Неяк асобных з нас пачалі вучыць ігры на скрыпцы. Скрыпкі былі толькі дзве і, мабыць, не санаторныя, чалавек прыносіў свае. Слабыя дзіцячыя рукі не заўсёды маглі ўтрымаць тую ці іншую рэч. Аднойчы хтосьці з дзяцей не ўтрымаў скрыпку і яна стукнулася аб жалезную бакавіну койкі. Скрыпка не пацярпела, але яе гаспадару не захацелася надалей рызыкаваць інструментам. На гэтым музычныя заняткі спыніліся.

Калі па заканчэнні пятага класа мяне прызналі годным да выпуску ў вольны свет, я перажываў супярэчлівыя пачуцці. З аднаго боку, мне хацелася “на волю”, хацелася апынуцца сярод людзей, якія не ляжаць, а ходзяць, нешта робяць, нечым цешацца. З іншага боку, было трывожна пакідаць звыклы, такі знаёмы і зразумелы асяродак. Што ні кажы, а сем год для дванаццацігадовага хлопца – гэта амаль усё жыццё. А “там” жыццё зусім іншае, не падобнае на тое, якім жылі мы.

Я хваляваўся. Але ўжо прыехала маці, прывезла сваю адзежу, абутак. І мы з ёю паехалі ў той іншы свет…



Чэрвень 1960. Чачэвічы. Насельнікі санаторыі, якіх выпісваюць.
Першай злева сядзіць урач Л.Івашкова. Міша сядзіць паміж дзвюма медсёстрамі.

# ЛЕНСКІ

На пачатку шасцідзясятых Савецкі Саюз, атросшы з сябе попел вайны і крыху адмыўшы кроў сталінскіх рэпрэсій, воляй новай камуністычнай улады ўзяў курс на светлую будучыню – камунізм. Правадыр Хрушчоў паабяцаў, што гэты шлях не зойме і дваццаці гадоў і ўжо на пачатку васьмідзясятых савецкі народ зажыве ў шчаслівай краіне, дзе “ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па патрэбе”.

Паколькі для будаўніцтва камунізму патрабаваліся вельмі адукаваныя будаўнікі, было вырашана вучыць школьнікаў не дзесяць, а адзінаццаць год. Тым болей, што Еўропа і клятая Амерыка такое ўжо зрабілі для ўмацавання капіталізму, які рана ці позна ўсё адно павінен быў згнісці.

Адзінаццаць гадоў зрабілі, а потым пачалі лічыць. Гэта ж тыя пачвары, буржуі, спачатку лічылі, а потым рабілі, а нам навошта пераймаць іх недарэчныя звычкі. Дык вось, пачалі лічыць і вышла нестасоўка: па-першае, настаўнікаў патрабавалася болей, а дзе ж іх узяць; па-другое, у школах месцаў не хапала, трэ было будаваць новыя школы, а хто ж іх будзе будаваць, калі маладыя працоўныя рукі, ногі і галовы лішні год у школах сядзяць і вучаць немаведама што, бо і праграмы новыя яшчэ не распрацаваныя.

І адзінаццаты клас, як увялі, так праз год і адмянілі.

У гэтую “чорную дзірку” савецкай адукацыйнай палітыкі надарылася патрапіць і мне. Першага верасня 1964 года наш дзясяты клас, які прыйшоў у школу давучвацца апошні год, агаломшылі навіной, што сядзець за школьнымі партамі нам прыдзецца не год, а два гады.

Асабіста для мяне тое было за шчасце, бо ў адным класе са мной вучылася дзяўчына, да якой я няроўна дыхаў, хоць яна пра тое й не ведала, і прасядзець побач з ёю яшчэ адзін год я быў не супраць.

Праз год школа не выдала краіне ніводнага выпускніка, затое яшчэ праз год наша вясковая школа-інтэрнат святкавала самы

буйны ў сваёй гісторыі выпускны баль: адзінаццаты і два дзясятых класаў, восемдзесят маладых душ з заплечнікамі атрыманых ведаў ішлі ў белы свет шукаць сваё месца.

У той лішні школьны год надарылася мне стаць сведкам адной рамантычна-драматычнай гісторыі.

Настаўніца біялогіі сышла на пенсію. Маладая прыгожая біялагічка, высокая і грудастая, з дзіўным імем Гартэнзія Сцяпанаўна, якую прыслалі наўзамен, нядоўна змагла цярпець кпіны і насмешлівыя заляцанні хлопцаў і з’ехала.

І тады з’явіўся Ён, свежы выпускнік мазырскага педа, Віктар Галенскі. Вабная юнацкая постаць, нейкі абсалютна правільны авал твару ўпрыгожвалі ярка-блакітныя вочы і накрывалі гэтае анёльскае аблічча хвалі светла-залацістых валасоў, сапраўды залацістых, яны нават адблісквалі золатам.

Нават мы, хлопцы, заміралі ў любаванні гэткім цудам прыроды, а пра дзяўчат што й казаць. Яны круціліся каля яго дзе заўгодна, яны дыхалі паветрам каля яго, яны дакраналіся да яго, яны слухалі яго, што б ён ні казаў. Трэба аддаць належнае: ён да таго ж быў добрым настаўнікам, ведаў біялогію грунтоўна і мог цікава пра яе распавядаць. І калі тое, што ён казаў, не вельмі адкладвалася ў свядомасці найперш дзявочай палавіны, то толькі таму, што, слухаючы яго, дзяўчаты марылі зусім пра іншае.

Яны нават крокі яго пазнавалі. Калі ў школе йшоў урок і з калідора чуліся нечыя крокі, на іх увагі не звярталі. Але, калі гэта былі крокі Ленскага (так натуральна скарацілі мы яго прозвішча), клас заціхаў, бо душа кожнай дзяўчыны была там, на калідоры, побач з Марай.

Такое купанне ў дзявочай увазе і прыродным поклічы, што аж ірваўся ад іх, не магло застацца без наступстваў. Бо шаснаццаць-сямнаццаць год – час дзявочай квецені, і які ж хлопец не заўважыць гэтага, не ацэніць, не пацягнецца да гэтай прыгажосці. Як моцна ні стрымлівай свае пачуцці розумам, моцы гэтых лейцаў не хопіць на ўтаймаванне прыроднай цягі, асабліва калі яна з абодвух бакоў.

Я вось дзіўлюся, як Ленскаму ўдалося ўтрымацца пяць год у інстытуце, у атачэнні вялікай колькасці маладых дзяўчат, якія – несумненна! – і там круціліся вакол яго з прыцягальна-грэшнымі намерамі. Там неяк удалося, а тут...

З часам пачалі заўважаць, што ў прыгажуні Ніначкі з дзясятага "Б" стаў акругляцца жывот. Ленскі, як чалавек сумленны, не стаў аднеквацца, хутка й вяселле згулялі. Ніначцы зайздросцілі ўсе дзяўчаты. Яна кінула школу і нарадзіла дачку ўжо ў ролі законнай жонкі.

А школа працягвала жыць сваім жыццём. Аднакласнікі Ніначкі вучылі мовы, матэматыку, тую ж біялогію, каб больш-менш прыстойна паказаць сябе на ўступных іспытах у ВНУ. І разляцеліся пасля памянутага выпускнога балю – хто куды. З цягам часу аселі – хто ў райцэнтры, хто ў іншым горадзе, а хто і ў сталіцы, набылі розныя прафесіі, занялі маленькія ці не зусім маленькія пасады, абзавяліся сем'ямі і, прыязджаючы ў родную школу на сустрэчы выпускнікоў, цікава пра ўсё гэта распавядалі.

Цяпер ужо Ніначка зайздросціла ім. Яна нарадзіла другое дзіця і таму з'ехаць кудысьці ўжо й не марыла. Каб не было сорамна перад дзецьмі за сваю недаадукавансць, скончыла школу завочна, атрымала атэстат. І што рабіць у вёсцы жанчыне без прафесіі? Рабочай у саўгасе?..

Яе прызначылі загадчыцай клуба. Пасада нібыта й начальніцкая, але над кім яна начальніца? У штаце клуба яна адна – і начальніца, і падначаленая, і нават прыбіральшчыца. Усе яе абавязкі – адкрыць клуб, каб паказаць кіно, якое раённы кінамеханік прывозіў раз ці два разы на тыдзень, ды па суботах пасля кіно зладзіць танцы, сочачы, каб моладзь не напівалася залішне і не ўчыняла бойкі. Калі адчувала, што такая небяспека нарастае, абвяшчала вечар танцаў скончаным і зачыняла клуб.

Няхітрая праца, якая прыносіла невялікія грошы, не цешыла, а раздражняла. Раздражнялі дзеці, якіх было ўжо трое. З цягам часу пачаў раздражняць і муж, які хадзіў у школу з задавальненнем. Ёй ужо бачылася, што гэтае задавальненне не ад таго, што праца настаўніка яму падабаецца, а ад таго, што там вакол

яго віюцца маладыя дзеўкі, з якім ён… Гэтыя думкі вярэдзілі душу, тлумілі розум і ўрэшце зрываліся з языка крыўднымі словамі і папрокамі аб страчанай маладосці.

Яго настаўніцкага заробку не хапала на вялікую сям’ю – і гэта стала яшчэ адной, нібыта й галоўнай, падставай для сварак і папрокаў…

Прыехаўшы чарговы раз да сваякоў на радзіму, я пачуў, што Ленскі – ужо не настаўнік, а галоўны аграном саўгаса. Ну, можа, цяпер, – падумалася, – у сям’і болей зладу і згоды.

Праз колькі год у суседнім калгасе выявіліся буйныя крадзяжы. Старшыню знялі з пасады, а галоўнага бухгалтара пасадзілі на тры гады. Крыху пазней людзі ўбачылі гэтага старшыню ў апараце сельгасаддзела райвыканкама, дый галоўбуха праз год адпусцілі на волю “за прыкладныя паводзіны”.

Як бы там ні было, месца старшыні калгаса стала вакантным і райкам партыі пачаў падбіраць кандыдатуры. (Людзі маладзейшыя могуць апошняга сказу не зразумець і здзіўлена запытацца: чаго гэта райкам нейкай партыі падбірае кандыдатуры на пасаду старшыні калгаса? Для іх патлумачу тое, што людзям савецкім было звыкла і пытанняў не выклікала: не “нейкай” партыі, а партыі камуністычнай, якая была адна на ўсю краіну, была па канстытуцыі “руководящей и направляющей силой советского общества, ядром его политической системы” і кіравала ўсім жыццём гэтай няшчаснай краіны.) Адной з гэтых кандыдатур, дачуўся я, быў Віктар Галенскі.

– Якія ў яго шансы заняць месца старшыні? – пацікавіўся я ў знаёмага, хто і паведаміў мне тую навіну.

– Ніякіх, – усміхнуўся той. – Людзі ведаюць, што ён сумленны чалавек, і ахвотна яго выбралі б, але тое ведаюць і ў райкаме, таму да выбараў хутчэй за ўсё яго не пусцяць.

– Чаму ж тады ён сярод кандыдатур на пасаду?

– Ну дык гэта ж самі людзі і прапанавалі…

Пазней той жа знаёмы распавёў мне, што Галенскага выклікалі ў райкам, там была з ім даволі доўгая размова, пасля якой Галенскі выйшаў з райкама расчырванелы і ўзбуджаны. Пасаду

старшыні калгаса заняў іншы чалавек, а Галенскага перавялі галоўным аграномам у саўгас пры райцэнтры і далі ў райцэнтры кватэру…

Доўгі час я нічога не чуў пра Ленскага.

Аднойчы, ужо будучы выкладчыкам інстытута, я вырашыў пару тыдняў летняга адпачынку правесці разам з маці. Мы размаўлялі з матуляй у хаце, калі раптам пачулі тарахценне матацыкла. Матацыкл гыркнуў і спыніўся каля нашай хаты. Мы зірнулі ў вакно: па двары ішлі двое, мужчына і жанчына. Ішлі поруч, але ўражанне было такое, быццам ішла яна, а яго цягнула за сабой. Ён ішоў, панурыўшы галаву, нібыта разглядаў траву на нашым двары. Зайшлі ў хату. Сціпла павіталіся, мы павіталіся ў адказ. Павісла паўза. Я чакаў, што госці скажуць, чаго яны зайшлі да нас. А яны нечага чакалі ад нас. Нарэшце ён сумна ўсміхнуўся:

– Не пазналі? Сапраўды, мяне цяжка пазнаць.

І ў гэтай усмешцы я ўбачыў нешта знаёмае:

– Ленс..! – ледзь не выгукнуў я яго мянушку. – Віктар Васільевіч!

Пазнаваць жанчыну ўжо не трэ было. Хаця пры выпадковай сустрэчы на вуліцы не пазнаў бы. Ад той дзесяцікласніцы Ніначкі амаль нічога не засталося. Дый ад Ленскага таксама. Блакіт вачэй яшчэ ўгадваўся, але як бы праз смугу туману. І залатыя валасы сталі бела-попельнымі, хаця ляжалі на галаве тымі ж прыгожымі хвалямі.

– Сядайце за стол. Мы як раз збіраемся абедаць.

– Не-не. Мы па справе.

– Па якой?

– Дачка наша, старэйшая, заканчвае школу і збіраецца на фізмат. Ці не маглі бы вы ёй дапамагчы? Вы ж там выкладаеце?

– Так, я выкладаю на фізмаце. Але чым я магу дапамагчы? Конкурсы на фізмат невялікія, калі не праваліць уступны іспыт, – прымуць.

– Вось-вось, калі не праваліць. Але ў яе з матэматыкай не вельмі. У свой час запусціла і настаўнікі не парупіліся… А зараз спахапілася ды позна.

– Калі вы маеце на ўвазе, каб я дапамог ёй засвоіць матэматыку, то як вы гэта ўяўляеце. Я буду тут яшчэ два тыдні. Вы што, кожны дзень будзеце вазіць яе да мяне на матацыкле? Ці яна будзе прыязджаць аўтобусам?

– Ну дык… будзем вазіць, – сумеўся Ленскі.

– Якое там “вазіць”! – рэзка ўмяшалася жонка. – Што яна за гэты час дагоніць! І што, у цябе іншых спраў няма? “Вазіць”! Вы ж там працуеце. І ведаеце, што паступаюць не заўсёды самыя вумныя. А мы аддзячым за дапамогу.

Нарэшце я зразумеў, якой дапамогі яны ад мяне чакаюць, і зірнуў на Ленскага. Той сядзеў, схіліўшы галаву, на твары адбівалася пакута, як у чалавека, прымушанага рабіць нешта брыдкае. Мне стала шкада яго.

– На жаль, такой дапамогі я не змагу аказаць. Патлумачу, чаму. На першым годзе маёй працы ў інстытуце мяне ўключылі ў экзаменацыйную камісію і перад вусным экзаменам мне пачалі перадаваць паперкі з просьбамі “уважлівей аднесціся” да таго ці іншага абітурыента. Я тыя паперкі выкідваў і ставіў адзнакі, якія людзі заслугоўвалі. З таго часу мяне болей у экзаменацыйныя камісіі не ўключаюць.

– Але ж вы там працуеце і можаце замовіць…

– Ну як вы не разумееце! Уявіце сабе, як успрымуць маю просьбу тыя, хто помніць, як я ўспрыняў іх просьбу. І як я пры гэтым буду выглядаць.

– Ну… мы б аддзячылі… Вы пагаварыце…

Жанчына мяне не чула. Ці не магла зразумець. Я павярнуўся да Ленскага. Той моўчкі, але з цікавасцю, сачыў за нашай размовай. Нашы позіркі сустрэліся. У яго поглядзе ўжо не было прыніжанасці, пакуты ці вінаватасці. Ён глядзеў на мяне спакойна і нават неяк запатрабавальна. Я вытрымаў яго позірк. Ён усміхнуўся вугалкамі вуснаў прыязнай усмешкай.

Ніна яшчэ пэўны час спрабавала ўгаварыць мяне, але, урэшце ўбачыўшы безвыніковасць сваіх намаганняў, махнула рукой і сярдзіта кінула мужу:

– Пашлі!

З двара данёсся яе раздражнёны голас:

– Ну вось цана твайго гонару! Нават твой вучань не хоча табе дапамагчы!

Ленскі ішоў з узнятай галавой і глядзеў на воблакі. Я не бачыў яго твару, але здавалася, што ён усміхаецца той жа ўсмешкай.

Такім ён і застаўся ў маёй памяці: сівы саракагадовы чалавек з ледзь прыкметнай прыязнай усмешкай на сумным твары.

Праз год сустрэў аднакласніка. Пагаварылі пра жыццё, паўспаміналі. Між іншым я запытаўся:

– Ну як там Ленскі?

– Няма ўжо Ленскага. Павесіўся…

Ішлі васьмідзясятыя гады, калі па праграме савецкага кіраўніцтва павінен быў пачынацца камунізм.

2015

# ПЕСНЯ ЦЫГАНКІ

Малады чалавек, гадоў дваццаці шасці, марудна ішоў па алеі парку, які густа разросся, і аддаваўся марам. Камандзіроўка заканчвалася, на заўтра заставалася працы на паўдня ці меней, і ён уяўляў сабе заўтрашні прыезд да маці, якраз у дзень яе нараджэння. Для яе гэта стане сюрпрызам, бо ён папярэдзіў, што не паспее, і яна не будзе чакаць. Хаця не, чакаць яна будзе. Яна чакае яго заўсёды, нават калі дакладна ведае, што ён не прыедзе.

І вось ён з’яўляецца, цалуе, віншуе, уручае падарунак, які ўжо ляжыць у чамадане. Яна, натуральна ж, узрадуецца, засіяе, адразу накіне на сябе нябесна-блакітную хусцінку пад колер яе вачэй, які часткова і яму перадаўся, і апырснецца парфумай.

Вечарам збяруцца госці – сваякі, суседзі, каб адзначыць дасягненне ёю пенсійнага ўзросту і атрыманне тым самым нейкай жыццёвай палёгкі. Спачатку ў цэнтры ўвагі будзе маці, пасля, як заўсёды, перакінуцца на яго, будуць наракаць на яго жыццёвую “неўладкаванасць”, так яны называюць яго халасцяцкае жыццё, будуць нешта раіць, прапаноўваць розныя варыянты (“варыянты” – ён усміхнуўся), магчыма, успомняць пра аднакласніц, пра Таню.

Таня – пры гэтым імені яго сэрца трывожна забілася. Прыгожымі дзяўчатамі іх клас не быў абдзелены, але і сярод іх дзве выдзяляліся хараством. І гэтая ўсмешлівая аднакласніца з прыгожым грудным голасам даўно завалодала яго марамі. Яшчэ ў школе ён уяўляў, як яны яны гуляюць па беразе Пцічы ці хаця б разам выконваюць хатняе заданне, але тое было толькі ў летуценнях, а насамрэч калі ён зрэдку асмельваўся блізка падыйсці да яе, сэрца пачынала тахкаць хутчэй, чырванелі вушы, ён збіваўся і казаў зусім не тое, што хацеў сказаць.

Яна як бы і не пазбягала яго, глядзела добразычліва, нібыта чакала нечага. Але што ён мог ёй сказаць?

Ён даўно вырашыў, што жыць у вёсцы не будзе, а тулянне па здымных пакоях у чужых кватэрах не стварала жыццёвай упэўненасці. Нябожчык бацька казаў у свой час: “Спачатку збудуй дом, а

потым прыводзь жонку”. Так жылі ў вёсцы спакон веку і Сяргей разумеў мудрасць гэтай парады. Але збудаваць дом у горадзе нашмат цяжэй, чым у вёсцы, дый увогуле такую магчымасць дзяржава прысвоіла сабе. Прысвоіць прысвоіла, але з гэтай задачай не спраўлялася. Кватэру ў горадзе можна атрымаць цягам доўгага чакання ў нейкай чарзе. І калі тая чарга дойдзе? І дзе да гэтага яму жыць, калі будзе сям’я? Асуджаць сваю каханую на шматгадовыя жыццёвыя нязручнасці ён не збіраўся.

Як гэта патлумачыць тым добразычліўцам, што збяруцца ў мацерыным доме, у доме, які збудаваў бацька. Праўда, не прытрымаўся сваёй парады: ажаніўся, калі дом яшчэ не быў дабудаваны, і два гады жыў прымаком. Але дом рос і не было сумненняў у тым, што раней ці пазней ён прытуліць сваіх гаспадароў.

У яго ж усё інакш. І ён заціснуў свае пачуцці ў куточак душы, адкуль яны раз-пораз прарываліся балючым трымценнем. Што зараз з Таняй? Ён ведаў, што яна таксама жыве ў горадзе, у сваёй цёткі, працуе ў нейкім будаўнічым упраўленні. Можа, выйшла замуж. А, мо?..

“Танечка, мілая! Даруй, што не змог раскрыцца перад табой, не сказаў табе ўсяго, што адчуваю. Але, мо, так і лепш. Калі ты выйшла замуж і шчаслівая гэтым, дык і мне тое ў радасць…” Але ж варта даведацца, ці замужам. Мо, хто з вяскоўцаў ведае? Ды ведаюць несумненна, яны ўсё і пра ўсіх ведаюць. Толькі ж як у іх запытацца? Можа, самі ўзгадаюць? Праўда, хутчэй узгадаюць, калі замужам. Усё ж навіна! Тады лепей бы не ўзгадвалі. З такімі самотнымі думкамі Сяргей прысеў на лаўку. У гэтым куточку парку людзей не было, нават шум гарадскіх вуліц сюды даносіўся слаба і ён удосталь аддаўся сваім сумным марам.

– Хочаш пагадаю, моладзец? – раптам прагучала побач. Сяргей здрыгануўся ад нечаканкі, падняў вочы і убачыў перад сабой маладжавую цыганку, якая бесцырымонна разглядвала яго.

– Дзякую, не трэба, – паморшчыўся ён, шкадуючы, што нехта перашкодзіў яго самоце.

– Што, шкада дваццаць капеек? – усмешліва спытала яна.

Жадаючы хутчэй пазбавіцца надакучлівай размоўніцы, ён вышкраб з кішэні ўсю драбязу і аддаў ёй:

– Шчаслівай дарогі!

Цыганка ўважліва паглядзела на яго.

– Ты добры чалавек. Я табе ўсё ж пагадаю.

“Бач, сарамяжлівая якая! Хоча “сумленна” грошы зарабіць, – усміхнуўся Сяргей. – Як ад яе адчапіцца?”

Раптам у яго галаве крутнулася цікавая думка.

– Не трэба гадаць. Калі табе так хочацца нечым пацешыць мяне, лепш спей што-небудзь.

Такая просьба здзівіла яе. Яна збянтэжана паглядзела на Сяргея і разгублена спытала:

– Што табе спець?

– Што-небудзь сваё, цыганскае. Спей сваю любімую песню.

Цыганка некаторы час задумліва глядзела на яго, як бы вагаючыся, пець ці не пець, потым прысела на лаўку, яшчэ крыху падумала і запела. Запела ціхім голасам нейкую сумную песню. Сяргей не разумеў слоў песні, але песню неяк адразу прыняў, адчуў. Так, так! Гэта было тое, аб чым ён толькі што думаў, песня пра каханне, пра неразздзеленае самотнае каханне. Яму падалося дзіўным, што нехта побач можа адчуваць тое ж. Ён паглядзеў на цыганку. Тая сядзела, гледзячы прама перад сабой, і пела дзіўную песню, такую знаёмую, хаця ён яе ніколі не чуў. Нягучны, як бы з глыбіні душы спеў цыганкі зачараваў яго. Ён замёр, услухоўваючыся, убіраючы ў сябе тыя дзівосныя гукі.

Пяшчотная, ласкавая, ціхая мелодыя – нараджэнне кахання. Голас мацнее, набірае вышыню – гэта каханне расце, вось яно ўжо не змяшчаецца ў сэрцы, выплёхваецца гукамі-хвалямі.

У гэтых трапяткіх гуках і чыстае святло першага пачуцця, і боязь быць не зразуметым, не прынятым, нясцерпны смутак і ціхманая надзея, радасць і стома чакання, і кліч, жарсны кліч, які немагчыма не пачуць, на які немагчыма не адгукнуцца. І раптам – гаротны надрыў!.. Што гэта?! Чаму?! Кліч не пачуты? Ці другое сэрца закрытае для кахання? Але ж чаму?.. Голас зніжаецца. Ця-

пер у ім смутак, крыўда, боль… Усё? Канец? Ды не ж! У прыціхлай мелодыі чуюцца новыя гукі. Гукі надзеі? Надзеі на што?..

Цыганка скончыла пець і сядзела моўчкі, гэтак жа прама гледзячы перад сабой. Сяргей таксама маўчаў. Затым ціха сказаў:

– Дзякую!

– Гэта табе дзякуй! – цыганка ўстала, намерваючыся пайсці, затым імкліва павярнулася, высыпала яму ў руку манеты, якія ён даў, і хутка пакрочыла па алеі.

А ён яшчэ доўга сядзеў, не варухнуўшыся, нібыта баючыся неасцярожным рухам стрэсці чароўнасць цудоўнай песні, так нечакана падоранай яму.

Пазней Сяргей шукаў гэтую песню, слухаў цыганскія песні па радыё, тэлебачанні, наведваў канцэрты тэатра “Рамэн”, іншых цыганскіх гуртоў, але песня яму не траплялася. Неяк напісаў на маскоўскую радыёпраграму “Сустрэча з песняй”, вядоўца якой Віктар Татарскі актыўна вышукваў і знаходзіў песні, што кранулі душу таго ці іншага слухача, распавёў пра тую сустрэчу з цыганкай. Але што ж – ні назвы песні, ні нейкіх слоў з яе не ведаў. Папрасіў выканаць якую-небудзь кранальную песню на цыганскай мове ў слабых спадзяваннях, што патрапіць менавіта тая. Песня прагучала, але зноў не тая…

Пачата 10.07.1978 – скончана 05.03.2020

# ДОМ ЦЁЦІ ФРОСІ

Гэты горад нагадваў яму вясёлы студэнцкі час, бурлівы малады задор, бясконцыя спрэчкі з сябрамі-аднакурснікамі і мары пра тое, што не збылося. Таму ён з задавальненнем прыняў прапанову з’ездзіць туды ў камандзіроўку. Спадзяваўся сустрэць там кагосьці з аднакурснікаў, знаёмцаў, даведацца аб лёсе іншых, разварушыць прыемныя ўспаміны. Жыццё людзей, побач з якімі правёў некалькі чуллівых год, – заўсёды цікавая тэма.

У гасцёўні вольных месцаў не знайшлося, у другой таксама. Не дапамаглі ні яго абаяльная знешнасць, ні прамоўніцкае майстэрства, ні камандзіровачнае пасведчанне, ні абяцанне шакаладкі. Ён выйшаў на вуліцу і спыніўся, раздумваючы, дзе б прыладкавацца на ноч, спрабуючы ўспомніць хаця б адзін знаёмы адрас.

У горадзе засталіся працаваць некаторыя з яго аднакурснікаў, але ніякіх сувязяў з імі ён не падтрымліваў і таму не ведаў, дзе яны жывуць. Тут напэўна жыве і Валерка, разам з кім яны правялі два гады ў адным пакойчыку, што здавала ім дабразычлівая і гаваркая жанчына. Цёця Фрося, як яны называлі гаспадыню, плату брала невялікую, яны ж дапамагалі ёй і ў працы па доме і на невялікім зямельным участку пры доме ды яшчэ чым, – і пад канец так прывыклі да гэтага дома, да цёці Фросі дый адзін да аднаго, што пры развітанні па заканчэнні інстытута адчувалі вострую шкадобу, нібыта страчвалі нешта добрае і важнае.

“А гэта ж ідэя! – падумалася яму. – Яна несумненна трымае іншых кватарантаў, але месца пераначаваць мне знойдзе.” І ён скіраваў да аўтобуснага прыпынку.

Дом цёці Фросі, як і пяць гадоў таму, патанаў у зелені, але навакольныя краявіды былі незнаёмымі. Ён у здзіўленні агледзеўся. Так і ёсць: новабудоўлі наступалі і на гэтую некалі ўскраінную вуліцу. Недалёка стаяла каробка вялікага будынка, у якой можна было налічыць ужо шэсць паверхаў. На суседняй вуліцы высіліся кучы друзу, старой тынкоўкі, іншага смецця, якое было раней сценамі, столлю, дахамі. Было зразумела, што і дом цёці Фросі з

яе кветкамі, яблынькай і бэзам пад вокнамі хутка стане гэткім жа смеццем, а на яго месцы паўстане шматпавярховая спаруда. Яму стала сумна.

Ён паспрабаваў уявіць унутраны выгляд дома цёці Фросі. Вузкі калідорчык падзяляў дом на дзве часткі. Злева меншая. Там кухня і пакой, у якім жыў ён з Валерам. У правай частцы два пакоі. Уваход у меншы, спальню, праз большы, які гучна называўся "залай". Тут яны збіраліся па вечарах паглядзець чорна-белы тэлевізар ці пагаманіць з цёцяй Фросяй "пра жыццё".

Тая вельмі любіла такія размовы і крыўдзілася, калі яны, захопленыя цікавай перадачай, пераставалі яе слухаць ці адказваць на пытанні. Але крыўда адразу ж знікала, калі перадача заканчвалася і яны пераключаліся на цёцю Фросю.

У яе жыцці радасцяў было няшмат, хаця ў тыя часы мала каго што радавала. Дый "пернікаў на ўсіх заўсёды не хапае". Выйшла замуж за каханага, але мядовы месяц доўжыўся толькі тры дні, бо праз тры дні пачалася вайна і Сцяпан, які яшчэ не прывык да слова "муж", пайшоў ваяваць.

Ваяваў, даслужыўся да старшага лейтэнанта. Але ў адным з баёў іх роту разбілі. Шчаслівейшымі аказаліся тыя, хто загінуў. Астатніх – параненых, кантужаных – забралі ў палон і амаль усе загінулі маруднай смерцю ў фашысцкіх канцлагерах. Старлей нейкім чынам дажыў да вызвалення. Вызвалілі амерыканцы і – шчымліва знаёмая гісторыя – усім вызваленым прапанавалі дапамагчы з пераездам у ЗША ці іншую краіну па іх выбары. Шмат хто гэтай прапановай скарысталіся. А ён жа – патрыёт! – ірваўся дадому, на радзіму. Дый жонка маладая там.

Вярнуўся дагульваць "мядовы месяц", вярнуўся ў дом, які збудавалі яго бацькі яшчэ да рэвалюцыі, але зноў на трэці дзень туды завіталі ветлівыя людзі ў пагонах і запрасілі лейтэнанта праехаць з імі. Болей Фрося яго не бачыла. Яе настойлівыя спробы даведацца пра лёс мужа мелі невялікі вынік: "Осуждён… отправлен в Омсклаг…" Яна пісала туды лісты, але адказаў не было. На чарговы запыт з органаў прыйшло паведамленне: "… умер от туберкулёза."

– Вось жа, – горка здзіўлялася цёця Фрося, – у нямецкім канцлагеры не памёр, выжыў, а ў сваёй краіне не змог выжыць. А за што асудзілі? За тое, што яго, кантужанага, забралі ў палон. Які ж ён здраднік!..

З апошніх трох дзён мядовай радасці нарадзіўся сын Міхась, названы ў памяць Фросінага бацькі, заможнага селяніна, які не хацеў аб'ядноўвацца з "гультаямі" ў калгас і таму быў тымі "гультаямі" раскулачаны і вывезены некуды ў бок таго ж Омска, адкуль і не вярнуўся. Скончыўшы інстытут, Міхась паехаў зарабіць грошай на Поўнач. Меркаваў, што едзе на некалькі год, а выявілася, што на ўсё жыццё, бо знайшоў там не толькі грошы і працу па душы, але й жонку і сяброў добрых. Зрэдку ён прыязджаў у родны дом да маці, часцей проста слаў грошы. Тыя грошы Фрося захоўвала ў ашчадбанку, бо "мне яны не трэба, мне хапае, а яму могуць спатрэбіцца, мала што на той Поўначы можа здарыцца".

Аднойчы Юра распавёў і пра свайго бацьку, таксама рэпрэсаванага.

– За што? – зацікавілася цёця Фрося.

– Пяцёра мужыкоў адзначалі дзень канстытуцыі. Выпілі і пачалі размаўляць пра жыццё. Маўляў, жылі аднаасобна – тады працавалі добра і жылі сытна, а зараз у калгасе працуюць абы як і атрымліваецца так, што вясной упрогаладзь. Нехта ўспомніў дзесьці пачутую песеньку: "У калгасе добра жыць, адзін косіць, сем ляжыць. А як сонца прыпячэ, дык і гэты уцячэ." Не бацька тое казаў. Ён слухаў і не запярэчыў. А не запярэчыў, бо праўда. Адзін з пяці напісаў куды трэба. Чацвярых забралі. Далі кожнаму па дзесяць "за антысавецкую агітацыю".

– І не вярнуліся?

– Двое не вярнуліся. А двое вярнуліся. У тым ліку бацька. Ён вярнуўся вельмі хворым чалавекам, пажыў толькі паўтара года. Але сіл хапіла, каб даць жыццё мне, ён мяне яшчэ на руках патрымаў.

– Колькі гора на нашай зямлі! – уздыхнула цёця Фрося. І, змахнуўшы хусцінкай слёзы, пайшла рыхтаваць вячэру.

Назаўтра раніцай яна падышла да яго:

– Юра, я ў цябе не буду браць плату. У майго Сцёпы і твайго бацькі лёсы аднолькавыя і ты мне як бы сын. Жыві так.

– Не, цёця Фрося, так не трэба. У мяне не будзеце браць, а ў Валеры будзеце – і я стану адчуваць сябе няёмка, як бы вінаватым перад сябрам. Не-не, не пярэчце! Я ведаю, што вы скажаце – няхай і Валера не плаціць. Тады нам абодвум стане няёмка. Мы ж ведаем, што ваша пенсія невялікая, а грошы, якія прысылае сын, вы не скарыстоўваеце, а кладзяце на ашчадную кніжку. Дый плата наша такая, што яе і платай назваць не выпадае. Яна нам па сродках. Дзякуй вам!.. І выбачайце, мне трэба бегчы, бо спазнюся ў інстытут.

І яшчэ паспеў пачуць ззаду пяшчотнае: “Дзіцятка маё!..”

Юрась перасмыкнуўся ад гэтых успамінаў. Яму стала няёмка, што пасля таго, як з’ехаў з горада, ён закруціўся ў розных клопатах-праблемах і ні разу не завітаў, не патэлефанаваў, на напісаў цёці Фросі. “Добра, што хоць сёння ўспомніў,” – сумна падумалася яму.

Ён падышоў да веснічак і націснуў кнопку званка. З дому выйшла дзяўчына, якая падалася яму вельмі прыгожай. Пакуль яна ішла да веснічак, ён захоплена дзівіўся на яе надзвычай дасканалую фігурку, на грацыёзную паходку і не адразу скеміў, пра што яна пытаецца.

– Вам каго? – паўтарыла яна пытанне з цёплай , але нейкай сумнай, усмешкай.

– Я да цёці Фросі.

– А, заходзьце. Яна там, за домам, кветачкі палівае.

І хутка павярнуўшыся, пайшла ў дом пад тым жа яго зачараваным позіркам.

Цёця Фрося, крыху пастарэлая і нават як бы меншая ростам з цікаўнасцю зірнула на госця і, раптам пазнаўшы, пляснула рукамі і абліла яго патокам радасных воклічаў. Ён стаяў і з усмешкай чакаў канца гэтага патока.

– Ды што ж гэта я! – спахапілася тая, зірнуўшы на чамадан у яго руцэ. – Заходзь у дом.

Не спыняючы гамонкі, правяла яго ў пакой, які некалі займалі пастаяльцы. Ён здзіўлена агледзеўся, не пазнаючы пакоя, запоўненага мэбляй так, што заставаліся толькі вузкія праходы.

– Нас жа зносіць хутка будуць. Пераязждаць збіраюся, пакуль яшчэ не ведаю куды. Вось пасцягвала свае шафы-канапы сюды. А тую палову дома я прадала. Там маладая сям’я жыве. Сядай на канапу. Я пайду хоць чаю сагрэю.

Такое паведамленне яго азадачыла. І калі цёця Фрося паклікала яго на кухню, дзе ўжо быў накрыты стол з чайнікам, кубачкамі і салатніцай зварэннем дый не толькі, ён вырашыў адразу высветліць усе абставіны.

– Цёця Фрося, я тут у камандзіроўцы. Месца ў гасцёўнях не знайшлося, спартсмены панаехалі на нейкія спаборніцтвы, і я падумаў: можа ў вас як-небудзь перакантуюся да раніцы.

– Чаму ж не. Перакантуешся. Можна і ў маім пакоі, канапа вольная. Але там табе няёмка будзе дый паветра мала з-за тых спарудаў-шафаў. Нешта прыдумаем. Света! – гукнула яна.

Дзяўчына выйшла з залы.

– Што, цёця Фрося?

– Вось пазнаёмся, Юра, мой пляменнік. Ці не мог бы ён пераначаваць у вашай залі?

– Чаму ж не. Канапу раскладзём, бялізну…

– Бялізну я сваю прынясу.

– Добра. Толькі… – яна нешта хацела сказаць, але махнула рукой і пайшла.

– Я ўжо стаў вашым пляменнікам, – усміхнуўся Юра.

– Ну дык ж сынам не захацеў стаць, – адмахнулая цёця Фрося. – Дый маці ў цябе е. Як яе здароўе?..

І пачала распытваць і пра маці, і пра тое, дзе жыве, дзе працуе, ці ажаніўся (“Я ж і ведала, што ў цябе часу на гэта не знойдзецца.”), і пра ўсё астатняе.

Калі яму надакучыла распавядаць пра сваё, пераключыў яе ўвагу пытаннем пра тутэйшыя навіны.

– А ў мяне адна навіна: вось чакаю, пакуль знойдуць мне іншае жытло. Шкада дом пакідаць, у якім усё жыццё пражыла,

але ж нічога не паробіш. Я ў кватэры нудзіцца буду. Хіба што на балконе кветкі стану вырошчваць.

– Вам з гэтай маладой сям'ёй, можа, па суседстве й дадуць?

– Не ведаю… Я б не хацела быць суседкай гэтага абармота.

– Чаму?

– Ды вось жа… Не збіралася прадаваць… Але ж прышлі яго бацькі, пачалі ўгаворваць… Ён будаўнік, недзе такія ж дамы будуе. Не тут, у іншым месцы. Падумала: ну няхай яшчэ і маладому хлопцу будзе кватэра… Ён не збіраўся тут жыць. Прышоў, прынёс грошы, паперы пачалі афармляць… Вось і ўбачыў Светку… Яна ў мяне нядаўна. Прыехала паступаць, ды не хапіла балаў. Не паступіла. Сама з вёскі. Там невялікі дамок, маці і сястра жывуць. Сястра замуж вышла. Дзіцё ўжо нарадзілася. Ёй там месца ўжо няма. Дый што ёй рабіць у той вёсцы!.. Сядзіць на лаўцы, плача…

– Ну вы ж не маглі абмінуць, калі хто плача.

– Не магу, ты ж ведаеш… Прывяла ў дом, пакарміла. І стала яна тут жыць. Я яе ўладкавала прыбіральшчыцай у дзіцячы садок, там загадчыца мая знаёмая. Добра, што ёй васямнаццць ужо споўнілася… А дзяўчына ж – золата. Ці зварыць, ці памыць, ці пашыць-зацыраваць – усё ўмее. Працаўніца, якіх пашукаць! І красуня якая – сам жа бачыў… Вось ён і ўпадабаў. Пасватаўся… А што ёй рабіць у горадзе, дзе нікога роднага? Пайшла. І ён перабраўся сюды, ужо ў свой дом… У свой…

Цёця Фрося памаўчала. Не прывыкла яшчэ, што нехта чужы называе яе дом "сваім".

– Вяселля лічы што не гулялі. Яго бацькі ўсе грошы, якія былі, за дом аддалі. І яе мацеры не да таго… Першыя некалькі дзён ён трымаўся. А потым… Потым вярнуўся да таго, што было да яе. Мы ж не ведалі гэтага. Яны штодзень сваёй брыгадай замочваюць канец працоўнага дня. Адкуль толькі грошы бяруць?! Мо, якую левую працу робяць ці цэмент або што іншае з будоўлі заганяюць. Вяртаецца ў дом позна і п'яны… Яна аднойчы нешта сказала яму, дык ён пабіў яе. З сінякамі хадзіла… Не ведаю, што будзе з дзяўчынай. Бегчы ад яго трэба, а куды?.. Вой, Юрка, не буду я болей пра гэта, сэрца ўжо слабое. Пайду хоць валяр'янкі вып'ю.

Цёця Фрося вярнулася з бялізнай.

– Хадзем, пасцялю табе. Дый канапу ты раскладзеш, у мяне на ета ўжо сіл не хопіць.

– А ён, калі прыдзе і ўбачыць нейкага мужчыну на сваёй канапе, не падумае чаго кепскага?

– Няхай падумае. Я на тое й сказала, што ты мой пляменнік. Але хутчэй ён цябе і не заўважыць. Прасунецца моўчкі, ляжа і засне.

І дадала раздумліва:

– Можа, і разумее, што Света выйшла за яго не па каханні, а з адчаю. Вось і зліцца, залівае злосць.

– Вы ўжо і яго гатовы пашкадаваць.

– Чаму ж і не пашкадаваць. Ён, каб не піў, мяркую, добрым чалавекам быў. У кожнага свая бяда.

Яны яшчэ паразмаўлялі. Юрась распытваў пра яе сына. Той жыве ў Мурманску, добрая кватэра, жонка, двое дзетак.

– Заве і мяне туды. Але куды мне з роднага куточка! Дый свякруха добрая, калі далёка.

– Я думаю, што вас гэта не тычыцца.

– Бог яго ведае, як яно там сталася б… Бач, ужо позна, а яго няма. Ідзі кладзіся.

– Дабранач вам!..

Прачнуўся ён ад гукаў сапення і шоргату. Нейкі цень, няўстойліва ступаючы, ішоў у бок яго канапы. Ён адразу здагадаўся, чыя гэта постаць, і чакаў, што будзе далей. Чалавек, пагойдваючыся і ціха мармычучы, падышоў да канапы і сеў. Юра адсунуўся да сцяны і своечасова, таму што чалавек пахістаўся, седзячы, затым з размаху абурыўся на канапу і, яшчэ раз нешта мармытнуўшы, заціх. Юра прыўстаў і агледзеўся. Спаць тут ужо не выпадала. Ад хлопца смярдзела перагарам гарэлкі настолькі, што здавалася, быццам увесь пакой прасякнуты гэтым “водарам”.“Не крамную п’юць,” – пазнаў Юра.

Ён злез з канапы і стаяў у роздуме. Такой ідыёцкай сітуацыі ў яго жыцці не было. “Папрасіцца на канапу ў пакоі цёці Фросі? Ці

праста пайсці і перамучыцца ноч на вакзале?..” А потым падумаў: добра, што ён абурыўся тут, а не пайшоў у спальню да жонкі. Як бы ёй гэта было цярпець! Каб не я, дык яна перабегла б на гэтую канапу, а так… Ён ужо пачынаў нацягваць нагавіцы, але ўспамін пра Свету спыніў яго. Света перабегла б на гэтую канапу? А цяпер перабегчы трэба мне. Куды?..

Не раздумваючы болей, ён адчыніў дзверы ў спальню.

Месяцовае святло падала на стол ля вакна, на якім ляжала раскрытая кніга і сшытак з асадкамі, і закранала край ложка. З другога яго краю чулася ціхае роўнае дыханне дзяўчыны. Ён крыху павагаўся, ці не павярнуць назад, але – сказаў А, кажы і Б – нырнуў у цёплую прастору пад коўдру.

– Паша, ты… – сонна мармытнула дзяўчына і ўжо здзіўлена: – Ты не п’яны?

– Я не Паша.

Яна войкнула і крыху адсунулася.

– Твой Паша якраз п’яны, п’яны да бяспамяцтва. Заваліўся на маю канапу і спіць. Яго ўжо ніякая кананада не разбудзіць. І я падумаў: калі ён лёг на маё месца, дык я…

І без паўзы, не даючы ёй апамятацца, працягваў:

– Святлана, мілая! Як жа ты звязала сваё жыццё з такім асталопам. Ён не разумее, якое шчасце яму дасталося па жыцці, ён не цэніць ні цябе, ні тваёй прыгажосці, ні тваіх уменняў, ні тваёй дабрыні. Ён усё гэта прамяняў на п’янкі з сябрамі, якія толькі тады сябры, калі ёсць што выпіць.У вас з ім нічога добрага не будзе. І трэба шукаць выйсце. Трэба знайсці яго! У цябе ёсць вялікае багацце – гэта твая душа і твая прыгажосць. Праўда, прыгажосць, як і любое багацце, можа ашчасліваць, а можа і пагубіць. Але на свеце ёсць многа людзей такіх, як цёця Фрося. Яны дапамогуць. Не растраць сябе на гэтае чмо!..

Ён яшчэ нешта гаварыў, гаварыў… Дзяўчына маўчала. І ён урэшце спахапіўся: пра што я талдычу, яна і сама тое разумее. І змоўк.

Павярнуўся, паклаў руку ёй на грудзі. Яна не супраціўлялася…

Сонца яшчэ не ўзнялося, але з паружавелага неба ўжо слала вітанні сваімі праменьчыкамі. Чалавек з чамаданам ішоў па пустых вуліцах вялікага горада, ішоў няспешна. Адно што й спяшацца не было куды, да пачатку працоўнага дня процьма часу, а другое, што ён і не думаў пра той працоўны дзень. Думкі яго былі яшчэ ў доме цёці Фросі. І ў тых думках ён аніяк не мог знайсці парадку. Чамусьці ён ведаў, што яму абавязкова трэба вярнуцца ў дом, хай не зараз, не сёння, мо й не заўтра, але вярнуцца трэба. Толькі чаму гэта трэба – ён ніяк не мог сфармуляваць для сябе. Ён уяўляў сабе: вось, вярнуся і… І што? І на гэтае "і што?" адказу не знаходзілася. Хаця б – якое будзе першае яго слова? Я вярнуўся, каб…

Каб… каб… кап-кап-кап…

Але ён ведаў, што для нечага ён павінен вярнуцца. Гэтая нявызначанасць пачынала яго ўсё болей бянтэжыць. Ён матнуў галавой, сапраўды не вельмі яснай пасля ночы без сну, і зірнуў уверх. І ўбачыў край сонца, якое пачало выпаўзаць на тую ж вуліцу, па якой ён ішоў. Ён ішоў насустрач сонцу. "О, гэта паэтычная алегорыя! – падумалася яму. – Цёці Фросі яна спадабалася б…" Успамін пра цёцю Фросю сагрэў яму душу, яна сапраўды любіла паэзію. "Ах, дык я ж з ёю нават не развітаўся."

І ўсміхнуўся шчырай шырокай усмешкай, усміхнуўся нават не столькі вуснамі, колькі сэрцам, нібыта знайшоў нарэшце галоўную прычыну, па якой яму трэба вярнуцца ў дом цёці Фросі…

2017

# АДНО СЛОВА

– Анечка, мілая! Ну давай памяняемся. Табе ж і тройкі хопіць, а ты казала, што на тройку ўпэўнена. А я так баюся…

– Не слухай, Аня, не мяняйся. Кепская прыкмета.

– Ну што ты, Каця, лезеш! Табе добра, у цябе сястра тут вучыцца, яна цябе падрыхтавала, ты ўсё ведаеш, і каму, і што, і як сказаць. А ў мяне ўсё нутро дрыжыць. Анечка, не слухай яе. Гэта на грошы кепская прыкмета. Давай памяняемся. Я табе цукерак куплю.

– Ды што ты, Жэня, угаворваеш, быццам я адмаўляюся. Не трэба мне тваіх цукерак. Ідзі ў першай пяцёрцы. Я больш пасплю.

– Ага, будзеш ты спаць, – усміхнулася Каця. – Можаш са мной памяняцца, тады яшчэ болей паспіш.

– Табе не трэба, цябе сястра падрыхтавала. А ёй трэба…

Дзяўчаты вярталіся ў інтэрнат пасля кансультацыі. Назаўтра чарговы ўступны іспыт, вусная матэматыка. Беларускую дыктоўку яны ўжо напісалі і радаваліся, што не ўбачылі сваіх прозвішчаў сярод тых, каму іншых іспытаў ужо не трэ было здаваць. Зараз іх чакаў іспыт больш значны, бо яны паступалі на фізмат педагагічнага інстытута.

Іспыт павінен прымаць Мікалай Сяргеевіч, сталага ўзросту выкладчык інстытута, які і праводзіў кансультацыю, чалавек з тварам ці то пахмурным, ці сумным, нібыта заклапочаным нейкімі праблемамі. Каця ведала ад свае сястры, студэнткі, што гэтаму выкладчыку лепш здаваць напачатку іспыта, бо пад канец ён стамляецца і становіцца залішне прыдзірлівым, хутка раздражняецца. Гэтая навіна выклікала лёгкую паніку ў групе і, каб не спрачацца каму калі заходзіць, вырашылі правесці жараб’ёўку. Жэня выцягнула сёмы нумар, Каця – чатырнаццаты, Аня – чацвёрты і тым самым патрапіла ў першую пяцёрку.

Чацвёрты ці сёмы – ёй не было розніцы. Бо сапраўды матэматыкі яна не баялася. Яна паступала з накіраваннем ад раённага аддзела адукацыі і для яе тройка ці пяцёрка было аднолькава,

дастаткова было не праваліць іспыты. А ў тым, што тройку атрымае, а хутчэй і больш, яна была ўпэўнена.

Матэматыку апошнія два гады ім выкладаў малады настаўнік. Ён па заканчэнні гэтага ж інстытута адпрацаваў два гады ў васьмігадовай школе, адтуль яго перацягнула да сябе дырэктарка Вера Данілаўна, пазнаўшы ў ім былога свайго вучня. Ане падабалася ў настаўніку амаль усё – і тое, як ён размаўляў з імі, злёгку паджартоўваючы, і тое, як даступна ён тлумачыў матэматычныя законы, і тое, што ён не раздражняўся, калі хтосьці не ведаў, не разумеў чаго простага, толькі здзіўлена паціскаў плячыма: “Вось жа, і такога можна не зразумець! Ну, падумай яшчэ. Ты ж раней і хадзіць не ўмеў, але ж неяк навучыўся, зараз нават бегаеш.”

Усё гэта вельмі кантраставала з Галінай Панкратаўнай, якая выкладала матэматыку ў іх класе раней. Тая не вельмі замарочвалася падрабязнымі тлумачэннямі, нярэдка проста загадвала адкрыць і прачытаць пэўную старонку падручніка, потым выконвалі практыкаванні, развязвалі задачы. Аня заўважыла, што практыкаванні і задачы з падручніка настаўніца выбірае простыя, а складаныя абмінае. Ане матэматыка падабалася і яна сама спрабавала развязваць задачы, якія абмінала настаўніца. Нешта атрымлівалася, іншае – не. Аднойчы яна падняла руку на ўроку і папрасіла патлумачыць развязак адной такой задачы. Але настаўніца, сярдзіта зыркнуўшы на яе вачыма, абсекла: “Я вам гэтай задачы не задавала!”

Вучням падабалася непатрабавальнасць Свінаматкі, бо на простых заданнях яны атрымоўвалі лёгкія чацвёркі і пяцёркі, іх мала турбавала, што гэтыя адзнакі не вельмі адпавядаюць іх ведам. Пераважнай большасці тыя веды па жыцці зусім былі непатрэбнымі, таму настаўніца мела нейкую рацыю, не напаўняючы маладыя мазгі непатрэбнай інфармацыяй. Што ж тычылася іншых, меншасці, дык – сапраўдны талент сам праб’е сабе дарогу.

Свінаматка – такая мянушка замацавалася за настаўніцай, бо яе муж быў калгасным заатэхнікам і мог прывезці дадому і калгаснай бульбы, і камбікорму, чым Галіна Панкратаўна адкорм-

лівала свіней, потым прадавала мяса, маючы някепскі прызаробак да настаўніцкай зарплаты. Настаўніцкая зарплата не змянялася ад таго, добра ці не добра яна выкладае матэматыку, а вось той прызаробак істотна залежаў ад таго, добра ці не добра яна выкарміць сваіх свінак, таму найпершы клопат ў яе быў пра свіней і парасятак.

І калі ў школе з'явіўся новы настаўнік, Панкратаўна ахвотна перадала яму старэйшыя класы, а сама ўзяла малодшыя.

Віктар Аляксеевіч, так звалі новага настаўніка, пераканаўшыся, што клас не вельмі падрыхтаваны да складанасцяў дзясятага класа, патраціў месяц на тое, каб крыху залапіць дзіркі іх ранейшай адукацыі. Большасці той месяц усё адно нічым не дапамог, а вось Аня і яе сяброўка Таня акрыялі, адчулі ўпэўненасць, тым болей што Віктар Аляксеевіч пасля ўрокаў не спяшаўся дадому адразу, як Панкратаўна, а садзіўся ў класе правяраць сшыткі і да яго можна было падыйсці, пра што-небудзь недазразумелае папытацца. Гэта было зусім дарэчы, бо Аня з Таней жылі ў суседняй вёсцы і пасля ўрокаў ім даводзілася амаль гадзіну чакаць рэйсавага аўтобуса. Настаўнік ахвотна адгукаўся на іх просьбы, патлумачваў яшчэ раз, паказваў, як рашаць складаныя задачы. Адно толькі, калі Таня неяк пачала запісваць яго тлумачэнні, ён спыніў яе:

– Не трэба запісваць. Вы паслухайце, паспрабуйце зразумець. Не зразумееце, – я яшчэ раз паўтару. А калі зразумееце, тады і запішаце. Бо зараз вы будзеце запісваць мае словы, а пасля, калі мае словы забудзеце, запішаце сваімі. Чуеце: сва-і-мі!

Апошняе слова гучала неяк урачыста-ўзнёсла, што крыху смяшыла дзяўчат. Якая розніца, якімі словамі запісаць, абы правільна.

– Сваімі словамі можа аказацца няправільна, – усумнілася Таня.

– Можа, – пагадзіўся настаўнік. – Калі такія падазрэнні ўзнікнуць, пакажаце мне, я папраўлю. Але ж так вы не толькі матэматыку засвоіце, але і гаварыць павучыцеся. Магчыма, вам вусны

іспыт прыдзецца здаваць. Вось і лічыце, што вы зараз да яго рыхтуецеся.

Аднойчы дзяўчаты сядзелі ў класным пакоі ў чаканні аўтобуса і, каб не марнаваць час, узяліся развязваць задачу з хатняга задання. Аня хутка знайшла ідэю развязку і пачала растлумачваць яе Тане. Настаўнік прыслухаўся да таго, як яна гэта робіць, і задаволена ўсміхнуўся:

– У вас добра атрымліваецца патлумачваць. Вы адчуваеце логіку выказванняў. Вам прамая дарога ў педагагічны.

Аня сціпла ўсміхнулася, махнула рукой, але словы настаўніка неяк зачапіліся за яе памяць. Яна пачала ў думках прымерваць да сябе ролю настаўніцы. І калі Віктар Аляксеевіч прапаноўваў ёй дапамагчы разабрацца з тэмай камусьці з аднакласнікаў, ахвотна адгукалася. Як ні дзіўна, часта гэта дапамагала самой глыбей разабрацца, усвядоміць раней неўсвядомленыя нюансы.

Яна падзялілася гэтым здзіўленнем з настаўнікам. Той узрадаваўся:

– Вось-вось, думаеце, мяне ў школе навучылі развязваць задачы ці ў інстытуце? Не, мяне навучылі школьнікі. На апошнім курсе я патрапіў на практыку ў вельмі моцны клас. Там было шмат разумных хлопцаў і дзяўчат. У класе я прапаноўваў ім задачы, якія падбіраў настаўнік не з падручніка, а з нейкіх зборнікаў больш высокай складанасці. Натуральна, што развязак гэтых задач я прадумваў дома, але знаходзіў адзін варыянт развязку і супакойваўся. А яны ж на ўроку знаходзілі іншыя развязкі, кожны свой. І кожны па-свойму. Бывала, што я не разумеў ходу думкі кагосьці з іх і лічыў развязак няправільным. Потым ужо разбіраўся, што памыліўся якраз я. Каб не трапляць у такія няёмкія сітуацыі, даводзілася дома пры падрыхтоўцы глыбей разбірацца ў задачы, шукаць розныя падыходы да развязку. Так і навучыўся.

… Да выпускной вечарыны заставаўся месяц. Ужо пачалі падрыхтоўку да школьных іспытаў. Неяк па заканчэнні ўрокаў Віктар Аляксеевіч папрасіў Аню затрымацца.

– Куды надумалі падавацца пасля школы?

Аня паціснула плячыма:

– Будзе бачна.

– А як наконт педагагічнага?

– Ну-у.. – Аня не ведала, што сказаць. Думкі такія час-почас мільгалі ў яе галаве, але нейкія сырыя, недаспелыя. Па праўдзе сказаць, іншыя варыянты нават не мільгалі. Яна проста не ведала, куды памкнуцца пасля школы.

Настаўнік памаўчаў, нібы чакаючы, што яна дадасць да свайго “Ну-у”.

– Я ўчора быў у раённым аддзеле адукацыі. Мне сказалі, што на раён далі два накіраванні на фізмат педагагічнага інстытута. Спыталі, ці ёсць у нашай школе хто туды збіраецца паступаць… Я сказаў, што ёсць…

Ён уважліва паглядзеў на Аню. Тая маўчала.

– З накіраваннем паступаць лягчэй. Ты ідзеш як бы па-за конкурсам. Дастаткова паздаваць уступныя іспыты хаця б на тройкі – і ты студэнтка. Гэта рэдкасны шанец. Згаджайцеся!

Апошняе слова прагучала патрабавальна і Аня няўпэўнена мармытнула:

– Добра.

– Ну вось і цудоўна. Заўтра паеду за накіраваннем.

І ўжо весела дадаў:

– Яны ў мяне пытаюцца: а ваша Аня матэматыку не правaліць? Я кажу: калі яна правaліць, тады ганіце мяне са школы, бо, значыць, я ў матэматыцы нічога не кемлю. У мяне няма сумнення, што вы здасьцё. Нават не на тройку, хаця і тройкі хопіць.

Паспаць болей не атрымалася, не хацелася. Падняліся ўсе разам. Жэня, трымаючы ў руках даведнік з формуламі, пабегла ў інстытут. Аня выпіла чаю ў сталоўцы і нетаропкай хадой пайшла туды ж.

Ля дзвярэй аўдыторыі ўжо стаялі дзве дзяўчыны і хлопец, чакаючы сваёй чаргі. Аня прыхілілася спінай да сцяны, закрыла вочы і пачала думкамі прабягацца па раздзелах матэматыкі.

Алгебры яна амаль не баялася. Як казаў настаўнік, алгебра – навука жаночая, там дастаткова запомніць “рэцэпт”, як кухару ці фармацэўту, і далей уважліва трымацца гэтага рэцэпту. Хлопцам такая руцінная праца не да спадобы, таму сярод фармацэўтаў адны жанчыны, дый сярод кухараў жанчыны пераважаюць. Вось і ў алгебры дзяўчаты больш паспяховыя, чым хлопцы.

А геаметрыя – навука вольнага палёту. Там амаль няма рэцэптаў, там процьма варыянтаў, з’арыентавацца ў якіх можа толькі дапытлівы даследчык. Але й даследчык павінен валодаць базавай інфармацыяй, якую даюць тэарэмы падручніка. Тэарэмы настаўнік “паказваў” (яго любімы выраз: “Я зараз пакажу вам адну цікавую тэарэмку”) на каляровых малюнках, якія неяк лёгка заставаліся ў памяці. Думкі Ані паскакалі па тых малюнках…

З дзвярэй аўдыторыі выслізнула першая дзяўчына. Твар у яе быў шчаслівы. “Пяць!” – віскнула яна і пабегла на вуліцу.

– Во, ненармальная! – абурылася адна дзяўчына. – Хаця б сказала, якія пытанні папаліся.

Дзверы зачыніліся за дзяўчынай з нумарам шэсць. Наступнай павінна была зайсці Аня.

Хлопец прыклаў вуха да дзвярэй, спрабуючы пачуць, аб чым размаўляюць выкладчык з чарговай абітурай, але нічога не пачуў і расчаравана адышоў.

Аня зноў вярнулася ў думкі пра матэматыку.

Тэарэма Фалèса – тры паралельныя прамыя перасечаныя дзвюма непаралельнымі, гэта проста. Тэарэме гэтай больш за дзве з паловай тысячы гадоў! – паважліва прамаўляў настаўнік нейкім прыцішаным голасам і рабіў паўзу, каб вучні ўсвядомілі пачутае.

Знакамітая тэарэма Піфагора, вучня Фалеса. Пра гэтую тэарэму нават маецца апавяданне Олдаса Хакслі, – паведамляў настаўнік, – толькі пісьменнік пераблытаў імёны і аддаў гонар адкрыцця тэарэмы Архімеду. У апавяданні расказваецца пра сямігадовага хлопчыка, які вынайшаў свой доказ тэарэмы – і настаўнік паказаў той сапраўды просты доказ. Аня захацела прачытаць тое

апавяданне, але ні ў школьнай, ні ў вясковай бібліятэцы кніг Хакслі не было.

Гэтыя ды іншыя тэарэмы яны вывучалі яшчэ са Свінаматкай, але большасць з іх ніякага следу ў памяці не пакінула. Толькі калі пачалі паўтараць курс геаметрыі перад іспытамі і настаўнік паслядоўна "паказваў" тыя тэарэмы з кароткімі, але цікавымі каментарамі, яны неяк зладжана расселіся па куточках памяці…

Дзверы выпусцілі чарговую дзяўчыну з атрыманай адзнакай. Аня зайшла ў аўдыторыю.

– Добры дзень!

– Добры… Бярыце білет, ліст бумагі і садзіцесь, гатовцесь.

Аня ўзяла наўздагад папяровую палоску і села. Агледзелася. Ля выкладчыка ўжо сядзеў хлопец і пачынаў нешта гаварыць. Трое дзяўчат таропка пісалі ў сваіх аркушах. Жэня павярнулася да яе і ўсміхнулася. Значыць, у яе "алюр-ажур", як любіла прыгаворваць сама Жэня.

Аня дастала асадку і прачытала першае пытанне білета: "Теорема о логарифме произведения". Першыя тры словы яна лёгка зразумела – "тэарэма аб лагарыфме", а на апошнім спатыкнулася. "Произведения" яны вывучалі на ўроках рускай літаратуры і да лагарыфмаў тыя "произведения" не мелі ніякага дачынення. Яна збянтэжана перачытала радок білета яшчэ і яшчэ раз: "… произведения". Произведение – гэта раман "Война и мир", які яна так і не адолела цалкам, гэта паэма "Евгений Онегин", якую Аня не толькі адолела, а перачытала некалькі разоў, прымяраючы на сябе і ролю Вольгі, і ролю Тацяны. Гэта "Мёртвые души" Гогаля, "Преступление и наказание" Дастаеўскага…

Яна схамянулася: не час тут думаць пра Вольгу і Тацяну, трэба рыхтавацца да адказу. Але ж: произведение?! Што з ім рабіць? Аня зірнула на выкладчыка. Той, падпёршы галаву рукой, слухаў адказ хлопца. Слухаў нібыта няўважліва, адстаронена. Але калі хлопец спыніўся, пачаў задаваць пытанні па змесце пачутага. Хлопец няўпэўнена адказваў, тыя адказы не задавальнялі выкладчыка, ён моршчыўся і ўрэшце мовіў:

– Я стаўлю вам тройку. Вазможна, её хваціт і вы паступіце к нам. Но далжны паняць, что мацемаціка вамі усвоена на нізком уровне і нужно будзет харашо паработаць, чтобы не вылецець ужэ с первага курса.

Хлопец выйшаў. Да стала выкладчыка села чарговая дзяўчына. Яна пачала нешта гаварыць, але той спыніў яе, зірнуўшы на дзверы. У дзверы зайшла, нібы праціснулася, яшчэ адна дзяўчына, асцярожнымі крокамі падышла да стала і зірнула на выкладчыка.

– Бярыце білет… Садзіцесь, гатовцесь.

Аня насмелілася падняць руку. Выкладчык здзіўлена зірнуў на яе, але падышоў:

– Што ў вас?

Яна паказала білет:

– Скажыце, тут… усё правільна?

Той зірнуў у білет і пацiснуў плячыма:

– Всё правільна. Думайце, вспамінайце.

І пайшоў да свайго стала.

Адчуўшы ў яго голасе раздражненне, Аня не стала спыняць яго для ўдакладненняў. Выкладчык не ўбачыў нічога ненармальнага ў білеце, значыць лагарыфмы “произведения” павінны былі патлумачвацца на нейкіх уроках. На ўроках Віктара Аляксеевіча такога не было, Аня б запомніла. А Свінаматка таксама не магла пра такое распавядаць, бо тады не вывучаліся лагарыфмы.

– Лагарыфмы ўвогуле простая тэма, – казаў настаўнік. – Гэта як навучыцца хадзіць задам наперад. Спачатку нязвыкла і таму ходзіш паціху, акуратненька, а потым прызвычаішся і нават бегаць пачнеш.

Лагарыфмы сапраўды ў класе асвоілі даволі лёгка. Просценькія тэарэмкі з кароткімі доказамі. Адзін з доказаў нават Вінька прасіўся даказваць на ўроку, Вінька, для якога матэматыка заўсёды была пудзілам. А тут папрасіўся, бо той доказ быў у два-тры сказы. Ён тыя сказы глыбінна не разумеў, але сказы запомніў і меркаваў за іх атрымаць добрую адзнаку…

Але ж “произведение”… “Произведение” – па-беларуску “твор”. Лагарыфмы твору – чарговая бязглуздзіца! Твор – гэта раман “На ростанях” Якуба Коласа, паэма “Курган” Янкі Купалы. Неяк усё гэта да лагарыфмаў не пасуе. Яшчэ “произведения” – гэта карціны мастакоў, гэта балет, гэта опера. Пра такія віды мастацтва Аня чула, але ніколі не бачыла і таму не ўяўляла, як гэта танцам можна перадаваць пачуцці, танцам распавядаць гісторыю. Спевамі, натуральна ж, можна, але навошта спяваць тое, аб чым можна проста сказаць.

Дзесьці яшчэ яна чула: “Октябрьская революция – великое произведение советского народа.” Яе гэтая фраза азадачыла: калі рабілася рэвалюцыя, тады Савецкага Саюза, а значыць і савецкага народа не існавала.

Произведения… произведения… произведения…

“Мой дядя самых честных правил…”

“Я к вам пишу, чего же боле,

Что я могу ещё сказать…”

“Карету мне, карету!..”

“Русь, куда ж несёшься ты? Дай ответ. Не даёт ответа…”

Не дае адказу… не дае адказу… не дае адказу…

Ёй мроіцца, што гэтая Русь у выглядзе здаровага мужыка пагрозліва нахіляецца над ёю і пытаецца:

– Вы гатовы?

Якое дзіўнае пытанне. Хто да чаго гатовы?

– Вы гатовы? – паўтарае голас.

Аня ўздымае галаву. Каля яе стаіць Мікалай Сяргеевіч з запытальным позіркам.

– Вы гатовы? – яшчэ раз паўтарае ён сваё пытанне.

Аня разгублена глядзіць на свой аркуш, ён цнатліва чысты.

– Я віжу, вы савсем не гатовы. Ілі вы будзеце атвечаць?

Аня ўстае. У вачах яе слёзы.

– Я не гатова.

– Ну тагда ідзіце.

Дзяўчаты кінуліся да дзвярэй з запытальнымі словамі, але тыя словы так і не зляцелі з іх языкоў. Аня млява, асцярожна зачыніла дзверы і прыхілілася да сцяны, не могучы ступіць ні кроку болей...

Жэня давяла яе да інтэрнацкага пакойчыка. Калі яна пераканалася, што Аня пасля выпітай шклянкі чаю крыху апрытомнела, то не стрымалася, каб не выказаць свайго здзіўлення.

– Што з табой здарылася? Як я йшла адказваць, зірнула ў твой білет. Першае пытанне там было зусім лёгкім: тэарэма аб лагарыфме здабытку…

– Што? – ускінулася Аня. – Там было “проіз…” Гэта здабытку?!

І новыя слёзы ручаямі паліліся з яе вачэй.

Тэарэма аб лагарыфме здабытку – гэта ж тая тэарэмка, якую прасіўся даказваць Вінька. Доказ у два радкі, якія Вінька не вельмі разумеў. А яна ж разумела там усё! І гатовая была тую тэарэмачку даказаць у любы момант без падрыхтоўкі.

Жэня спачувальна глядзела на Аню, не ведаючы, чым дапамагчы. Хацела яшчэ нешта запытацца, але Аня махнула рукой і ўткнулася носам у падушку. Усю яе істоту запаўняла адчуванне нейкай глыбокай крыўды, пякучай несправядлівасці і вялікай страты. Гэтае адчуванне сядзела камяком у горле, не даючы ёй ні нармальна дыхаць, ні спыніць слёзы. Што яна скажа Віктару Аляксеевічу? А маме? Бацьку?.. Тыя так радаваліся яе добрым адзнакам і праводзілі ў горад з упэўненасцю, што вернецца ўжо студэнткай…

Праз месяц Аня здала іспыты на завочнае аддзяленне інжынерна-будаўнічага інстытута, стала будаўніком.

Віктар Аляксеевіч кінуў школу і з’ехаў з вёскі. Вера Данілаўна спрабавала затрымаць яго, прапаноўвала яму пасаду намесніка дырэктара, мяркуючы, што праз колькі год яна пойдзе на пенсію, а ён займе яе месца. Нагадвала, што і вучні, і калегі яго паважаюць, што ў яго маецца настаўніцкі дар, што калгас заканчвае будаваць чатырохкватэрны дом, адну кватэру абяцаюць настаўніку, знаходзіла іншыя аргументы, але Віктар Аляксеевіч успрымаў тое з сумнай іроніяй: “Які з мяне настаўнік, калі мае лепшыя

вучні правальваюць іспыты! Я ж казаў: калі Аня правaліць, дык ганіце мяне з школы. Вось і ганіце… Не змагу я тут далей спакойна працаваць.”

Пазней у школе дачуліся, што ён уладкаваўся ў горадзе выхавальнікам інтэрната будаўнічага трэста…

2017

# КАНТРОЛЬНАЯ

Настаўнік сядзеў у роздуме. Вось жа ніколі ў яго доўгім жыцці не даводзілася вырашаць такую маральнасную задачу. Жыў як сумленны камуніст, нічым не запляміў сваю душу, смела і спакойна мог глядзець у вочы сваім дзецям і сваім вучням. Дзяржава адзначыла яго працу ганаровымі граматамі, медалём і званнем "Выдатнік народнай асветы". Здавалася, ніштото не азмрочыць яго гладкага жыцця да блізкай пенсіі. Але ж… Чалавек мяркуе, а Бог парадкуе.

Сёння ў выпускных класах школ раёна прайшла запланаваная кантрольная праца па матэматыцы. Такія кантрольныя па тэкстах міністэрства праводзіліся штогод, для чаго выбіралі па адным раёне кожнай вобласці. Усе ведалі, які праўдзівы вынік мог атрымацца, калі правесці кантрольную як трэба, таму нідзе "як трэба" не праводзілі, бо навошта ж псаваць прыгожую лічбавую карцінку працэнтаў з дзвюх дзявятак, да таго ж ствараць непрыемнасці для настаўніка, які нічым не горшы за іншых.

І, раздаўшы аркушы з заданнямі, прыезджы кантралёр садзіўся за стол і "драмаў", у той час як вучні спісвалі ў каго з выдатнікаў ці настаўнік, абходзячы клас, каму падказваў, каму штосьці папраўляў.

Але на гэты раз нешта пайшло не так. Выкладчык педагагічнага інстытута, які прыйшоў у паказальную школу райцэнтра, школу нумар 1 імя У.Леніна, перад урокам патлумачыў Аляксею Рыгоравічу:

– Ведаеце, абрыдла хлусіць. Мы ехалі ў аўтобусе і размаўлялі: вось, маўляў, як звычайна, раздадзім заданні, а самі адвернемся… І нехта прапанаваў: "А калі не адвернемся? Чаму б не прывезці праўдзівыя вынікі?" Прапанова спадабалася. Дамовіліся, што прывязем вынікі, якія насамрэч. Хлусня, у якой жывем, дапякла. Трэба ж некалі пачынаць выбірацца з багны. Таму я правяду кантрольную сам. Вы будзеце сядзець за апошнім сталом і назіраць. Калі з'явяцца якія заўвагі, пазначыце іх у пратаколе.

Збянтэжаны настаўнік не знайшоў чым запярэчыць. Яно і праўда, выбірацца з багны трэба. Трэба пачынаць жыць па праўдзе. Але столькі гадоў прывыкалі жыць у хлусні, хлусня навязвалася зверху, там яе чакалі і атрымлівалі, хлусня стала звыклай нормай жыцця, якая ўжо амаль не раздражняла. Толькі недзе ў глыбінях душы крыху варушылася сумленне і нешта вякала, але яго заціскалі і яно замаўкала.

І вось нечакана… Хаця й не зусім нечакана. Са смерцю генсака Л.Брэжнева ў душах людзей пачалі ўзрастаць спадзяванні на нешта новае, больш маральна чыстае. Сам Аляксей Рыгоравіч, заўважаючы маленькія прыемныя змены ў дзяржаве, радаваўся ім і чакаў большых. А вось тут змены кранулі яго самога. “Як абухом па галаве!..”

Супярэчлівыя пачуцці раздзіралі душу настаўніка. З аднаго боку, ён прызнаваў правату кантралёра: трэба ж некалі пачынаць ачышчэнне грамадства, з іншага боку, чаму гэтае ачышчэнне павінна пачацца з яго і як гэта адаб’ецца на яго асабістым лёсе.

Настаўнік сядзеў за апошнім сталом і назіраў. Мікалай Пятровіч, так звалі кантралёра, раздаўшы аркушы з заданнямі і пазначаныя штампам аркушы для працы, стаяў наперадзе і ўважліва аглядваў клас. Вось нехта павярнуўся, каб штосьці спытаць у суседа, але адмоўны жэст рукі кантралёра спыніў яго намер. У думках Аляксей Рыгоравіч ухваліў тое, што кантралёр не зрабіў заўвагу голасам, не парушыў цішыню. І далей на нейкія парушэнні кантралёр рэагаваў найперш жэстамі, зрэдку робячы кароткія заўвагі ціхім голасам.

Прайшло колькі хвілін. Раптам Мікалай Пятровіч у здзіўленні паглядзеў на аднаго з вучняў і падышоў да яго.

– Якое ваша прозвішча?

– Борух.

– Дзе ваш аркуш?

Аркуш быў у хлопца, які сядзеў перад ім. Той ужо пачаў перапісваць свае развязкі ў аркуш сябра. Мікалай Пятровіч забраў аркуш.

– Борух павінен пакінуць клас. А вам, – звярнуўся ён да памочніка Боруха, – раблю заўвагу. Другое парушэнне скончыцца пакараннем.

Па заканчэнні працы, якая доўжылася два ўрокі без перапынку, настаўнік з кантралёрам селі ў настаўніцкай правяраць тое, што атрымалася. Правяраў кантралёр. Ён называў адзнаку, якую збіраўся выставіць, чакаючы згоды ці нязгоды настаўніка. Але нязгоды не было. Называныя адзнакі беспярэчна адпавядалі таму, што было ў аркушах.

У аркушы Боруха з’явілася “адзінка”.

– Магчыма, вы нязгодныя з тым, што я выдаліў яго з класа? – запытаўся Мікалай Пятровіч.

Настаўнік махнуў рукой:

– Ён усё адно нічога б не зрабіў. Я шчэ здзіўляюся, як ён не нагрубіў вам.

Пяць “пяцёрак”, адна “чацвёрка”, чатыры “тройкі”. Астатнія – “двойкі” і “адзінкі”. На 29 вучняў дзясятага класа.

Настаўнік сядзеў змрочны. Мікалай Пятровіч азірнуўся на яго.

– Можа, у вас маюцца якія заўвагі да таго, што адбывалася на ўроку ці да выстаўленых адзнак?

– Не, заўваг няма.

– Можа, адзнакі, на ваша меркаванне, не адпавядаюць ведам вучняў. І, магчыма, другі раз яны выканалі б працу лепей?

– Не, вынікі былі б прыблізна такімі ж.

– Тады падпішыце пратакол.

Настаўнік падпісаў. Потым прамовіў:

– Я вось думаю: вы правялі ў мяне кантрольную як трэба. А ў іншых школах правядуць як раней. Там атрымаюць адзнакі прыстойныя. І мяне пачнуць скланяць на ўсіх нарадах як няўмелага настаўніка. А мне да пенсіі засталося два гады.

– Я разумею вашу турботу. Але ў іншых школах павінна адбыцца тое ж. Мы дамовіліся. Калі ж вас пачнуць папракаць ці неяк інакш прыдзірацца да вашай працы, то вось тэлефон нашай кафедры. Я першы кінуся абараняць вас. Бо бачыў пяць выдатных прац вашых вучняў. Іх развязкі бездакорныя, з лагічнымі абгрун-

таваннямі. Прычым, яны розныя. Кожны знаходзіў свой шлях развязвання. Адсюль раблю выснову, што вы можаце навучаць матэматыцы на высокім узроўні. А тое, што навучылі не ўсіх, то вашая віна тут меншая. Ёсць шмат наспелых праблем, якія патрабуюць увагі. Тут і праблема зместу школьнай праграмы па матэматыцы: наколькі патрэбны сінусы-лагарыфмы масаваму школьніку. І праблема залішняга кантролю настаўніка з боку адукацыйных органаў: тыя, каму не задалася праца з дзецьмі, становяцца метадыстамі, інспектарамі і чапляюцца да настаўнікаў з сваімі не заўсёды разумнымі парадамі, парадамі, якія немагчыма праігнараваць. І праблема жорсткага планавання, калі на кожную тэму міністэрствам адводзіцца пэўная колькасць часу, незалежна ад класа і ад здольнасцяў настаўніка. І паспрабуй гэты план парушыць! – тут на цябе накінуцца ўсе інспектары. І самая галоўная праблема: праблема творчага настаўніка, які дзякуючы сваім метадычным знаходкам атрымлівае нашмат лепшыя вынікі, нават з эканоміяй часу, але не можа гэтага нікому даказаць, бо праўдзівыя вынікі схаваныя за хлуслівымі справаздачамі пра “лепшую ў свеце адукацыю”. На ўсе гэтыя праблемы ў міністэрстве не звяртаюць увагі. І як узварухнуць тое балота, калі не такой вось праўдай?..

І вось зараз Аляксей Кузін сядзеў дома ў маркоце. Трэ было планаваць заўтрашнія ўрокі, але думкі неадступна круціліся вакол урока сённяшняга. Яшчэ гэты тэлефонны званок ад Ангеліны Вікенцеўны…

Два гады таму першага сакратара райкаму адправілі на пенсію. Жонку новага начальніка раёна, пераведзенага з іншага горада, уладкавалі настаўніцай матэматыкі ў лепшую школу, для чаго давялося забраць частку вучэбнай нагрузкі і адпаведна частку зарплаты ў іншых настаўнікаў. Забралі адзін клас і ў Аляксея Рыгоравіча. Прычым, лепшы яго клас. Дырэктар школы патлумачыў:

– Ну не можам жа мы жонцы першага даць кепскі клас. Яна раскажа мужу. Што той падумае пра нашу школу.

Зараз той клас ужо восьмы, выпускны клас базавай школы. І там таксама праводзіў кантрольную Мікалай Пятровіч. Вынік хаця

зноў жа не парадны, але лепшы, чым у дзясятым: на 33 вучні толькі восем “двоек” ды “адзінак”.

“Адкуль там восем магло ўзяцца?” – дзівіўся Кузін. Ведаючы тых вучняў, ён мог дапусціць толькі дзве нізкія адзнакі. Аднак ужо трэці год з імі працуе не ён.

Ангеліна Вікенцеўна патэлефанавала яму амаль адразу, як ён прышоў дадому.

– Аляксей Рыгоравіч, трэба нешта рабіць.

– Што рабіць? – не зразумеў Кузін.

– А вы што, пагаджаецеся, каб такія вынікі кантрольнай былі абнародаваны?

– І што вы прапануеце?

– Трэба напісаць, патлумачыць, што кантралёр паводзіў сябе няправільна, рабіў заўвагі вучням, перашкаджаў ім працаваць.

– У мяне ён так не рабіў.

– А гаварыў ён вам пра міністэрства, што там няправільна робяць?

– Гэта казаў. Але тут я з ім згодны.

– Згодны ці не згодны – гэта мала каго турбуе. Вось і напішыце, што крытыкаваў міністра, казаў, каб ставілі больш “двоек”, тады міністра здымуць…

– Куды напісаць?

– Напішыце ў абкам партыі. Там зрэагуюць, звяжуцца з міністэрствам, патлумачаць.

– Мы можам напісаць ад імя абоіх. Вы падпішаце?

– Не. Вы разумееце, гэта можа кінуць цень на майго мужа. А вы настаўнік вопытны, заслужаны, выдатнік адукацыі, узнагароды маеце. Вам паверацы…

І вось цяпер настаўнік сядзеў і думаў. Маральнасную падкладку прапановы Ангеліны ён разумеў і яна яму не падабалася. Але што іншае рабіць? Пакінуць усё як ёсць і чакаць, што будзе? Ён уяўляў, як на розных настаўніцкіх і не толькі настаўніцкіх сходах выйдзе які-небудзь кіраўнік і пачне: “Вось Кузін, настаўнік лепшай школы раёна. Дзяржава высока ацаніла яго працу. Граматы, медаль, званне выдатніка асветы. А ён перад пенсіяй

расслабіўся. Расслабіўся настолькі, што вучні не атрымліваюць патрэбных ведаў па матэматыцы. Больш за палову двоек у выпускным класе! Як такое магло здарыцца ў выдатніка народнай асветы?!..” І гэтак далей. Як гэта слухаць чалавеку, якога заўжды хвалілі, партрэт вісіць на раённай дошцы гонару. Нават калі ніякага пакарання не будзе (а чым могуць пакараць? – хіба што званне выдатніка адабраць), то гэткія словы як змяіныя ўкусы. Чым тут можа дапамагчы Мікалай Пятровіч? “Першы кінуся абараняць”! Што, ён пазатыкае раты тым зларадцам?

Яшчэ ў раёнцы надрукуюць. Як тады вучням у вочы глядзець? Нібыта насамрэч не навучыў. А як навучыць таго, хто не хоча, каму гэтая матэматыка “нафік патрэбная”, як выказаўся адзін з іх, ужыўшы слова ненарматыўнага лексікону? Аляксей Рыгоравіч прызнаваў рацыю гэтых мацюгальшчыкаў і таму не вельмі націскаў на іх. Была маўклівая згода: ён дараваў ім нявывучаныя ўрокі, нявыкананыя хатнія заданні, абы толькі яны не стваралі праблем з дысцыплінай на ўроках, не перашкаджалі атрымліваць веды тым, каму яны былі патрэбныя. Кожнаму сваё.

І гэткае ж амаль у кожным класе. Усе пра тое ведаюць – і дырэктар школы, і ў раённым аддзеле адукацыі, і вышэй, ведаюць і ў міністэрстве. Усе ведаюць, але робяць выгляд, што ўсё ідзе так, як трэба. Савецкая адукацыя лепшая ў свеце!

І вось праўда вылазіць. Кантрольная ў лепшай школе раёна, у аднаго з лепшых настаўнікаў дала такія вынікі. А як тады не ў лепшых? Гэта ж як бомба! Проста так адмахнуцца – маўляў, адзіны недарэчны выпадак, вось жа і на сонцы бываюць плямы, – не атрымаецца.

Заклююць! Накінуцца ўсім кагалам і заклююць. Не паглядзяць, што і ў ВНУ яго выпускнікі паступаюць і вучацца там добра, і што на раённых матэматычных алімпіядах перамагалі не раз, і што на метадычных канферэнцыях дзяліўся сваім досведам. Усё гэта бачылі, ацэньвалі, не за так жа граматы і медаль давалі. Але ўсё гэта забудуць. Наперад вылезе вось гэтае: больш за палову класа з “двойкамі” ды “адзінкамі”! Правядзіце кантрольную ў іншых яго класах, паглядзіце, якія там будуць вынікі. Будуць несум-

ненна і “двойкі”, але не ў такой пачварнай колькасці. Што зробіш, калі гэты дзясяты адзін з самых слабых класаў за ўсе гады яго працы. “Паглядзеў бы я, якія вынікі былі б у гэтым класе, калі б яго аддалі Ангеліне, – усміхнуўся Аляксей Рыгоравіч. – І што б яна рабіла пасля гэтай кантрольнай”.

Але зараз аддувацца яму. Дзе гарантыя, што ў іншых школах правядуць кантрольную так, як правёў яе Мікалай Пятровіч, і атрымаюць падобныя вынікі? Тады на агульным фоне яго “двойкі” не будуць так выпукла глядзецца.

Мо, пачакаць колькі дзён? Кантрольныя паехалі ў абласны цэнтр і там, магчыма, і застануцца. У раёне пра іх, магчыма, і ведаць не будуць? Але ж не. Такія “ненармальныя” вынікі не будуць цішком забытыя. Тут пойдзе розгалас вялікі. І гнеў міністэрскіх начальнікаў ураганам уздыме мясцовых. Заклююць! Ці вытрымае сэрцайка, якое ўжо пачынала падаваць трывожныя сігналы?

Настаўнік сцепануўся. Ён падсунуў бліжэй аркуш, узяў асадку, якая затрымцела ў яго руцэ, і пачаў пісаць:

*“Абласному камітэту камуністычнай партыі*
*настаўніка сярэдняй школы № 1*
*імя Уладзіміра Ільіча Леніна,*
*камуніста Кузіна А.Р.*

*ЗАЯВА”*

…

Гуловіч зайшоў на кафедру. Яго ўбачыла лабарантка і гукнула:

– Мікалай Пятровіч, вам тэлефанаграма: вас выклікаюць у абкам.

– Хто выклікае?

– Нейкі Старчанка.

– А ці не той гэта Старчанка, які працаваў у нашым інстытуце?

– Так, мабыць, той. Ён выкладаў на гістарычным факультэце.

– Ну што ж, выклікае, – зазірну да калегі.

Старчанка сустрэў ветліва. Устаў, павітаўся, паціснуў руку, прапанаваў прысесці. Потым засяроджана ўзяў паперыну, якая ляжала на стале, зірнуў на яе і ўважліва глянуў на Гуловіча.

– Мікалай Пятровіч, на вас паступіла заява.

– Якая заява?

– Вось пачытайце.

Гуловіч узяў аркуш і пачаў чытаць. Скончыўшы, паціснуў плячыма і сумна ўсміхнуўся:

– Вось жа, думаў, што правёў кантрольную для вучняў. А выяўляецца, правёў кантрольную для настаўніка.

– Раскажыце пра тую кантрольную.

Гуловіч распавёў – і пра тое, як ехалі, як размаўлялі, як дамовіліся, і пра тое, як ён праводзіў кантрольную.

– Там цікава атрымалася. Мне потым перадалі ўсе працы, каб я падвёў агульныя вынікі. З дзвюх вясковых школ прывезлі адны нулі. Ніводзін вучань не змог выканаць ніводнага задання. У іншых лепш. Не ўсе, праўда, правялі кантрольную дастаткова патрабавальна. Некаторыя маладыя жанчыны або паспачувалі настаўніцам, або не знайшлі ў сабе маральных сіл правесці як трэба. Ад іх паступілі працы, дзе сустракаліся "блізняты", гэта значыць, спісванне было. Але і ў такім выпадку нездавальняльных адзнак было амаль палова на раён. А гэты раён нічым не лепшы і не горшы за іншыя раёны. Што тычыцца заявы Кузіна, то няхай гэта будзе на яго сумленні. Што я казаў у размове з ім – гэта адно, а што ён напісаў у заяве – гэта другое. Які сэнс спрачацца пра словы. Калі ж ён лічыць, што вынік кантрольнай несправядлівы, то я гатовы пры ўдзеле супрацоўніка з абкама правесці ў яго класе паўторную кантрольную па падобных тэкстах. Мяркую, што ён гэтага не захоча. Калі ж ён чакае нейкага пакарання для мяне, то тады вам прыдзецца пакараць усю групу нашых выкладчыкаў, якія выязджалі ў раён.

На тым і развіталіся.

Праз два тыдні маскоўская газета "Известия" надрукавала артыкул М.Гуловіча "Смотреть и видеть", дзе былі ўпамянуты вынікі праведзенай кантрольнай. Але пра тое, што адбывалася потым, зусім іншая гісторыя…

2022

# АПОШНЯЕ ЖАДАННЕ

На вострыя публікацыі людзі рэагуюць амаль заўсёды аднолькава: кожнаму хочацца падзяліцца сваімі бедамі, сваімі праблемамі. І некаторыя гэта робяць. Пішуць аўтару пра сваё, нават калі тое “сваё” зусім не па тэме публікацыі.

Вось і тут, публікацыя артыкула, які газета “Известия” змясціла пад рубрыкай “Праблема” і выслала аўтару ганарар, большы за палову яго месячнага заробку, выклікала статак лістоў з розных канцоў Савецкага Саюза. На адрас: пед’інстытут, Гуловічу М.П., як і быў падпісаны артыкул.

Артыкул быў прысвечаны праблемам адукацыі, праблемам, якія не вырашаліся, а прыхоўваліся, затуманьваліся. У выніку кепскі настаўнік, які выстаўляў высокія адзнакі вучням, заахвочваўся пахваламі і прэміямі, а настаўнік прынцыповы выклікáў агрэсіўнае стаўленне адукацыйнага чынавенства. І таму новыя Ушынскія-Сухамлінскія-Шаталавы не маглі даказаць перавагу сваіх метадаў выкладання, што непазбежна вяло да загнівання савецкай сістэмы адукацыі. Пра тое ўсе ведалі, але ў міністэрстве адукацыі былі заклапочаны не тым, як палепшыць сітуацыю, а галоўнае, каб не вякалі. Савецкая адукацыя – лепшая ў свеце. А калі нехта лічыў інакш, то яго з гэтай адукацыйнай сістэмы выкідалі: шукай, маўляў, іншае прымяненне свайму крытыканству.

А тут адна з галоўных газет краіны гэтае крытыканства падтрымала. Усё ж пасля смерці Л.Брэжнева чакаліся нейкія змены. Людзям заўсёды хочацца праўды, свабоды, справядлівасці. Хаця не заўсёды ведаюць, навошта яны ім патрэбныя. Як у Высоцкага: “Мне ўчора далі свабоду. Што я рабіць з ёю буду?”

Мікалай Пятровіч перабіраў дасланыя лісты, дзівячыся наіўнасці некаторых іх аўтараў. Ну чым можа дапамагчы выкладчык з Беларусі нейкай дзяўчыне, якую нібыта беспадстаўна выключылі з інстытута ў Саратаве?..

А вось чалавек дзеліцца народнай праблемай. Ён сканструяваў мінітрактар для ўскопвання градак. Невялічкі агрэгат з двума

педалямі наверсе. Чалавек становіцца на тыя педалі і, націскаючы па чарзе то на адну, то на другую, прыводзіць агрэгат у рух. Агрэгат марудна паўзе па зямлі коламі з вострымі зубамі і рыхліць яе сілай вагі чалавека. Не трэба ні бензіну, ні электрычнасці. Агрэгат дзейнічае добра, праверана на ўласных ускапаных градках. Але чалавеку мала гэтай радасці. Ён хоча падзяліцца ёю з іншымі. Шукае прадпрыемства, якое ўзялося б вырабляць такія агрэгаты. Ён упэўнены, што прадпрыемства добра заробіць на гэтым, бо на агрэгат будзе шырокі попыт. Шукае і не знаходзіць. Ніякі завод, куды ён ні звяртаўся, яго машына не зацікавіла.

Тыпова савецкая праблема. Пакуль у Савецкім Саюзе пракладвалі БАМ, капіталісты прыдумалі чамаданы і сумкі на калёсіках. Пакуль у Савецкім Саюзе выраблялі касмічныя апараты, тыя капіталісты прыдумлялі дзвярныя спружыны, якія не хлопаюць гучна дзвярыма, а зачыняюць іх павольна і ціха. Пры гэтым касмічныя апараты яны таксама паспявалі вырабляць. Але і пра чалавека звычайнага клопат быў. Гэта там, у несавецкай старане прыдумалі і ліфт, і змешвальнік для душа, і лядоўні, і тамограф, і эскалатар, і шмат іншых маленькіх і вялікіх палёгкаў для чалавека. Прапануй той мінітрактар якому заводу ў Нямеччыне ці Францыі, там, па-першае, палічылі б, якую выгоду дасць ім гэты новы клопат, і калі б выгода была відавочнай, запусцілі яго ў вытворчасць. На карысць і сабе, і людзям. А савецкім заводам новы клопат навошта? Што ім вырабляць, – скажа Дзяржплан. А з вышыні Дзяржплана такія дробязі, як гэты мінітрактар, не заўважаюцца.

Вось і тузаецца чалавек безвынікова. Клопат у яго не пра сябе, у яго ўжо гэта маецца, ён хоча, каб і ў другіх было. Колькі пенсіянераў з рэўматызмамі-радзікулітамі свае градкі на лецішчах рыдлёўкамі парадкуюць. Яны б сказалі дзякуй за такое аблягчэнне іх жыцця. Але касмічнай дзяржаве не да іх.

А чалавек усё б’ецца ў гэтую сцяну. Вось і выкладчыку напісаў з нейкай прытоенай надзеяй, мо тут што атрымаецца, мо выкладчык сваім журналісцкім словам у якой газеце падтрымае і справа зрушыцца.

Мікалаю Пятровічу захацелася напісаць вынаходніку цёплы ліст, але падумаў: што яму ад цёплага ліста, калі ад той цеплыні ніякай рэальнай карысці.

Чарговыя ліст зацікавіў яго болей. Нехта Леў Шпакоўскі з Салігорска пісаў, што перад вайной ён вучыўся разам з Міхаілам Рыгоравічам Гуловічам у Мінскім педагагічным інстытуце, сябравалі, але лёс развёў у розныя бакі і кантакты згубіліся. Магчыма, той Гуловіч нейкі сваяк і сяброўскія кантакты адновяцца.

Сапраўды, такі сваяк у яго меўся. Стрыечны дзядзька стаў першым чалавекам з яго роднай вёскі, які атрымаў вышэйшую адукацыю. Але настаўнічаць давялося мала. Адваяваў. Пасля дэмабілізацыі абралі партаргам калгаса, потым патрапіў у райкам партыі – і панесла яго па пакручастай партыйнай дарожцы. Па заканчэнні вышэйшай партыйнай школы – загадчык аддзела ў гаркаме Даўгаўпілса, праз некалькі год – трэці сакратар гаркама Бухары… І так “ёрзаў” па прасторах СССР, як шахматная фігура, перастаўляная нечыяй рукой, пакуль не атабарыўся ў гуцулаў другім сакратаром абкама.

Мікалай аднойчы наведаў яго, стаўшы адным з чатырох пасажыраў першага ў гісторыі авіярэйса Мінск-Вужгарад. Дзядзька жыў у трохпакаёвай кватэры звычайнай пяціпавярхоўкі ў цэнтры горада. Дочкі Вольга і Ліна павыходзілі замуж і жылі асобна. Вольга жыла далёка, у Львове, а Ліна – у Вужгарадзе, і, “каб бацькам не было сумна”, час ад часу адпускала да іх свайго сына Борку, дашкольніка. Двор каля дома быў невялічкі, але цяністы, засаджаны дрэвамі, сярод якіх былі два абрыкосавых дрэвы і яблыня. Яблыня старая амаль не пладаносіла, а абрыкосы ўсейвалі плошчу пад імі сваімі смачнымі жоўта-памаранчавымі галушкамі, прапануючы тыя стварэнні людзям, але на іх ніхто не звяртаў увагі, такога дабра хапала.

Тры дамы, якія атачалі двор, засялялі людзі прыблізна такога ж узросту, якія павыгадоўвалі дзяцей і выпусцілі іх “на волю”, таму малечы тут было няшмат і ўнуку ў дзеда было сумнавата. Але хлопец не быў капрызлівым і стойка пераносіў сваю самоту,

тым болей што дзед і бабуля радавалі яго сякімі-такімі падарункамі.

Дзядзька быў рады прыезду Міколы, бо даўно не быў на радзіме і амаль не меў ніякіх звестак адтуль. А душа цягнулася да родных мясцін. Пра гэта ён паведаміў Мікалаю, калі пайшлі аглядваць горад.

– Чаму б вам не перабрацца бліжэй? Хіба ж у Беларусі не патрэбны вопытныя партыйныя кіраўнікі?

Дзядзька ўсміхнуўся:

– Партыйны чалавек як вайсковец. Куды загадаюць, туды і едзе. А загады не абмяркоўваюць. Я не ўпэўнены, ці давядзецца мне тут скончыць сваю кар’еру. Могуць зноў паслаць у які-небудзь Хабараўск. І, што рабіць, паеду. А ў Беларусь я б на крылах паляцеў.

– А вам, што, тут кепска жывецца?

– Ды не, някепска. І з людзьмі ўжо паразумеўся. Паважаць сталі. А спачатку глядзелі, як на прыхадня. Ідуць на прыём і нешта балабоняць сваёй гуцульскай мовай. Я штосьці разумею, але не ўсё. Прашу яго размаўляць па-руску. Ён жа ўмее па-руску, у школе вучыў. А ён мне: “Гэта ж не я да вас, а вы да мяне прыехалі. Вось і вучыце нашу мову…” Вучыце мову…

Дзядзька памаўчаў, уздыхнуў.

– Я, калі прыехаў у Даўгаўпілс, думаў, што там і застануся. Пачаў вучыць латышскую мову. Чытаў кнігі пра гісторыю Латвіі. А праз два гады гэта ўсё непатрэбным стала. Адправілі да ўзбекаў, у Бухару… Прыгожы горад. Але ўсё чужое, незразумелае. Вось чаму туды, дагэтуль не разумею. Нібыта з павышэннем. Але ж маглі павысіць дзе-небудзь у Латвіі, калі заслугоўваў павышэння. Ці ў Беларусі, дзе я нашмат больш карысці прыносіў бы, бо мой народ, мая зямля, мае людзі, нават паветра маё, маё ўсё. А паслалі ў Бухару. Ці паслалі, ці выслалі… Я сапраўды сябе там высланым адчуваў… Павышэнне як пакаранне… Але ж працаваць трэба. Новую мову пачаў вучыць ужо па неабходнасці. Узбекі хаця й вучылі ў школе рускую мову, але валодалі ёю ў большасці вельмі слаба.

Прызначылі мне настаўніка, узбека. І ён стараўся, і я стараўся. За год нечаму навучыўся. Разумець мову стаў, і сам нешта мог сказаць. Але ж у гаркаме я не адзіны быў рускі. Паседжанні праводзіліся на рускай мове. І справаводства вялося на рускай. Некаторыя рускія не лічылі патрэбным вучыць узбекскую мову. Я іх тады не разумеў. А зараз разумею. Ведалі, што Бухара не назаўсёды.

Дзядзька змоўк, збіраючыся скончыць гэтыя не вельмі прыемныя для яго ўспаміны. Але, мабыць, узгадаў, з чаго пачаў, і працягваў:

– Вось і тут… Вучыце мову, кажуць. Добра, я стану вучыць, а праз год-два мяне зноў павысяць у які-небудзь Джамбул. Мне нават здаецца ўжо, калі б я засвоіў мову гуцулаў, абавязкова перавялі куды-небудзь, дзе гэтая мова непатрэбная… Я кажу: вы прыйшлі да мяне за дапамогай. Магчыма, я змагу дапамагчы вам, але я павінен зразумець вашу праблему. Калі не зразумею, то і не дапамагу. Гэта ж не мне, гэта вам трэба. А значыць, вы павінны ґаварыць так, каб я зразумеў. Пагаджаюцца і пераходзяць на рускую. Вось так мая руская пераломвае іх гуцульскую.

Дзядзька ўсміхнуўся, але ўсмешка была сумная. Крыху памаўчаў і працягваў:

– І шмат каму дапамог. Прызналі. Паважаюць… Тут рака, горы, прыгожыя краявіды. А гляджу тэлеперадачы пра Беларусь і сэрца шчыміць. Выберу некалі час і прагуляюся ў водпуск па родных мясцінах. Ці пазнаю я іх? Дый мяне зараз хто там пазнае?..

Часу наведаць родныя мясціны дзядзька пакуль не знайшоў. Клопаты службовыя. А потым і здароўе непакоіць стала. І вось цяпер яго самога шукае былы сябрук. Сапраўды даўні сябрук ці проста супалі прозвішчы? Мікалай не прыдумаў нічога лепшага, як даслаць ліст Шпакоўскага дзядзьку.

*“Добры дзень, дарагі Мікалай! Ты даслаў мне нечаканую навіну. Леў Шпакоўскі сапраўды быў маім сябрам у інстытуце. Па маіх звестках, з нашага выпуска пасля вайны засталіся толькі пяць чалавек. Але ён пад час акупацыі супрацоўнічаў з немцамі, нібыта быў рэдактарам раённай газеты ў Слуцку. Пасля вайны*

*за гэта быў асуджаны, адбываў тэрмін. Таму я яго і не шукаў. Некалькі год таму мінскі сябра даслаў мне газету “За радзіму”, у якой была публікацыя пра Л.Шпакоўскага і яго фатаздымак. Гаворка йшла аб тым, што чалавек рэабілітаваны. Што здарылася, – не ведаю. Адраса не меў, каб напісаць. А вось цяпер новая вестка. Дзякую табе, Мікалай!”*

Пазней гукнулася яшчэ Вера Хадасевіч з таго ж выпуска. Паміж Міхаілам Рыгоравічам і яго аднакурснікамі завязалася ліставанне. Яны, асабліва Леў, запрашалі яго наведаць Беларусь. Запрашэнні добра клаліся на даўнюю мару дзядзькі. І нарэшце, нягледзячы на праблемы са здароўем, ён адважыўся.

Шчымлівы тыдзень сустрэч з роднымі, з якімі доўгі час не бачыўся і не перапісваўся. Сваяк з машынай парупіўся, каб павазіць яго да ўсіх, каго хацеў пабачыць. Родную вёску не наведаў, бо яе ўжо не было, “неперспектыўнай” стала. І нават да той зямелькі, дзе вёска стаяла, ужо не даехаць. Хіба на трактары. Але заехалі на старыя лясныя могілкі, дзе пакояцца шмат хто з сваякоў і знаёмых. Заставаўся дзень, які дзядзька запланаваў на візіт у Салігорск.

Перад ад’ездам сядзелі, абедалі.

– Паразмаўляй са мной па-беларуску, – папрасіў дзядзька.

Такая просьба Мікалая крыху збянтэжыла. Роднай мовай ён гадоў восем як не карыстаўся і яна паступова забывалася. У інстытуце праводзіў заняткі і чытаў лекцыі на мове “правільнай” і з другасным станам роднай мовы не тое, каб пагадзіўся, але прымаў гэта як сумную непазбежнасць. Лічыў, што яна заслугоўвае таго, каб памерці з гонарам, і таму яго істотна раздражнялі і выводзілі з раўнавагі спробы нейкіх падачак мове кшталту навязанай падпіскі на беларускамоўную газету ці продаж кніг з “нагрузкай” беларускім выданнем. Спрабаваў неяк пратэставаць, умешвацца, але прадаўшчыцы ў кнігарнях спасылаліся на загад зверху, загад, у якога не было аўтара, і таму – страляй далей у неба. Паступова паастыў. І мова жыла ў закутках яго памяці хіба што некалькімі

вершамі любімага Багдановіча ці ўрыўкамі з вершаў іншых класікаў.

– Раскажы, як жывеш. Як у цябе ў інстытуце?

Пачаў распавядаць, акуратна падбіраючы беларускія словы. Дзядзька імкнуўся падтрымліваць гаворку на той жа мове. У яго гэта атрымоўвалася не нашмат горш, чым у Мікалая. Але, пабачыўшы, што Мікалай час ад часу робіць паўзы, каб успомніць патрэбнае слова, спыніў яго:

– Добра, пераходзь на рускую. А то мы так мала пра што пагаворым. Мне ж хутка ехаць. Я заўважыў, што нашай мовы амаль не засталося ў людзей...

І тады Мікалай сказаў:

– Давайце, я лепш пачытаю вам вершы нашай мовай.

І пачаў:

– Даўно ўжо целам я хварэю і хвор душой...

Схамянуўся, што не пры дзядзьку б гучаць тым словам, але, што рабіць, яны ўжо вырваліся, і праз невялікую замінку працягваў:

– І толькі на цябе надзея, край родны мой...

Скончыў, паглядзеў на дзядзьку. Той сядзеў задумёны, але ў вачах яго Мікалай не ўбачыў болю. Вочы былі светлымі.

– Гэта, здаецца, Багдановіч?

– Так, ён, Максім Багдановіч.

– Яго мара, калі я правільна помню, не здзейснілася. Ён пахаваны не на роднай зямлі?

– У Ялце. Не паспеў, не здолеў вярнуцца на радзіму. Хвароба не дала.

– Шчэ што з яго ведаеш?

Мікалай прачытаў “Слуцкія ткачыхі”.

Дзядзька ўстаў:

– Дзякуй табе. Але трэба збірацца. Хутка аўтобус.

Памаўчаў. І дадаў:

– Можа, Багдановічы ўсё ж уратуюць Беларусь.

Множны лік збянтэжыў Мікалая. І словы неяк зачапіліся за яго памяць. “Багдановічы ўратуюць”. Дзе тыя Багдановічы сёння?

Праз месяц з Вужгарада дайшла сумная вестка: дзядзькі Мішы не стала.

Ён так і застаўся ў памяці Мікалая з апошнім жаданнем: “паразмаўляй са мной па-беларуску…”

Ужо значна пазней, калі СССР знік з глобуса і сродкі інфармацыі поўніліся звесткамі раней закрытымі і таму невядомымі, Мікола змог усвядоміць той дзядзькаў расповед пра мовы. Наяўнасць розных нацый, народнасцяў не падабалася высокаму камуністычнаму апарату, турбавала рознагалоссе ў краіне. Хацелася з усіх гэтых малых і вялікіх народаў стварыць адзін – вялікі савецкі! – народ. Народ, у якім усе жывуць па адных правілах, маюць аднолькавыя традыцыі, размаўляюць адной мовай. І пачалося перамешванне народаў. Выпускніка Саратаўскага інжынернага факультэта размяркоўвалі ў Казахстан, а казаха – у Латвію. Адбываць вайсковую службу таджыка пасылалі ў Арменію, а каракалпака – у Беларусь, дзе той вымушаны быў карыстацца не сваёй роднай мовай, а засвойваць “правільную”. Тое ж было і з партыйнымі апаратчыкамі, як з дзядзькам Мішам.

Украінцаў, “нацыяналістаў”, якія ўпарта трымаліся сваёй мовы, сваіх звычак-традыцый, галадаморам прымусілі выміраць або перасяляцца ў іншыя месцы. Яны ўрэшце адказалі вайной супраць камуністаў пад кіраўніцтвам Сцяпана Бандэры. Тую вайну бандэраўцы прайгралі, але імкненне вырвацца з драпежных лап савецкага камунізму ў жыхароў краіны засталося.

А шмат якія меншыя народы даволі груба і з вялікімі для іх стратамі пераселеныя пасля другой усясветнай вайны на іншыя тэрыторыі ў якасці пакарання за іх “здраду”.

Не ўлічылі перамешвальнікі, што заплаваны працэс патрабуе немалога часу, якога ў іх не было. І пачварны план праваліўся. Праваліўся разам з выродлівым дзяржаўным стварэннем, імя якому СССР.

2019

# СТРАТА

*Сумуючы аб сябрах новых,*
*Сабе, нібыта пабраціма,*
*З чыіхсьці лбоў, такіх дубовых,*
*Я высякаю Бураціна.*

Мікола пачухаў патыліцу. “Ну вось, заслужыў!” Сумна ўсміхнуўся: а й сапраўды заслужыў.

Некалі ў газеце “Советская Белоруссия” ён прачытаў пра дзяўчыну Вольгу Дземеш з Лагойшчыны, з маленства прыкутую да ложка; адзінай яе радасцю бываюць чыесьці лісты, якія даюць ёй сувязь з светам, што дазваляе адчуваць сябе неяк далучанай да яго. Карэспандэнтка прасіла: напішыце ёй! І ён адгукнуўся. Завязалася перапіска.

А праз некаторы час прышоў ліст ад другой дзяўчыны. Людміла Сакавіцкая з вёскі Цюхневічы Заходняга Палесся таксама была, як кажуць, з абмежаванымі магчымасцямі, хаця варта зазначыць, што іншыя проста сваіх магчымасцяў яшчэ не ўсвядомілі. У адрозненне ад Вольгі, якая ў свае 18 год была наіўным дзіцём па разважаннях і інтарэсах, Людміла валодала і вострым розумам і душэўнымі вартасцямі. А яго заўсёды вабілі жанчыны не толькі і нават не столькі прыгажосцю, колькі розумам. Чамусьці разумных жанчын ён сустракаў радзей, чым разумных мужчын, хаця і выкладаў у педагагічным інстытуце, дзе жанчын сярод выкладчыкаў было болей, а сярод студэнтаў хлопцаў увогуле было па 2-3 на групу. Таму кожную жанчыну, дзяўчыну, якая выяўляла прыкметны для яго розум, ён успрымаў як перліну і шчыра радаваўся такой знаходцы.

Вось і тут не адмовіўся ад эпісталярных кантактаў.

*27 кастрычніка 1983*

*… прабачце маю цікаўнасць, якая натхніла на гэты ліст, не палічыце яе пустой. Пра вас я даведалася ад Вольгі Дземеш. Яна*

*распавядала мне пра людзей, што пачалі пісаць ёй пасля публікацыі ў “СБ” (сярод гэтых карэспандэнтаў аказалася і я). Расказала і пра вас.*

*Што прымусіла вас адгукнуцца на чужую бяду, чалавека паспяховага, ці не так? Прынамсі здаровага. Ведаю, што большасць паспяховых людзей даволі абыякавыя да няшчасцяў іншых. Дый увогуле, на мой погляд, людзі мала здольныя да навукі дабрыні і супакутвання, за выключэннем мацярок натуральна ж. І кожны выпадак, які паказвае адваротнае, прымушае задумацца, а можа нават і засумнявацца ў падобных уяўленнях.*

*Здаецца, мы з вамі амаль раўналеткі. Але я не ўпэўнена, што, выпадзі мне іншы лёс, я напісала б Вользе. Чаму? Я не добрая, не спагадлівая? Нібыта ж не. А вось жа думаю так. Лічу, што пачуць крык пакутлівай душы, адгукнуцца на яго і прыйсці на дапамогу здольная такая ж пакутлівая душа. Або надзеленая рэдкім талентам дабрыні. Я пераўвялічваю? Не?*

*Мы з Вольгай людзі аднолькавага лёсу, хаця розныя хваробы ўзялі нас у палон адзіноты і ў розны час. Яе з самага маленства, мяне пазней, у юнацтве, пакінуўшы, як пакаранне, памяць пра сябе здаровую, лёгкую, нястомную. Доўгі час мне было дастаткова кніг і самых блізкіх сяброў, іх клопатаў, трывог, інтарэсаў. Было ўсведамленне ўласнай небескарыснасці, якое істотна падтрымлівала. З цягам часу гэтае адчуванне перастала здавацца несумненным. Кантакты з іншымі людзьмі сталі моцнай, незаменнай нічым патрэбай. І Вольга прапанавала мне напісаць вам…*

Тады ён пагадзіўся з ёю: будзь ён сам звычайным здаровым чалавекам, можа, і не адгукнуўся б на заклік у “СБ”. Хаця яго калецтва – кульгавасць пасля траўмы ў далёкім дзяцінстве – непараўнальнае з праблемамі Вольгі ці Людмілы, але й гэтага хапае, каб вастрэй адчуваць боль, не толькі фізічны, іншых людзей.

*28 лістапада 1983*

*… Ваш ліст заспеў мяне ў перадад’ездных клопатах, таму адказ адклала да больш спакойных часоў. Праўда, у бальнічнай палаце, дзе акрамя цябе яшчэ пяць чалавек, няпроста застацца сам-насам з сабой ці з уяўным суразмоўцам.*

*Ужо два тыдні я ў інстытуце траўматалогіі і артапедыі (БелНДІТА). Другі раз за год у гэтых сценах. Балюча і трывожна. Балюча фізічна (усё, што са мной робяць, надта балюча), трывожна з таго, што няма ўпэўненасці ў апраўданасці рызыкі, на якую іду. З’явіўся малюсенькі праменьчык у маёй непрагляднасці, мізэрная спадзяванка змяніць стан на лепшы – і я ўхапілася за яе, гатовая плаціць за гэта, здавалася, любым коштам. Выяўляецца – не, не любым.*

*Патрабаваць гарантый поспеху ў такой складанай і параўнальна новай справе, як аператыўнае лячэнне пры паліартрытах, мабыць, не варта, але разлічваць на адказныя адносіны да такой справы хочацца. А адносіны не натхняюць. І ўсё ж караскаюся далей. Магчыма, не дазваляюць спыніцца тыя крохі станоўчага, здабытыя паўгадовым зняволеннем тут, напружанасцю ўсіх сіл, ды дабрыня, спагадлівасць, супакутванне людзей, што былі побач і дзякуючы каму я адолела гэтыя жахлівыя паўгода. Шкада, што сярод спецыялістаў не знаходжу пакуль надзейнага партнёра, на каго можна было б разлічваць і каму верыць безагаворачна; без такога цеснага кантакта з урачом цяжка. Але, здаецца, назаўсёды мінуў час няспешных гутарак, немітуслівай увагі паміж людзьмі ўвогуле, паміж хворым і ўрачом у прыватнасці.*

*Нязгодная з тым, што толькі слабыя маюць патрэбу ў спачуванні, супакутаванні (вельмі добрае слова), гэта трэба кожнаму, асабліва тым, хто трапіў у бяду. Каму гэтага не хапае, упадае ў адчай. Ёсць катэгорыя людзей, так званыя прафесійныя ныцікі, я тут не пра іх, яны скардзяцца ў любых абставінах…*

*Радкі заскакалі. Пішу лёжачы. Нечакана ўсіх выселілі ў калідор, у аддзяленні труцяць тараканаў. У калідоры, звычайна пус-*

*тым і ціхім, стала людна і шумна: хворыя на мыліцах, на вазках, дактары, наведвальнікі. Адным словам, Вавілон.*

*Развітваюся…*

Лячэнне, балючыя аперацыі ды іншыя працэдуры сталічнай лячэбніцы мала дапамаглі дзяўчыне. Агорнутая роспаччу, яна прыпыніла ліставанне, каб не выплёхваць крыўды і скаргі. Потым яно аднавілася.

*9 чэрвеня 1987*

*Добры вечар! Вечар такі, што хочацца падзяліцца. Духмяны ад квецені бэзу, рабіны, каштана, крыху сумны ад паху маладога сена.*

*Толькі што прыплялася з працы, апіраючыся на любімую кульбаку і пад руку з мамай. Падалося, што йшла больш прыстойна, чым звычайна. Уладкавалася на ганку, на “троне” і пішу вам, каб падзякаваць за Дастаеўскага (яго цяжкая праўда пра чалавека даводзіць мяне да маркоты) і адзначыць, што ваша падазрэнне наконт таго, што чытанне сярод маіх заняткаў не на апошнім месцы, праўдзівае толькі часткова. Апошнія гады чытаю мала. І некалі, і нечага.*

*Зімой у Менску прачытала з нашумелага “Плаху” Айтматава і “Самотны дэтэктыў” Астаф’ева, а дома ў часопісе “Новый мир” “Апошнюю пастараль” Адамовіча і “Замах на міражы” Цендракова. Старэю, станаўлюся пераборлівай і не цікаўнай, прынамсі наконт чытання.*

*Ціха! Салавей! Здаецца, на ліпе. Хараство! Чуеце?!..*

*27 ліпеня 1987*

*Дзякую за Алана Маршала (“Я умею прыгать через лужи”). Прачытала з задавальненнем. Тэлефільм у свой час падзейнічаў на мяне даволі тужліва. Не магла адвязацца ад думкі: як Яму цяжка, як смяртэльна стамляецца Ён, спрабуючы на сваіх мыліцах утрымацца нароўні з здаровымі. Асабліва ў дарослым жыцці. Тут не толькі фізічна, маральна вельмі цяжка. І выбару няма.*

*Зрабіць сабе палёгку, пашкадаваць сябе, нічога не хацець, апраўдваючыся (маўляў, немагчыма), яшчэ цяжэй. Было такое адчуванне – не трэба пра такія рэчы здымаць і паказваць. Кніга – больш прыймальная форма для такога роду гісторый.*

*Бацька ў кнізе мне спадабаўся таксама. Для мяне гэта балючая тэма – бацька. Усё жыццё мне яго не хапае. Нібыта і не пустое гэтае месца ў доме, але падтрымкі, абароны ад яго не было і няма. Наадварот… Але не варта пра гэта.*

*Сёння нарэшце па-ліпеньскі цёпла, ласкава, духмяна. У абедзенны перапынак, а гэта цэлых тры гадзіны, павалакуся да загаральнага тапчана, змайстраванага паміж кустоў парэчкі, маліны і крапівы. Два тыдні туды не заглядвала з-за надвор'я. Нарэшце пазагараю, ягад паклюю.*

*Вельмі хочацца на мора, да сапраўднага цяпла, нават гарачыні. Каб сонца, каб гарачы пясок пад нагамі, на якім застаюцца – што за цуд! – сляды тваіх ног. Летась, калі я ўпершыню пасля шматгадовай паўзы гэта ўбачыла на пляжы ляснога возера, не стрымала эмоцый…*

*Вось я зноў на сваім гандлёвым пасту. Пяць гадзін надвячорку. Да сямі буду прадаваць мясцовым пенсіянеркам хлеб і карамелькі, воцат,ількі ды іншую ўсячыну. Пакупнікоў няшмат. У трыццаці хатах жывуць хіба што пяцьдзясят чалавек. І гэтыя апошнія дажылі да небывалага сэрвісу – з вясны адкрылі гандлёвы пункт у злёгку адрамантаванай хаце майго дзеда, якая даўно пустуе. Мяне ўламалі ўзяць на сябе гандлёвую справу. Неяк спраўляюся з мамінай дапамогай.*

Пра што ж ён пісаў ёй? Пра кнігі, якія чытаў, пра свайго бацьку, якога не ведаў, бо памёр праз год, як Мікола нарадзіўся. Ухваліў яе амаль літаратурна правільную мову. Неяк падзяліўся з ёй сваёй формулай шчасця. Дзеля жарту, зразумела. Але й не зусім.

Аднойчы ў газеце прачытаў ліст чалавека, які нібыта адкрыў формулу шчасця: дома радасць – прыгожая разумная жонка і двое мілых дзетак, і праца прыносіць задавальненне. З прыемна-

сцю ідзе на працу, з радасцю спяшаецца з працы дадому – што яшчэ трэба для шчасця!

Формула не новая. Яе раней сфармуляваў турэцкі камуніст Назым Хікмет. Але чалавек, не ведаючы пра Хікмета, вынайшаў яе сам.

Чытачы газеты ўспрынялі формулу досыць крытычна: маўляў, тут шчасце для сябе, а дзе ж пра радзіму, пра мір ва ўсім свеце? Адпрэчылі формулу.

Мікола тады ўсміхнуўся: вось, не будзеш шчасце ў формулы ўціскаць! Але да тэмы яго вярнулі студэнткі групы, дзе ён быў куратарам. Недзе вычыталі верш Э.Асадава:

“А счастье, по-моему, просто

Бывает разного роста…”

І прычапіліся: чым можна вымераць “рост” шчасця? Да дваццаці год пытанні пра шчасце яшчэ хвалююць. Яно і сапраўды бывае розным. А чым вымераць? Ён тады не знайшоў што адказаць дзяўчатам. Але пытанне засталося. Прымерваў розныя адказы на яго. Нарэшце спыніўся на адным.

Шчасце чалавека можна вымяра́ць колькасцю людзей, якім гэты чалавек патрэбен. Патрэбен не сваёй пасадай, не магчымасцямі папаўнення дабрабыту, а патрэбен незалежна ад свайго стану, сувязяў, магчымасцяў.

Шчаслівая маці, якая нарадзіла дзіця, бо ёсць чалавек, якому яна патрэбная. Больш шчаслівая маці, у якой двое, трое дзяцей. Шчаслівы чалавек, які знайшоў сябра. Больш шчаслівы чалавек, у якога шмат сяброў. Вялікае шчасце пісьменніка, мастака, кампазітара, ён становіцца неабходным не толькі сваім сучаснікам, але і наступным пакаленням…

Газета надрукавала водгук Міколы. І ніхто з чытачоў гэтую “формулу” не адпрэчыў. Адпрэчыў ён яе сам, калі зразумеў пазней, што можаш быць неабходным тысячам людзей, але ёсць адзін чалавек, якому ты хацеў бы быць патрэбным, але аказваешся не патрэбным, – і ўсё тваё шчасце абрушваецца ў момант.

*30 кастрычніка 1987*

*Добры вечар! Апраўданне доўгай паўзы адно – не пісалася. Была раскудлачаная, растрапаная да нельга. Давялося перавarушыць (у які ўжо раз) кучу абломкаў, каторыя і ёсць я, у марных спадзяваннях знайсці сярод іх нешта, здольнае прынесці заспакаенне  чалавеку, які не стамляецца два гады трызніць “ты мне патрэбная”. Па вашай формуле шчасця я павінна б упівацца ім. А я п’ю гарчэйшую, аж іскры ў слёзах, помесь віны нямаведама за што і ўсведамлення ўласнай недарэчнасці.*

*Непрыкметна прайшла мая любімая восень. Апошнія яе кроплі зацвердзявалі празрыстымі льдзінкамі, гатовымі вырасці ў аграмадныя камлыгі холаду, у нелюбімую зіму. А яна як заляжа на паўгода – не пераляжыць. Даўно я не зімавала ў вёсцы. З’язджала то ў родны прыстанак па імені БелНДІТА, то да сястры ў Баранавічы. Зіма сціскалася, скарочвалася ад гэтых пераездаў. Цяпер не ведаю як будзе. Ці таптаць па снезе сцяжынкі да гандлёвай кропкі, ці, пакінуўшы яе (шкада бабуль), перабірацца да сястры, каб паслужыць маральнай падпоркай яе дачцэ, васьмікласніцы. Зараз яна засталася па сутнасці сама-насам з сваімі праблемамі, неладамі з матэматыкай. Маці дапазна на працы, бацьку мабілізавалі ў Чарнобыль. Буду хаця б я побач. Трэба думаць, як праясніць гэтыя справы з матэматыкай. Ці шукаць рэпетытара, каб праз апорныя сігналы вывеў да святла. У класе змяняюцца настаўнікі матэматыкі ці не кожны год, а паслядоўнікаў Шаталава нешта не чуваць…*

*Пакуль пісала, засутонела. Крэслю наўздагад. Не хочу запальваць святло. Закончу і пасяджу з заходам. Палае ў паўнеба. Люблю вечар. А вы?*

*Дабранач!*

Адказ на гэты ліст пісаўся доўга. Хацелася напісаць ёй нешта добрае і разумнае, але патрэбныя словы знаходзіліся няпроста. Некалькі аркушаў выкінуў, адзін з чарнавікоў захаваў. Чарнавікі адпраўленых лістоў здараліся рэдка. Часцей пісаў “набела” і ад-

сылаў не перапісваючы. Хіба што мог выправіць два-тры словы. А тут, бач, некалькі аркушаў сапсаваў…

*8 лістапада 1987*

*Прачытаў ваш ліст і ўспомніў даўняга знаёмага. Пазнаёміўся з ім у сухотнай санаторыі, дзе абодва праходзілі прафілактычнае лячэнне. Агульныя хваробы таксама збліжаюць.*

*Яго жыццё склалася на рэдкасць удала. Знайшоў жонку, з якой жывуць душа ў душу, трое дзетак, на якіх не нарадуюцца. Працуе слесарам-наладчыкам на торфабрыкетным заводзе. Праца падабаецца. Кажа: “Я на заводзе важнейшы за дырэктара”. Зарабляе прыстойна. Здавалася б, аб чым тужыць? Але аднойчы прарвалася: “Мы з табой асобны клас – клас інвалідаў.” – “Чаго табе не хапае?” – здзівіўся я.*

*Вось парадокс: нібыта жыве чалавек паўнавартасным нармальным жыццём і толькі адзін фізічны недахоп – кульгавасць – не дае яму адчування гэтай паўнавартаснасці. Нібыта ўсё гэтае цудоўнае жыццё – не яго. І за тое, што карыстаецца ім, ён нібыта перад кімсьці ў пазыцы. І з’яўляецца адчуванне нейкай сваёй віны. Невытлумачальнае і незнікальнае адчуванне. Мне яго было няцяжка зразумець, таму што і сам у нейкай меры не свабодны ад гэтага комплекса.*

*А ў вас, мяркую, падобнае праяўляецца яшчэ выразней. Адсюль гэтыя пакуты-сумненні-слёзы. А ў прынцыпе гэта ўсё “ганарыстасць бедняка”: лепш буду галадаць, чым карміцца ад стала “багатага” (у дадзеным выпадку – багатага здароўем).*

*Вось нібыта і разумееш, што чалавек складаецца не толькі з костак і мяса, што ёсць яшчэ розум і душа і што ўсё гэтае трыадзінае (цела-розум-душа) змацавана шматлікімі нябачнымі ніцямі-сувязямі і падтрымліваць гэты складанейшы “механізм” у поўным парадку неймаверна цяжка. Надзвычай рэдка сустракаюцца людзі з цалкам здаровымі целам, розумам і душой. Але калі людзі, у якіх розум-інвалід ці душа-інвалід, здольныя зладзіць жыццё, у якім яны па-свойму шчаслівыя, то чаму б не*

*імкнуцца да гэтага людзям, у якіх цела-інвалід, кшталту нас з вамі.*

*Душа ў вас, Люда, чыстая, гэта і без акуляраў бачна. І розумам Бог не пакрыўдзіў. А можа, таго чалавека менавіта гэта ў вас і вабіць. Вабіць настолькі, што іншыя недахопы ён гатовы не заўважаць. Зычачы яму лепшай долі, вы адштурхнеце яго і ён сыйдзе (калі сыйдзе) да іншай – той, якая здаравейшая целам, але бяднейшая ўсім іншым. Ці прынясе гэта яму шчасце?*

*Я не гатовы і не хачу даваць вам парады. Дый дзе той чалавек, які мог бы тут што-небудзь параіць? Проста мне хочацца, каб іншы варыянт вы не лічылі для сябе немагчымым. Канчаткова затушыць свае сумненні вам усё адно не ўдасца, але, можа, атрымаецца неяк прыглушыць, пераступіць праз іх. У любым (у любым!) выпадку вас могуць чакаць і шчасце, і няшчасце, але выбар некалі прыдзецца зрабіць.*

*17 лістапада 1987*

*Дзякую за ліст, Коля! Атрымала яго, калі яшчэ дыміліся галавешкі ад вогнішча, якое развялі, як у той песні, два адзіноцтвы, накідаўшы ў яго сырое суччa сваіх надзей і жаданняў… Ад дыма і слёзы…*

*Ліст падтрымаў мяне, хаця наўрад ці змагу патлумачыць чым. Адкрылася, што Нехта, як і я, разважае аб праве на шчасце, аб тым, што комплексы трэба перамагаць ці хаця б спрабаваць пераступіць праз іх. Як гэта ўсё блізка мне, як зразумела. Але ў маім "гарбатым" выпадку, каб пераступіць, трэба верыць у іншага чалавека моцна, магчыма, нават болей, чым у сябе. Я вельмі хацела б дацягнуцца да такой веры, але няма за што ўхапіцца. Куды глядзець, каб не бачыць, наколькі слабы мой Варажскі Госць для той жыццёвай ролі, якую сабе прымярае. Яму я патрэбна. Гэта дакладна, без фальшы. Яшчэ лепей бы – такая, як я, без абцяжарвальных абставін. Справа не толькі ў фізічных недахопах. Ён іх не заўважае. Звыкся, напэўна. А прытым не заўважае, як шмат мне патрэбна ад яго, нашмат болей, чым ён гатовы аддаць добраахвотна.*

*Ведаеце, ганарыстасць бедняка не толькі ўскладняе жыццё, яна яшчэ ратуе ад таго, каб не апусціцца да папрашайніцтва ці з галадухі не пачаць хапаць тое, што кепска ляжыць.*

*Выбачайце, што зноў рассыпала перад вамі сваё проса. З гэтым немагчыма справіцца. Гэтым жыву зараз, аддзяляючы зерне ад попелу. Не звяртайце ўвагі.*

*Мне натужна даваўся сённяшні ліст. Пачынаючы, ведала цвёрда толькі адно: трэба сказаць Яму, што Ён зрабіў добрую справу, патрывожыўшы асадку і паперу 8 лістапада.*

*Сказала. Праўда, не вельмі чыста выканана. Бывае.*

*Усяго добрага!*

Канчатак ліста яго збянтэжыў. Хто гэты Ён? – ён адразу здагадаўся, але ўсё ж дастаў чарнавік, каб зверыць дату. Там было пазначана “8.11”. Мікола задумаўся. Вялікая Ё парушала раўнавагу ў стасунках між імі. Да таго ж, зварот: упершыню “Коля”. Раней было “Мікалай” і па бацьку ці без бацькі або жартаўліва-іранічнае “шаноўны пан”. А тут – Коля, Ён. Яму адчулася, што пачынаецца нешта іншае, чым звычайнае сяброўства. І калі адчуванне не хлусіць, тады што? Тут нават не істотна, што яго сэрца занятае, бо калі ты не можаш адгукнуцца на пачуцці, то не замінай камусьці праяўляць іх да цябе. Магчыма, гэтаму чалавеку тыя высокія пачуцці, нават без адказу, даюць радасць жыцця, тую радасць, якая ўздымае яго-яе па-над сумным бытам, па-над будзённымі клопатамі, па-над агрэсіяй жорсткай рэальнасці. І такое варта б прыняць. Але ўжо чуецца голас Экзюперы: ты адказны за таго, каго прыручыў.

Ах, Антуан, Антуан! Палохаеш ты людзей сваім папярэджаннем. Слова “адказнасць” людзі баяцца. Быць адказнымі асцерагаюцца. Да таго ж, у сяброўстве, у каханні гэтае слова зусім не падыходзіць.

Прыручыць можа дужы слабейшага. І тады гэта апека, а не сяброўства. Тут можна казаць пра адказнасць. А ў сяброўстве людзі суіснуюць на роўных.

Ранейшае сяброўства на адлегласці яго задавальняла. Размаўляючы з разумным чалавекам, сам наталяешся розумам. А да перахода да нечага больш блізкага, нават у такой далёкасці, ён не быў гатовы. Але як пра тое сказаць, каб не раніць?

У палоне блытаных, сумятлівых думак ён напісаў нешта няўцямнае, дадаўшы, што, магчыма, яна не так яго зразумела. Хаця што там можна было не так зразумець?

*9 снежня 1987*

*Мяне не адпускае цікаўнасць наконт таго, што вы знайшлі "не так зразумелым" у апошніх нашых лістках. Што ў вашым лістападаўскім лістку я, магчыма, вытлумачыла не так? Мне ў ім пачулася дабрыня і спагадлівасць, што паспяхова прабіліся праз іншасказанні. Так я і імкнулася адгукнуцца. У мяне гэта не атрымалася? Калі вы, пры выпадку, праясніце сутнасць, мне прыдзецца абцяць завышаную самаацэнку адносна сваёй кемлівасці.*

*А пакуль усяго добрага.*

*Вось вам верас заміж пальмавай галінкі.*

У канверце ляжала засушаная галінка верасу. І дапісаныя тыя чатыры радкі пра Бурацiна. Нашмат пазней ён даведаўся, што радкі былі аўтарства Яўгена Еўтушэнкі. Мікола невысока цаніў чалавечыя вартасці паэта, але паэтычны дар яго прызнаваў.

Ён не пакрыўдзіўся на "дубовага Бурацiну". Наадварот, абрадаваўся. Бо лічыў, што вось так рэзка можна зрэагаваць на чалавека досыць блізкага, розуму якога давяраеш. І тым не менш, ранейшай цеплыні ў наступных лістах ужо не было. Ліставанне паступова перайшло ў абмен віншавальнымі паштоўкамі. Потым спынілася…

2020

# Я ТАКІМ НЕ СТАНУ…

***ліст да былога сябра***

Вітаю, Аляксей! Богам адведзены табе і мне час на зямлі заканчваецца. І ты, і я адзначылі свае 70-годдзі. Як сказаў мне некалі В.Шаталаў у свае 75, кожны дзень пасля сямідзесяці – як дарунак Божы. Надыходзіць пара падводзіць жыццёвыя вынікі...

Шмат вады сплыло з таго апошняга жнівеньскага дня, калі мы, пяцёра першакурснікаў педагагічнага інстытута, засяліліся ў інтэрнацкі пакойчык. Ты неяк выдзяляўся сярод нас, вясковых хлопцаў. Па-першае, ты вёў дзённік. А як мы тады разумелі, дзённік вядуць людзі знакамітыя, творчыя. І гэта неяк узвышала цябе ў нашых вачах. Па-другое, ты любіў паэзію і класічную музыку, што зноў жа для нас было пашанотна дзівосным.

Але паступова мы пачалі заўважаць, што гэтыя твае адметнасці як бы напаказ. Калі па радыё перадавалі класічную музыку, ты садзіўся каля прыёмніка і дэманстратыўна-ўнікнёна ўслухоўваўся ў тыя гукі. Нам было забаўна на тое глядзець. І пра дзённік ты сам нам распавёў; мы зразумелі, што табе хацелася, каб мы ведалі і паважліва ставіліся. Але наша першасная павага паступова перайшла ў іронію, хлопцы пачалі пацвельвацца, кпіць з цябе. Найбольш даставалася табе ад вострага на язык Валеркі.

Яшчэ болей нас забаўляла іншая твая адметнасць. Ты, адзіны з нас, варыў сабе супчыкі. Мы ўсе харчаваліся ў студэнцкай сталоўцы і скарыстоўвалі інтэрнацкую кухню адно дзеля таго, каб заварыць чай. Ты ж адзіны гаспадарыў на кухні як руплівая кухарка. Гэта зноў жа мы маглі зразумець і ўхвальна ставіцца і забаўлялі нас не супчыкі самі па сабе, а тое, што гэтымі супчыкамі ты частаваў тых, з кім табе хацелася пасябраваць. Ты сяброў прыкормліваў.

Урэшце ты не вытрымаў нашых кпінаў і перасяліўся ў іншы пакой інтэрната, дзе жылі студэнты ніжэйшых курсаў. Магчыма, хлопцы з таго пакоя менш дапякалі табе сваімі насмешкамі. Магчыма, і зусім не дапякалі, бо ты іх прыручыў іншым: матэматыч-

ныя навукі табе даваліся лягчэй і ты дапамагаў ім сваімі кансультацыямі.

Вучыўся ты старанна, гэта заўважалі выкладчыкі, і ў хуткім часе стаў набліжаным да Прафесара, пісаў у яго курсавыя, дыпломную. Твой лёс такім чынам даволі пэўна акрэсліваўся і мы не здзівіліся, калі па заканчэнні інстытута цябе пакінулі на кафедры. А мы раз’ехаліся ў розныя бакі, каб для вясковых дзетак сеяць разумнае, добрае, вечнае на матэматычным полі.

Нейкі час у нас з табой кантактаў не было…

Лёс круціў мяне ў розныя бакі. Я кідаў школу, потым вяртаўся… Нарэшце зразумеў дый нават адчуў, што настаўніцтва – гэта мая справа, і пачаў шукаць варыянты прафесійнага ўдасканальвання. Шукаць не ў кнігах, а ў жывой справе. Я шукаў цікавых настаўнікаў, якія дасягалі ў сваёй прафесіі адметных поспехаў. Нарэшце выйшаў на Віктара Шаталава, які мяне здзівіў і ўразіў. Я стаў папулярызатарам яго ідэй, выступаў перад настаўнікамі, пісаў у газетах. Гэтыя публікацыі ты заўважыў і прапанаваў Прафесару запрасіць мяне на кафедру. Я пагадзіўся неахвотна, бо пераезд з Мінска, дзе я ўжо абазначыўся як паспяховы настаўнік, у іншы горад не бачыўся годным абменам, але Прафесар знайшоў чым мяне прыманіць.

Так пачаўся новы этап нашага сяброўства.

На жаль, у Прафесара з Шаталавым з-за іх канфлікту ў прэсе стасункі не заладзіліся. Мне трэ было выбіраць. І я выбраў. Выбраў тое, што давала мне надзею на нешта маральна вартаснае ў той камуністычнай хлусні, якая апляла ўсю краіну і асабліва сістэму адукацыі. І ў нас з Прафесарам пачаўся разлад. Трэба аддаць яму належнае: ён выглядаў у гэтым разладзе годна, не апускаўся да подлых прыёмаў, якімі б расправіўся са мной проста і хутка. Ён мяне цярпеў. І нават паважаў, не грэбуючы спрэчкамі “на роўных” і на кафедры, і на факультэцкім семінары, і ў часопісе “Математика в школе”, і нават у моладзевай газеце “Знамя юности”. Ён усё спадзяваўся мяне “перавыхаваць”, перацягнуць на свой бок. Але я ўжо вызначыўся ў сваіх кірунках. Мне нават падавалася, што ён разумее і паважае мой выбар, але інэрцыя канфлікту пе-

рашкаджала яму прызнаць тое. Ціск на кафедру быў невялікі з яго боку, а значна большы з боку іншых прадстаўнікоў рэктарату, якім даставалася за тыя ці іншыя мае публікацыі ў прэсе або за лісты ў высокія інстанцыі.

Спачатку гэта не вельмі нервавала кафедру. Калегі нават з гумарком ставіліся да “Моські”, які ўзяўся пагаўкаць на “Слана”, гэтая спрэчка іх проста забаўляла. Ніхто і не збіраўся зазірнуць глыбей у сутнасць канфлікту. Ды гэтая сутнасць іх (і цябе ў тым ліку) не вельмі і цікавіла. Напачатку мяне гэта неяк бянтэжыла – усё ж кафедра метадычная і супрацоўнікі такой кафедры павінны б цікавіцца новымі метадычнымі ідэямі, але потым я прыняў гэта як непазбежную рэальнасць: людзей задавальняла методыка савецкай школы, адлюстраваная ў метадычных падручніках і ў сваіх, ужо абароненых дысертацыях, а разбірацца ў новым – толькі час губляць без гарантыі, што ён будзе згублены з карысцю.

Па вялікім рахунку табе было не да таго, бо ты пісаў дысертацыю. Тэма дысертацыі падалася мне дробязнай, але я шчыра зычыў табе паспяхова абараніцца і, чым мог, дапамагаў. Найперш дапамагаў сваёй друкаркай. У цябе не атрымлівалася друкаваць зусім без памылак, а патрабаванні былі такімі, што пры адной памылцы на старонцы трэ было перадрукоўваць усю старонку. Сёння на кампутары гэта зрабіць проста, але тады кампутараў не было. І сапсаваную старонку ты марудна, уважліва ўглядаючыся, перадрукоўваў чарговы раз.

Паглядзеўшы неяк на гэтыя твае пакуты, я прапанаваў дапамагчы табе ў гэтай справе. У мяне гэта атрымлівалася хутчэй, хаця ўсё адно забірала шмат часу, які мне патрабаваўся і на свае справы, бо акрамя падрыхтоўкі да заняткаў у інстытуце ў мяне быў эксперыментальны клас, да якога я рыхтаваў адмысловыя вучэбныя матэрыялы. Дый у інстытуце ты мне выдзеліў практыкум па развязванні матэматычных задач на пятым курсе, дзе гэты трохгадовы практыкум заканчваўся раздзелам “Задачы алімпіядныя, конкурсныя ды іншыя задачы павышанай цяжкасці”. І тое мне пасля працы ў васьмігодцы. Гэта як бы трактарыста пасадзілі за

стырно сучаснага МАЗа. Нічога, цярпеў і ўгрызаўся ў тыя задачы па начах, неяк адолеў той курс.

(Напісаў "ты мне выдзеліў", бо ўжо ў тыя гады Прафесар перадаручыў табе значную частку сваёй працы, мяркуючы, што ты і зоймеш некалі пасаду загадчыка кафедры.)

І я друкаваў, друкаваў твае старонкі. Яшчэ большыя праблемы з імі ўзніклі, калі дысертацыя трапіла ў рукі рэцэнзентаў. Заўвагі рэцэнзентаў абавязкова трэ было ўлічваць, г.зн. адпаведна выпраўляць частку тэксту. Але, каб не перадрукоўваць усю дысертацыю (а перадрукоўваць тыя сотні старонак давялося б некалькі разоў, бо кожны рэцэнзент патрабаваў свайго), трэ было так змяніць тэкст, каб ён заняў той жа аб'ём, і затым перадрукаваць без памылак змененую старонку. Я рэдагаваў і друкаваў.

Аднойчы ты, паглядзеўшы на маю працу, расчуліўся:

– Мікола, я табе так удзячны! Я абавязкова адзначу тваё прозвішча ў спісе тых, хто мне дапамагаў.

– Мне гэта не трэба.

– Не-не, адзначу і абавязкова памяну цябе ў сваёй прамове пры абароне. Гэта важна!

– Ну адзнач, калі лічыш гэта важным.

Я сапраўды не лічыў тую афіцыйную падзяку нейкай вартай увагі дзеяй, але мяне заінтрыгаваў адзін аспект: на той час мае стасункі з Прафесарам былі завостранымі і маё прозвішча пры тваёй абароне магло выклікаць яго лёгкае раздражненне. "Няўжо хопіць мужнасці?" – падумаў я. Не хапіла. У спісе памагатых майго прозвішча не было. І ў тваёй прамове пры абароне дысертацыі падзяка мне не прагучала. Пазней, праўда, падарыў мне аўтарэферат дысертацыі з надпісам "… в знак признательности за оказанную помощь".

Перад абаронай ты зайшоў да мяне, каб падзяліцца крыўдай:

– Ты ведаеш, ён нават не чытаў маёй дысертацыі!

Ён – гэта Прафесар, твой навуковы кіраўнік. Па вялікім рахунку, яму і чытаць не трэ было, бо ён і так ведаў, што ты там напісаў: нейкія кансультацыі ў вас былі, дый твае паведамленні на семінарах, канферэнцыях ён чуў. А калі браць глыбей, то ён і не

хацеў яе чытаць, бо не лічыў тваю працу навукова вартаснай. Я гэта зразумеў па некаторых яго рэпліках у розныя часы.

Дый я, перапісваючы старонкі, бачыў, што нічога цікавага для педагагічнай навукі і нічога патрэбнага для настаўнікаў там няма. Ты імкнуўся прыдаць дысертацыі навуковы выгляд, вывучыўшы матэматычную статыстыку і скарыстоўваючы яе ў падрахунках атрыманых “эксперыментальных” вынікаў. Але як для мяне ўся гэтая навуковая бачнасць была расцярушана адной фразай, якую мне давялося пачуць.

Неяк наша аднакурсніца Тамара, якая тады працавала ў школе і праводзіла твае “эксперыменты”, зайшла на кафедру і сказала:

– У мяне атрымалася 96 працэнтаў з дзясятымі. Табе хопіць?

Ты паморшчыўся:

– 96 мала. Трэба хаця б 98 ці лепш 99.

– Будзе табе 99. А хочаш, я зраблю 102?

Размова была нетаемнай, акрамя мяне яе чулі яшчэ некалькі чалавек, якія ўсміхнуліся з Тамарынага жарціка і забылі. А мне падумалася, што вось гэта і ёсць сутнасць так званых педагагічных эксперыментаў, не толькі тваіх.

Неяк мы размаўлялі з табой і я заўважыў:

– Вось ты абароніш дысертацыю па сваёй тэме і станеш спецыялістам у пытаннях гэтай тэмы, але табе выдадуць паперку кандыдата педагагічных навук, нібыта ты становішся аўтарытэтам ва ўсіх аспектах педагагічных навук і потым будзеш павучаць настаўнікаў з істотна большым, чым у цябе, досведам, станеш даваць глыбакадумныя парады такім, як я. Я шмат бачыў падобных ментараў.

– Не, – сказаў ты, – я такім не стану.

– Запомні гэтыя словы.

Паступова Прафесар перадаваў табе функцыі загадчыка кафедры і нарэшце зрабіў цябе загадчыкам сапраўдным, пакінуўшы сабе абавязкі прарэктара па навуцы.

Я працягваў “цешыць” калег сваімі выступамі, публікацыямі ў газетах, ліставаннем з інстанцыямі. Рэктарат гэта раздражняла ўсё

болей. Найвышэйшага градуса гэтае раздражненне дасягнула ў 1983 годзе. Не стала Брэжнева, і ў краіне сталі адчувацца подыхі нейкай вольнасці. Вясной таго года нашу кафедру паслалі ў К…скі раён праводзіць кантрольны зрэз па матэматыцы ў выпускных класах па тэкстах міністэрства. Мы ехалі ў аўтобусе і размаўлялі: вось, зноў раздадзім варыянты з заданнямі, а самі адвернемся, каб не бачыць, як вучні спісваюць і як настаўнікі ім дапамагаюць, бо трэба прывезці прыстойныя вынікі. “А калі не адвернемся?! – прапанаваў нехта. – А чаму б нам не прывезці праўдзівыя вынікі?” Думка спадабалася. Сапраўды, хлусня на розных узроўнях абрыдла настолькі, што востра хацелася чаго-небудзь, хаця б маленькага, але без хлусні. Дамовіліся, што прывязем вынікі як ёсць. Трэба ж некалі пачынаць жыць па праўдзе.

Не ўсе зрабілі, як дамовіліся, тым не менш вынікі атрымаліся “неўрачыстымі”. Ты перадаў мне ўсе працы, каб я абагульніў тое, што атрымалася. Я абагульніў і тое абагульненае скарыстаў у артыкуле для “Известий”. Яго надрукавалі даволі хутка пад рубрыкай “Праблема”, мне прыслалі ганарар, амаль роўны маёй месячнай зарплаце. З боку партыйных органаў (мабыць, самых высокіх) рэктар і першы прарэктар атрымалі даволі адчувальны наганяй. Іх шалёныя позіркі ў мой бок і шыпенне праз зубы прадракалі мне шматлікія непрыемнасці. Я рыхтаваўся да горшага.

І вось прыйшоў час майго перавыбрання. Кафедра пагудзела, паўпікала, ды ўсё ж рэкамендацыю дала. Тое ж было і на пасяджэнні конкурснай камісіі. Але таемнае галасаванне рады інстытута мела вынік 14:16 не на маю карысць. Паколькі я ўжо быў амаль гатовы да такога выніку, я не стаў бы торгацца, а паехаў у якую школу працягваць свае настаўніцкія пошукі. Але пасяджэнне вучонай рады па маім пытанні было праведзена ў настолькі абразлівай форме, што я завёўся. Юрыдычна недасведчаны рэктар дапусціў пару памылак, якія я актыўна скарыстаў на сваю карысць. І адбылося тое, што карэспандэнтка “Известий”, якая потым прыехала ў наш горад разбірацца з маім пытаннем, назвала “адзіным падобным выпадкам у гісторыі СССР”: таемнае галасаванне вучонай рады інстытута было адменена і прызначана

новая дата майго перавыбрання. Яно прайшло праз паўгода і скончылася з амаль такім жа вынікам, але ўжо на маю карысць.

Я застаўся на кафедры, не зніжаючы актыўнасці журналісцкай і эпісталярнай, якая працягвала нерваваць “макаўку” інстытута. Ты ўжо загадваў кафедрай і таму ціск адтуль быў на цябе. Пэўны час ты трымаўся, але ўсё ж яны цябе дапяклі і ты неяк выпаліў:

– Што ты носішся з сваім Шаталавым як з пісанай торбай?!

І я зразумеў: ты ўжо кандыдат, дацэнт, загадчык, ты дасягнуў пэўных кар’ерных вышынь – і зараз табе хочацца спакойнага жыцця, якому мая дзейнасць перашкаджае. Ты спыніўся ў сваім развіцці, і чалавечым, і прафесійным. Раз-пораз я заікаўся аб сумніўнай маральнасці некаторых тваіх учынкаў, і ты адказваў: “Мне трэба карміць сям’ю!” Гэтым клопатам ты прыкрываў загніванне сваёй душы. Як ты сказаў, музыку і паэзію дагэтуль любіш, але часу на іх няма, а той студэнцкі дзённік даўно парваў і выкінуў. Ты перастаў аглядвацца на сябе, перастаў чысціць сваё сумленне і ўрэшце перастаў разумець ці адчуваць, што твае паводзіны набываюць налёт амаральнасці.

Аднойчы я задумаўся: у тыя даўнія часы, калі ты пісаў дзённік, слухаў класічную музыку, чытаў вершы, ці быў ты такім? Гэта ў цябе ад нараджэння? Ці гэта некалі з’явілася, у нейкім жыццёвым працэсе? Магчыма, ты зламаўся тады, калі наша аднакурсніца Ларыса адхінула твае заляцанні. Здаецца, гэта было тваім першым каханнем. Яно, як гэта часта бывае з першым светлым пачуццем, не адпускала, вярэдзіла душу. Я заўважаў гэтыя твае пакуты і спачуваў табе. І далей ты, ужо будучы выкладчыкам, ажаніўся з сваёй студэнткай, ажаніўся не па каханні, а таму што “так трэба было”. Мне даводзілася чуць яе рэплікі, намёкі, што ў адказ на сваю згоду яна чакае ад цябе забяспечанага жыцця. Ты быў ёй як бы абавязаны. І, каб выканаць гэты абавязак, пачаў прыглушаць сумленне.

Успамінаецца адзін характэрны эпізод. У інстытуце, як і паўсюль у СССР, праводзілася сацыялістычнае спаборніцтва. Звычайна ў кожнай структурнай адзінцы інстытута галасаваннем на сходзе прафсаюзнай арганізацыі вызначалі пераможцаў. Імі ста-

навіліся амаль заўсёды тыя, каго прапаноўваў кіраўнік гэтай структурнай адзінкі. Але на гэты раз, на хвалі новых вольнасцяў вырашылі ўдасканаліць схему: кожная дзея супрацоўніка ацэньвалася пэўнай колькасцю балаў і пераможца павінен быў вызначаны па суме балаў незалежна ад волі вышэйшых асоб. Я пагледзеў тое, за што налічваліся балы, і заўважыў, што самыя вялікія балы даваліся за чытанне лекцый за межамі нашага горада і яшчэ большыя – за лекцыі за межамі Беларусі, і зразумеў, што ў мяне ёсць вялікі шанц стаць пераможцам, бо ў другой палове 80-х я шмат ездзіў па прасторах Саюза з лекцыямі і трохдзённымі семінарамі па методыцы Шаталава (тады гэта ўсім раптам стала цікава!), а ў Мінску пачалася эксперыментальная праца настаўнікаў па засваенні гэтай методыкі, кіраваць якой запрасілі мяне.

І вось аднойчы я вярнуўся з Казахстана, дзе тыдзень у двух гарадах праводзіў свае семінары, і даведаўся, што на кафедры падведзены вынікі сацспаборніцтва. Пераможцам прызнаны кіраўнік кафедры.

– Як так? – здзівіўся я. – Хіба ў яго балаў болей, чым у мяне?

– Ды хто тыя балы лічыць! – адрэзала прафсаюзная дама.

– Як хто! Вы і лічыце. Вазьміце свой сшытак з запісамі і падлічыце.

– Вашу кандыдатуру не зацвердзілі б у прафкаме інстытута.

– А як яны могуць не зацвердзіць? Схему з баламі яны самі распрацавалі, няхай выконваюць.

– Ну ўсё адно, мы дакументы ўжо падалі, мяняць не будзем.

Тады я звярнуўся да цябе, папярэдзіўшы пра сваю гатоўнасць узняць скандал. Ты разумеў, што скандалы я магу ўздымаць гучныя, што было, тое было, а тут яшчэ ўсё гэта звязана з тваім прозвішчам (пераможца-самазванец!) і… паперку, пададзеную ў прафкам, усё ж замяніў. У маёй працоўнай кніжцы з’явіўся – першы і адзіны! – запіс з падзякай. Ты не разумеў, што азначаў той запіс для чалавека, які ад высокага начальства атрымліваў толькі тумакі ды вымовы. Ты больш думаў пра сябе, ты засцерагаўся, каб маім прозвішчам не раздражніць чарговы раз рэктара. Уяў-

ляю, з якім кіслым выразам твару пісаў рэктар той загад з падзякай мне. Але пісаць вымушаны быў.

Пазней ты распавядаў мне, як актыўна абараняў перад рэктарам маё права на такую падзяку. Я не стаў табе дзякаваць, бо не лічыў, што ты зрабіў нешта надзвычайнае.

І зноў падумаў пра цябе: няўжо ты перастаў разумець, перастаў адчуваць, наколькі амаральнымі былі твае паводзіны ў гэтай сітуацыі?

І вось мы дажылі да твайго 50-годдзя. Мне захацелася павіншаваць цябе вершаванымі радкамі. І я пачаў…

*Юнацтва восеньскі лісток,*
*Віхурамі жыцця сарваны,*
*Нясе нязведаны паток*
*Па лініі наканаванай…*

І раптам мяне павяло туды, куды я не збіраўся:

*Бягуць гады. Запас душы*
*Вятрамі часу выдзімае.*
*І ўжо не боязна зграшыць*
*І ўжо сумленне менш даймае.*
*Мацёры розум усяму*
*Знайсці гатовы апраўданне:*
*Маўляў, а як карміць сям'ю…*

Я ў здзіўленні паглядзеў на тое, што напісалася. “Цікавае віншаванне атрымліваецца,” – падумалася. І спыніў гэтае вершаскладанне. Напісаў “прозай”.

Ты помніш тое застолле на кафедры? Я прывалокся на мыліцах з загіпсаванай нагой пасля аперацыі толькі дзеля таго, каб урачыста зачытаць віншаванне ад кіраўнікоў абласной і гарадской рады Таварыства беларускай мовы (той прыгожа афармлены аркуш, мяркую, у цябе яшчэ недзе захоўваецца). Заслугі перад мовай у цябе былі, што я заўсёды вітаў: ты і сам ёю карыстаўся, нават на лекцыях, ды іншых схіляў да таго. Таму ўрачыстае віншаванне было шчырым. Паслухаўшы віншаванне, ты крыху памаўчаў, а потым мовіў:

– Ну, за такое віншаванне трэба выпіць поўную!

Наліў сабе амаль поўны стакан (чарак на кафедры не было, скарысталі стаканы, у якіх звычайна пілі чай) і выпіў. Я падумаў тады: дарэмна ты рызыкуеш, усё ж арганізм не малады, можа не справіцца. Потым жанчыны пачалі чапляцца: “А за маё віншаванне поўную?!..” Казалі, што цябе потым выводзілі пад рукі, бо сам ісці не мог. Не ведаю, ці тое праўда, бо я, кульнуўшы свой стакан, пайшоў дадому далечваць нагу.

Нагадаю, чаму маё віншаванне было для цябе не зусім чаканым. Пад нашым (Таварыства беларускай мовы) ціскам улады пайшлі на некаторыя саступкі і адкрылі беларускую гімназію на базе адной з школ. Я стаў там выкладаць матэматыку ў пятым класе. Савецкі падручнік мне не падыходзіў, і я працаваў па сваіх вучэбных матэрыялах, якія адмыслова для гэтага класа распрацоўваў і якія мне нейкі спонсар дапамагаў памнажаць для класа ў патрэбнай колькасці. Па заканчэнні года я распавёў на кафедры пра сваю працу ў гімназіі і сказаў, што тыя матэрыялы я разглядаю як аснову для падручніка, які збіраюся пісаць, і што нам варта падумаць пра лабараторыю па стварэнні падручніка.

Ты паглядзеў на мяне нейкім дзіўным позіркам. Гэта цяпер я магу патлумачыць той позірк: ідэя напісаць падручнік зазірнула і ў тваю галаву. Праз некаторы час ты прапанаваў мне:

– Давай пісаць падручнік разам.

– Давай, – пагадзіўся я. – Толькі з адной умовай: кіраваць працэсам буду я.

Ты ўсміхнуўся, паціснуў плячыма і адышоў. І тады ты зразумеў, што далей нам, як двум мядзведзям у адной бярлозе, на кафедры не ўжыцца. Бо калі кафедры давядзецца выбіраць, які падручнік рэкамендаваць, няма гарантыі, што абяруць твой, і гэта моцна ўшчыкне тваё самалюбства. Мяркую, што ты ніяк не мог прызнаць, што я, як настаўнік, прыкметна вышэйшы за цябе. Бо ты ж начальнік, а мяне толькі нядаўна перавялі з асістэнта ў старшыя выкладчыкі.

Лабараторыя была створана. Ты ўгаварыў падключыцца Барыса, нашага аднакурсніка, дацэнта іншай кафедры, яшчэ сакратарку кафедры і – пайшла актыўная праца над тваім падручнікам.

А я пісаў свой без памочнікаў. І калі прапанаваў зрабіць пробны выпуск майго падручніка ў выдавецтве інстытута, каб разаслаць рэцэнзентам і настаўнікам, якія захочуць паэксперыментаваць з ім, ты адмовіўся зрабіць такі заказ ад кафедры. Пазней нават падвёў пад гэта нейкую нібыта лагічную базу: “Мяне ўсе пытаюць, а хто такі гэты Гуловіч…”

Ніхто ў цябе нічога не пытаў, гэта цябе самога пачаў тачыць чарвячок: а хто ён такі, каб гонар стварэння падручніка аддаць яму? “Адкажы ім, што Гуловіч – настаўнік з багатым досведам паспяховай практычнай працы з вучнямі і знаўца наватарскіх тэхналогій навучання, якімі актыўна дзеліцца з настаўнікамі.” Сказаў гэта не для “іх”, а для цябе, бо, мяркую, ты нічога не ведаў пра маю дзейнасць па-за кафедрай.

Ты, натуральна, не прысутнічаў на маіх лекцыях для настаўнікаў, на маіх семінарах у розных гарадах, не бачыў таго ажыятажу, які яны выклікалі, ты нават не звярнуў увагу (магчыма, не заўважыў) на публікацыі ў “Магілёўскай праўдзе” і “Настаўніцкай газеце” пра мой трохдзённы семінар у Магілёве, на які былі запрошаны 42 настаўнікі, а прыбылі 118; акрамя настаўнікаў нашай вобласці там былі настаўніцы з Казані, Масквы і Прыбалтыкі. Ты нават нічога не ведаў пра эксперыментальную працу мінскіх настаўнікаў па засваенні імі наватарскіх тэхналогій, якою я пяць год кіраваў. Ты, натуральна ж, не прысутнічаў на выніковай канферэнцыі па заканчэнні таго эксперымента і не чуў, што мне казалі настаўнікі. Я нешта расказваў на пасяджэннях кафедры, але гэта не выклікала цікавасці ні ў калег, ні ў цябе, мае паведамленні ігнараваліся (“прыняць да ведама” і… забыць). Табе, мяркую, і не хацелася таго ведаць, бо не хацелася прызнаваць маю прафесійную перавагу. Здарылася тое, аб чым я цябе папярэджваў. “Я такім не стану.” Стаў. З вышыні тваёй не такой ужо й высокай пасады я табе здаваўся кузюркай: “А хто ты такі!”

Ты не змог справіцца з сваёй ганарыстасцю. Гэта, дарэчы, біблійны грэх.

Я знайшоўварыянт абыйсці цябе. Новы прарэктар па навуцы, які спрабаваў выглядаць дэмакратам, выдзеліў мне грант на ства-

рэнне падручніка і ён быў выдадзены пробным выпускам у 120 асобнікаў. Для цябе гэта стала непрыемным сюрпрызам і ты выказаў прарэктару сваё незадавальненне, узняўшы скандал. Але справа была зроблена. Мой падручнік быў разасланы ў іншыя інстытуты на рэцэнзаванне і атрымаў тры станоўчыя рэцэнзіі. І ты занепакоіўся і вырашыў, што ад мяне трэба пазбавіцца. І пачаў “падводзіць базу” пад гэта.

На кафедры і ў прыватных гутарках час ад часу гучала, што мая эпісталярная і журналісцкая дзейнасць стварае праблемы для кафедры, перашкаджае нармальнай працы іншых выкладчыкаў і да т.п. Я разумеў такую тваю рыторыку і тое, чаго ты хочаш гэтым дабіцца. І ўнутрана прыняў такую перспектыву. Шчыра кажучы, мне надакучыла быць пастаянна ў канфрантацыі, яна адбірала шмат сіл і гэта пачынала адбівацца на нярвовай сістэме. Я гатовы быў прыняць, што на чарговым перавыбранні кафедра прад’явіць мне нейкія прэтэнзіі, якія я хутчэй за ўсё не прыму, і таму рэкамендацыі мне не дадуць. Прынамсі, табе вельмі хацелася такога выніку і я гатовы быў табе яго падарыць.

Але той, апошні для мяне навучальны год пачаўся цікава. Размяркоўвалі нагрузку. Ты прапанаваў мне чытаць курс “Асновы арыфметыкі”. Я той курс ніколі не чытаў, але ведаў, што там даволі тонкія, далікатныя доказы “відавочных” сцвярджэнняў, якія няпроста давесці да розуму студэнтаў. І адмовіўся. Праз колькі дзён ты зноў падышоў да мяне:

– Мікола, ну вазьмі ты гэты курс. Ніхто яго не хоча браць.

– Лёша, я ж разумею, што працую апошні год. Хутка маё перавыбранне і кафедра мяне хутчэй за ўсё не рэкамендуе. Навошта мне разбірацца з новым для мяне курсам, калі ён мне ніколі далей не спатрэбіцца.

– Ну што ты гаворыш! Чаму цябе кафедра не рэкамендуе? Будзеш ты працаваць далей. Ну вазьмі гэты курс…

– Калі ніхто не бярэ, яго ж можна перадаць іншай кафедры.

– Можна было б, але гэта трэ было зрабіць раней. Зараз ужо планы кафедрам даведзены. А потым, перадаць курс іншай ка-

федры – значыць, нагрузка кафедры зменшыцца. У нас могуць забраць стаўку. Вазьмі, я прашу цябе!

У цябе быў такі няшчасны выгляд, што я расчуліўся і падумаў: так і быць, разбяруся з асновамі арыфметыкі, можа, гэта дапаможа мне самому лепш усвядоміць аксіяматычную сутнасць матэматыкі. Пагадзіўся.

І вось за месяц да майго перавыбрання на маю лекцыю завіталі кантралёры – загадчык кафедры і дэкан. Ты запрасіў на гэтую дзею Леаніда адмыслова, бо ў яго таксама маглі быць нядобрыя пачуцці да мяне: выбары дэкана ў свой час прайшлі пад сцягам камуністаў і выбралі яго, а не Барыса, менавіта з-за заслуг перад партыяй, а не за прафесійныя якасці. Я пра тое напісаў у газеце, і якраз тая нататка была з крыўдай успрынята новаабраным дэканам, хаця ўхвальна ўспрынята на факультэце і на кафедры, ты пра яе ведаеш. Таму лёгка было вызначыць, каго запрасіць паслухаць маю лекцыю.

Кантралёры без папярэджання зайшлі ў аўдыторыю, калі лекцыя ўжо пачалася, з хмурым выглядам агледзелі прысутных і селі наперадзе. З сарака студэнтаў, якія павінны былі слухаць лекцыю, прысутнічалі каля паловы. На той час дзейнічаў статут універсітэта, адпаведна якому студэнты мелі права вольнага наведвання лекцый і шмат хто з іх тым правам карысталіся (не толькі ў дачыненні маіх лекцый). Я той артыкул статута лічыў правамоцным, бо і самому ў студэнцкія гады даводзілася слухаць лекцыі, якія нічога ні розуму, ні сэрцу не давалі, і лепш было б патраціць той час на нейкую карысную справу. І калі прысутнічаць на лекцыях па методыцы ці па элементарнай матэматыцы я ўсё ж патрабаваў, то ў адносінах іншых лекцый паводзіў сябе больш дэмакратычна. А гэта была лекцыя па асновах арыфметыкі, тонкасці гэтых асноў большасці студэнтаў і асабліва студэнтак былі ў значнай меры недаступнымі і – галоўнае! – непатрэбнымі.

Так, так, ты прышоў кантраляваць менавіта лекцыю з курса асноў арыфметыкі, які так настойліва ўгаворваў мяне ўзяць, бо “ніхто не бярэ”. Прычына твайго з дэканам з’яўлення на гэтай лекцыі была мне відавочнай. І я не тое, каб расхваляваўся, але

хутчэй захлынуўся абурэннем ад чарговай тваёй подласці. У такіх пачуццях я імкнуўся спакойна чытаць лекцыю, але неяк не ўтрымаў тонкай ніткі аднаго доказу, заблытаўся.

Першым памкненнем было ўзяць падрыхтаваны мною план лекцыі з усімі доказамі, які ляжаў на стале, і выправіць хібу ў запісах на дошцы. Але… я гэтага не зрабіў. Па-першае, у цябе ўжо быў “набытак”, за якім ты ішоў на лекцыю, – папрок у нібыта недастаткова якаснай падрыхтоўцы лекцый выкладчыкам. Па-другое, мне ўспомнілася тое, што ты сам чытаеш свае лекцыі па запісах, якія трымаеш у руках і ў якія заглядваеш, па шпаргалках. Я аднойчы пацікавіўся ў цябе, як рэагуюць студэнты на такую асаблівасць тваіх лекцый. Ты ўсміхнуўся:

– Аднойчы сказалі: калі вы чытаеце па шпаргалках, то і нам можна здаваць іспыты па шпаргалках? Я ім сказаў, што права карыстацца шпаргалкамі трэба заслужыць.

Твой аргумент мяне тады не пераканаў, я ўсё ж лічыў, што такое чытанне лекцый выклікае недавер да выкладчыка, да яго ведаў. І гэты ўспамін спыніў мяне, калі я пацягнуўся да сваіх запісаў. Я вырашыў сам разабрацца ў сваёй памылцы. Выбачыўся перад студэнтамі і задумаўся. Была замінка на паўтары-дзве хвіліны, але я знайшоў згубленую нітку доказу і давёў доказ да лагічнага канца.

Калі лекцыя скончылася, я затрымаўся на сваім месцы, мяркуючы, што кантралёры падыдуць да мяне і нешта скажуць, ухвальнае ці крытычнае. Так звычайна робіцца, што кантралёр хаця б коратка выказвае лектару сваё ўражанне ад лекцыі. Тут нічога такога не было. Кантралёры пасунуліся з аўдыторыі з тымі ж выразамі твараў, з якімі і прышлі. І далей ніякага абмеркавання лекцыі не было. Праўда, папрок у адсутнасці паловы студэнтаў я пачуў. Але гэты папрок я не мог прыняць, бо гэты папрок не да мяне, а да кіраўніцтва ўніверсітэта, якое прыняла адпаведную норму статута.

Твае (і не толькі твае) прыдзіркі да мяне, да маёй працы, на жаль, пераносіліся і на “маіх” студэнтаў. Курсавыя і дыпломныя працы, напісаныя пад маім кіраўніцтвам, ацэньваліся значна

больш крытычна, чым іншыя. Я вымушаны стаў папярэджваць студэнтаў, якія выбіралі супрацу са мной, што яны рызыкуюць атрымаць невысокую адзнаку. Некаторыя ішлі шукаць кіраўніка без такой небяспекі, іншыя ж пагаджаліся рызыкаваць і пераважна атрымлівалі тое, аб чым я папярэджваў. Два выпадкі лічу вартым узгадаць тут.

Дзяўчына-выдатніца, якая планавала атрымаць чырвоны дыплом, на пятым курсе нарадзіла дзіця і па гэтай прычыне не змагла якасна закончыць дыпломную працу. Прычапіцца пры жаданні было да чаго, хаця хібы не былі істотнымі. Такая важлівая прычына звычайна ўлічваецца пры абароне дыпломных, тым болей для чалавека, які на працягу пяці год навучання меў на іспытах адны выдатныя адзнакі. Але тут не той выпадак. Прозвішча кіраўніка прагучала і дыпломная праца была ацэнена не выдатна, дзяўчына чырвонага дыплома не атрымала.

Іншы студэнт зацікавіўся праблемай, пра якую пачуў на маёй лекцыі, і захацеў працаваць над праблемай у фармаце курсавой і дыпломнай працы. Праца атрымлівалася цікавай і карыснай, але я баяўся, што яго напаткае лёс той дзяўчыны і прыдумаў засцерагальны варыянт: на аснове дыпломнай працы мы напісалі сумесны артыкул для метадычнага часопіса. На шчасце, публікацыя з’явілася якраз перад абаронай дыпломных прац. І калі да якасці дыпломнай працы юнака пачаліся крытычныя заўвагі, якія хутчэй за ўсё скончыліся б не выдатнай адзнакай, я прад’явіў камісіі часопіс з тэкстам артыкула. Каб артыкул студэнта, звязаны з яго дыпломнай працай, быў надрукаваны ў паважаным часопісе, – такога ў гісторыі інстытута яшчэ не было. Збянтэжаныя крытыкі прыціхлі. Хлопец атрымаў свой заслужаны чырвоны дыплом і зараз выкладае матэматыку ў іншым універсітэце.

Але ўсе такія сітуацыі прывялі ўрэшце да таго, што колькасць курсавых і дыпломных прац, напісаных пад маім кіраўніцтвам, пачала змяншацца. І гэта стала падставай для новых папрокаў.

Варта ўспомніць яшчэ адзін прыкметны эпізод. У 90-х гадах пачалася нейкая нібыта мадэрнізацыя ўсяго (жылі ж як-ніяк ужо ў новай краіне!), мадэрнізацыя не па сутнасці, але найперш знеш-

няга антуражу. Не абышла тая мадэрнізацыя і сістэму адукацыі: інстытуты сталі пераназываць універсітэтамі, як быццам гэтыя ВНУ выходзілі на новы ўзровень дзейнасці. Міністэрства адукацыі стварала конкурсныя і атэстацыйныя камісіі, распрацоўвала парадак пераходу да новай назвы, павышаючы неабходны працэнт дыпламаваных спецыялістаў, карацей, стварала імітацыю бурлівай працы.

Урэшце і наш педагагічны інстытут пераназвалі ва ўніверсітэт і ў ім пайшлі новыя пераназыванні. Нашу кафедру методыкі выкладання матэматыкі пераназвалі ў кафедру дыдактыкі матэматыкі. Патрабавалася распрацаваць праграму і вучэбныя планы новага (нібыта новага) курса дыдактыкі матэматыкі.

Калі на пасяджэнні кафедры вырашалі, каму даручыць распрацаваць праграму, ты прапанаваў кандыдатуру дацэнта Пірагоўскага. А нехта падаў рэпліку:

– А няхай і Гуловіч займецца гэтым.

Ты паглядзеў на мяне, мяркуючы, што стану адмаўляцца, але я, можа, нечакана для цябе, заявіў, што з задавальненнем займуся гэтай справай. Было вырашана, што па заканчэнні працы з двух праграм будзе створана адна, калі яны будуць блізкімі, або кафедра зацвердзіць абедзве праграмы і далей кожны выкладчык будзе выбіраць, па якой праграме працаваць.

Выявілася пасля, што першы варыянт немагчымы, праграмы аказаліся вельмі адрознымі. Пірагоўскі не стаў доўга мудрыць. Ён узяў ранейшую праграму па методыцы выкладання матэматыкі, навёў там лёгкі флёр, памяняў некаторыя словы (найперш слова “методыка” на слова “дыдактыка”) і гэтым абмежаваўся. Яно й зразумела: уключаць у праграму нешта новае – значыць, прыдзецца распрацоўваць новыя лекцыі, а навошта лішнія клопаты, калі і тое, што было, задавальняе. Мая ж праграма была новай цалкам, новай настолькі, што чытаць лекцыі па гэтай праграме наўрад ці хто з калег узяўся б. Фактычна, гэта была праграма толькі для аднаго выкладчыка кафедры.

Я меркаваў, што пры абмеркаванні праграм на кафедры я змагу выказаць свае крытычныя заўвагі наконт ранейшай прагра-

мы, якія, магчыма, дапамогуць удасканаліць праграму Пірагоўскага, змагу агучыць педагагічныя пазіцыі, на якіх грунтуецца мая праграма. Але здарылася нечаканае: ты проста не даў мне слова для прадстаўлення свайго праекта і для выказвання меркаванняў аб другім праекце. Кафедрай быў зацверджаны адзін з падрыхтаваных варыянтаў праграмы і адбылося тое з грубымі парушэннямі дэмакратычных і этычных норм, якія існавалі на кафедры раней.

Мне давялося звярнуцца да прарэктара па вучэбнай працы з выказваннем нязгоды адносна рашэння кафедры і з прапановай даслаць маю праграму на знешняе рэцэнзаванне. Прарэктар, разумеючы, што з гэтага можа вырасці новы скандал, усё ж угаварыў цябе зацвердзіць маю праграму, што і было зроблена на чарговым пасяджэнні кафедры. Я пачаў чытаць свае "нетрадыцыйныя" лекцыі ўжо на законнай падставе.

Я не стану пералічваць іншыя твае адпаведныя дзеянні; з прыкрасцю адзначу, што іх хапала. Але адзін вельмі выразны прыклад абысці не магу.

У інстытуце (дакладней, на нашым факультэце) знайшліся людзі, якія ўмелі някепска жартаваць, і стварылася каманда КВЗ "Фізмат і К°" (звычайна называлі "Фізмацік"), якая недзе й перамагала. Капітан "Фізмаціка", улюбёнец факультэта, шмат сіл і часу страчваў на прыдумкі, на каманду, на конкурсы, на ўсё, чаго патрабаваў клуб вясёлых і знаходлівых, і гэтых сіл і часу не заставалася на падрыхтоўку да заняткаў.

"*Аву, аву, аву, я цябе пакладу ў траву.*

*Аву, аву, аву – і аву!*..."

Нягледзячы на прымітыўнасць такога гумару, ён быў для маладога народа нязвыклым. Перабудова выпускала пары нават у гэтым. І зала рагатала і пляскала.

Не ведаю, як іншыя выкладчыкі ставілі яму залікі. І я рабіў бы яму скідкі, калі б ён прынёс мне хоць нешта з таго, што патрабавалася выканаць, бо, што ні кажы, мы рыхтавалі настаўнікаў матэматыкі, а не арганізатараў забаўляльных мерапрыемстваў. Але ён не прыносіў нічога. І залік я не паставіў. На мяне пачалі ціс-

нуць – і з прафсаюза, і з камсамольскай арганізацыі, і асобныя выкладчыкі. Была размова з дэканам, якому я патлумачыў сітуацыю. Той мяне, здаецца, зразумеў і больш не выклікаў. Але калі мне ледзь не кінулася ў ногі бабуля гэтага "вясёлага і знаходлівага" (яна працавала ў інстытуце вахторкай) з просьбай паставіць яму залік, тут я ўскіпеў і, прышоўшы на занятак, выказаў хлопцу сваё абурэнне ў даволі рэзкай форме: маўляў, гатовы родную бабулю на калені паставіць замест таго, каб выканаць некалькі простых заданняў, на якія не трэба шмат часу.

Хлопец прасядзеў занятак пачырванелым, але група ўзвілася ў яго абарону. Знайшлася ініцыятарка, якая напісала ліст дэкану: "Просім памяняць нам выкладчыка, бо мы не задаволены атрыманымі ведамі па методыцы выкладання матэматыкі". І пусцілі ліст па руках для подпісаў. Падпісаліся больш за палову з дзвюх маіх груп. Паставіў подпіс і капітан, вясёлы і знаходлівы. Нехта з тых, хто адмовіўся падпісаць, спрабаваў супакоіць, прытушыць эмоцыі, але дзе там, – курс усхадзіўся не на жартачкі. Заява пайшла ў дэканат.

Дэкан, атрымаўшы той ліст, пераправіў яго табе з прыпіскай "Прашу разабрацца па сутнасці. Вынікі разгляду падаць у дэканат у пісьмовым выглядзе." Той ліст ты мне паказаў. Я пацiснуў плячыма і сказаў, што гатовы ў прысутнасці каго заўгодна абмяркоўваць з студэнтамі асаблівасці сваіх заняткаў. І стаў чакаць, калі ты прызначыш такое абмеркаванне. Пачакаўшы некалькі месяцаў, нагадаў табе аб неабходнасці разгледзець той ліст. Ты сказаў "Добра!" і… зноў забыў. Тады я звярнуўся да студэнтаў:

– Вы падавалі заяву ў дэканат, але там пра яе, мабыць, забылі. Напомніце, калі ласка.

Але студэнты ўжо астылі і, адводзячы вочы, маўчалі, нагадваць пра сваю заяву не захацелі. Я зноў табе напомніў пра заяву, але ты чарговы раз адмахнуўся і "забыў". Чаму я так турбаваўся разгледзець тую заяву? Бо ведаю, што такое незакрытая паперка, яна можа ўсплыць у любы момант, калі спатрэбіцца ўпікнуць чалавека нейкай правінай. І ў тым, што табе не хацелася яе

закрываць, убачыў менавіта тое: ты рыхтаваў на мяне кампрамат і тая паперка вельмі добра пасавала да гэтай мэты.

Заняткі я працягваў, як і раней. Яны ўжо студэнтаў чамусьці сталі задавальняць. Па заканчэнні чацвёртага курса далей я ўжо з імі не працаваў. Але па заканчэнні пятага курса яны здавалі дзяржаўны іспыт па методыцы выкладання матэматыкі і, атрымаўшы свае “чацвёркі” і “пяцёркі”, раз’ехаліся па месцах працы.

Студэнты раз’ехаліся, а паперку ты прыхаваў і чакаў часу “ікс”, каб ёю стрэліць.

І вось надышоў час майго перавыбрання.

Ты помніш тое лістападаўскае пасяджэнне? Кафедра, наструненая табой (прынамсі, яе жаночая частка), сядзела з сур’ёзнымі тварамі, гатовая даць бой “парушальніку спакою”. Традыцыйных жартаў, смяшочкаў не было. Толькі наш ветэран Фёдар Сямёнавіч спрабаваў унесці нейкае ажыўленне і дзівіўся, што на яго жарты ніхто не рэагуе. Ты даў слова мне і я, датуль даволі спакойны, раптам расхваляваўся. Нешта наплыло на мае мазгі, затрэсла цела. Я глыбока ўздыхнуў, каб скінуць тое насланнё, і гамзатым (усё ж праціўна-гамзатым) голасам зачытаў сваю “публіцыстычную” (як вы яе пазней назвалі) справаздачу. Яна заканчвалася словамі аб тым, што я гатовы сысці з кафедры і прыму такое рашэнне з разуменнем і без крыўды. Ты адразу схапіўся за гэты падарунак. Ты не паставіў на галасаванне “зацвердзіць справаздачу”, ты нават не прапанаваў абмяркоўваць яе. Ты абвёў кафедру прасвятлелымі вачыма і сказаў: “Ну калі ён так хоча, давайце падтрымаем яго прапанову”. І прагаласавалі – таемна. Супраць майго звальнення былі трое, адзін з іх – я сам, яшчэ двое – Фёдар Сямёнавіч і былы наш студэнт Раман, якога толькі прынялі на кафедру. Гэта няцяжка было вылічыць.

Потым цябе ў дэканаце паправілі, маўляў, не па форме праведзена пасяджэнне, трэба паўтарыць і ты праз тыдзень сабраў кафедру зноў, каб зрабіць “па форме”. Я паўтарыў пра сваю гатоўнасць сысці.

Яшчэ больш цікавае адбылося на радзе факультэта. Туды я прыйшоў цалкам супакоеным, зацікаўлены пытаннем, як ты аргу-

ментуеш такое рашэнне кафедры. Бо калі на кафедры доўга тлумачыць не трэба было, то прадстаўнікам іншых кафедр тое тлумачыць давялося б. І вось там ты выліў на мяне ўвесь сабраны кампрамат – і тое, што я не займаюся навуковай працай (напісаны мною падручнік не ўпамянуў, тое з твайго гледзішча праца ненавуковая, і не палічыў патрэбным адзначыць навуковае кіраўніцтва эксперыментальнай працай мінскіх настаўнікаў і мой удзел у навукова-метадычных канферэнцыях, у тым ліку ўсесаюзных і міжнародных), і тое, што кепска рыхтуюся да лекцый (маўляў, дапускае памылкі ў лекцыях), і тое, што студэнты на мае лекцыі не ходзяць, і – “нават патрабавалі замяніць ім выкладчыка”. Гэта быў самы важкі козыр! Дастаў усё ж прыхаваную бомбу і – ляснуў!

– Колькі вам часу трэба на адказ?– спыталі ў мяне.

– Хвілін дванаццаць.

– Не, гэта многа. Хопіць пяці.

Пяць дык пяць, я ўклаўся ў пяць хвілін. Там гэта ўжо нічога не вырашала.

Па заканчэнні нядаўна абраны прарэктар Радзюкоў падышоў да мяне:

– Ну як ты лічыш, цяпер усё зроблена па законе?

– Не, – адказаў я, – парушэнняў шмат. Але я супраціўляцца не буду.

Сапраўды, у працэдурных пытаннях ты невялікі знаўца. І калі б я паставіў за мэту абараніцца, то зрабіць тое было б няцяжка. Тым болей з маім ранейшым юрыдычным досведам. Тады, калі рашэнне аб маім неперавыбранні было перагледжана, супрацоўнікі інстытута палічылі мяне юрыдычна падкаваным і шмат хто прыходзілі да мяне на кансультацыі з той ці іншай праблемай. Такім чынам і я больш грунтоўна паглыбіўся ў гэтыя пытанні. Але тут мая юрыдычная падкаванасць была без патрэбы. Ты мяне прыцягнуў на кафедру, ты і выцягнуў з яе. Працаваць далей побач з табой мне стала нецікава.

Мы “развяліся” – так гэта назвалі жанчыны на кафедры. Некаторы час нам яшчэ трэ было правесці побач, бо я дапрацоўваў навучальны год. Пазбавіцца ад мяне адразу ты не мог, бо некаму

